THE WHITE-RUSSIAN ACADEMY of SCIENCES
INSTITUTE of PHILOSOPHY

S. WOLFSON,
member of the Academy

# AGAINST
# THE RACE THEORIES

PUBLISHERS: THE WHITE-RUSSIAN ACADEMY of SCIENCES
MINSK 1935

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
ІНСТЫТУТ ФІЛАСОФІІ

Акад. С. Я. ВОЛЬФСОН

# СУПРОЦЬ РАСАВЫХ ТЭОРЫЙ






ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК 1935

## РАСАВЫЯ ТЭОРЫІ— ЗБРОЯ КЛАСАВАГА ВОРАГА

Зусім невыпадкова адной з галоўных ідэалагічных зброяў германскага фашызма з'яўляецца расавая прапаганда, прапаганда заалагічнага шавінізма; гэта ўсё, што фашысцкія мракабесы могуць прад'явіць для абгрунтавання і разам з тым замаскавання агрэсіўных важдзяленняў германскага фінансавага капітала, які адкрыта дабіваецца крывавай перакройкі карты Еўропы ў сваю карысць. Асноўная мэта, якую мае расавая прапаганда фашызма, заключаецца ў тым, каб „біялагічна“ абгрунтаваць ваяўнічы нацыяналізм фінансавага капітала, яго імперыялістычную агрэсіўнасць. Яна накіравана к доказу перавагі „сваей“ расы над усімі іншымі і, значыцца, выцякаючай адсюль „справядлівасці“ падрыхтоўваемых фашызмам разбойніцкіх войнаў. Надзяляючы „паўночную расу“ ўсімі і ўсялякімі доблесцямі, паны фашысты такім чынам прабуюць даказаць, што гэта выбраная раса—германскі імперыялізм—мае ўсе „абгрунтаванні“ панаваць і прыгнятаць усе астатнія расы. Грабежніцкія нахільнасці магнатаў фінансавага капітала раскрываюцца ў разважаннях расісцкіх тэарэтыкаў, гэтых наёмнікаў ваяўнічых эксплуататараў, даволі акрэслена.

Расавая прапаганда фашызма носіць ярка антысавецкі характар. З яе дапамогай фашысцкія мракабесы ў бяссільнай злобе супроць рускага рабочага класа, адкрыўшага шырокі шлях народам нашай краіны да новага жыцця і культуры, абгрунтоўваюць грабежніцкія планы германскага імперыялізма супроць СССР. Гітлер у „Маёй барацьбе“ заяўляе, што „арганізацыя рускай дзяржавы была... бліскучым прыкладам дзяржаўна-творчай дзейнасці германскага элемента сярод ніжэй стаячай расы“. Яго тэарэтычны зброеносец Альфрэд Розенберг адкрыта заклікае да ўзброенага паходу супроць „манголаідных сіл“ пануючых на тэрыторыі былой царскай Расіі. Германскі фашызм, выступаючы ў ролі падпальшчыка і правакатара вайны, для падняволення народаў Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы, адкрыта трэтыруе як істоты ніжэйшага парадку, як „малпавых недаросткаў“ прадстаўнікоў гэтых народаў. Ён трэтыруе мільёны свабодных грамадзян нашай вялікай социялістычнай радзімы—

татар, узбекаў, яўрэяў, украінцаў, беларусоў і інш. — як „ніжэйшую чалавечую пароду“, абвяшчае іх „прыроджанымі рабамі“, якім патрэбна моцная гаспадарская рука, і тым самым прабуе абгрунтаваць неабходнасць пeратварэння Совецкай Украіны, Совецкай Беларусі і іншых частак Совецкага саюза ў калонію германскага імперыялізма.

Расавая прапаганда фашыстаў, іх расавая палітыка, увесь іх прасякнуты звярыным шавіністычным ядам расізм, служаць барацьбе з пролетарскай рэволюцыяй, служаць ідэалагічнай падрыхтоўкай новай імперыялістычнай вайны, якую германскі імперыялізм у саюзе і пры падтрыманні сваіх саюзнікаў з асяроддзя польскай, японскай, фінляндскай і іншай буржуазіі рыхтуе супроць краіны Советаў. У гэтых умовах раса, паводле дасціпнай заўвагі тав. М. М. Літвінава на IV сесіі ЦВК СССР, перастала быць этычным і антрапалагічным паняццем і стала чымсці накшталт назвы баявой арганізацыі. Вось чаму выкрыццё расісцкай ідэалогіі з‘яўляецца важнейшай задачай работнікаў нашага тэарэтычнага фронта, задачай, выцякаючай з нашай барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм, за інтэрнацыянальнае выхаванне мас.

Ужо ў глыбокай старажытнасці мы сустракаемся са спробамі абгрунтаваць няроўнасць паміж людзьмі іх „уроджанымі“, „прыроднымі“ ўласцівасцямі (Арыстотэль). Гэтыя спробы неаднаразова прадпрымаліся ідэолагамі эксплуататараў як у рабаўласніцкую, так і ў феадальную эпоху. Найбольш цэльнае і „стройнае“ афармленне яны набылі пры капіталізме ў выглядзе так званых „расавых тэорый“.

Расавыя тэорыі ўзніклі як спроба навукападобнага „абгрунтавання“ права „перадавых“, „культурных“ „цывілізаваных“ еўрапейскіх нацый панаваць над „прымітыўнымі“, „дзікімі“, „неразвітымі“ і „няздольнымі развівацца“ плямёнамі Азіі, Афрыкі і іншых кантынентаў, карацей кажучы, як спроба імем навукі санкцыянаваць каланіяльна-грабежніцкую палітыку імперыялізма.

Вульгарна-механічна талкуючыя гістарычны працэс, пабудаваныя на сістэматычным фальсіфікаванні фактаў, поўныя лёгкадумнага псеўданавуковага тэарэтызавання „працы“ асновапаложнікаў фашызма Гобіно, Чэмберлена, Ляпужа маглі ў працягу некаторага часу несці прадназначаную ім службу—дурманіць мазгі дробнай буржуазіі, гарадскога мяшчанства і сялянства, часткі інтэлігенцыі, чыноўніцтва, рамеснікаў, расісцкай канцэпцыяй сусветнай гісторыі і міфам арыйскага расавага выбранніцтва. Іх кароткачасоваму поспеху сярод гэтых слаёў насельніцтва спрыяла тое, што яны давалі новую дэмагагічную зброю ў рукі чорнасоценных антысемітаў, што яны „падводзілі базу“ пад крывавыя расправы амерыканскіх імперыялістаў з неграмі, што яны распальвалі нацыяналістычныя інстынкты. Аднак іх навуковая

негрунтоўнасць, ілжывая дэмагогія і грубае фальсіфікаванне гістарычнай сапраўднасці даволі хутка пазбавіла іх аўтарытэта нават у тых адсталых слаях, сярод якіх яны пры з'яўленні заваявалі некаторую папулярнасць.

На пярэдадні другога тура войн і рэвалюцый, у нястомных спробах выратаваць сваю падаючую ўладу, арганізуючы фашысцкую дыктатуру, буржуазія выклікае самыя злавешчыя цені мінулага, калі гэта толькі ўнушае ёй надзею на новую магчымасць адурманіць масы і тым адтэрмінаваць сваю гібель.

Вось чаму пасля гадоў поўзабвення, якому былі аддадзены пісанні асновапаложнікаў расізма, яны выцягваюцца наёмнікамі фінансавага капітала з-пад спуда, абвяшчаюцца крыніцамі нацыянальнай мудрасці, прадуктам навуковага генія і інш. і інш. Ілжывая поўграматная страпня Гобіно і Чэмберленаў нараджае сотні пераймальнікаў, па вобразу і падабенству сваіх настаўнікаў, ствараючых дэмагагічныя „навуковыя" фальшыўкі аб богавыбраных арыйцах і „недачалавеках".

Мы з'яўляемся сведкамі таго, як фашысцкая Германія перажывае прыпадак расісцкага шаленства, якое найбольш агрэсіўныя і рэакцыйныя элементы фінансавага капітала імкнуцца прывіць вялікаму народу, упісаўшаму многа слаўных старонак у гісторыю чалавечай культуры.

У „краіне паэтаў і філосафаў" распаўсюджваюцца статыстычныя справачнікі, у якіх паведамляецца, што насельніцтва зямнога шара без малп і лятучых мышэй вызначаецца ў 1 млрд. 600 млн. прыматаў, з іх 900 млн. людзей, а астатняя колькасць—чалавекападобныя прамежкавыя істоты (Menschenähnliche Zwischenglieder) розных ступеней развіцця, як малайцы, эфіёпскія і мангольскія плямёны і яўрэі.

У справе адурманьвання мас, зацямнення іх класавай самасвядомасці буржуазія пачынае аддаваць расавым тэорыям тое месца, якое вякамі належала зараз заходзячай рэлігіі.

Тая вакханалія расізма, якая разыгрываецца ў гітлераўскай Германіі, зразумела, не абумоўлена якімі-небудзь „расавымі уласцівасцямі". Яна — рэзультат таго, што там ажыццяўляюць крывавую дыктатуру самыя рэакцыйныя і шавіністычныя кругі эксплуататараў, для якіх ва ўмовах жорсткай барацьбы з пралетарыятам расавыя тэорыі даюць многа дэмагагічных магчымасцей.

Аб тым, як цэпка хапаюцца эксплуататарскія класы за гэтыя магчымасці, як актыўна скарыстоўваюць яны ў сваіх класавых мэтах расісцкія вымыслы, красамоўна паказваюць таксама даныя аб расавых тэорыях на службе вялікадзяржаўнага шавінізма і мясцовых нацыяналізмаў. Гэтыя даныя яшчэ ярчэй выкрываюць класавыя карэнні расавых тэорый, яшчэ больш пераканаўча паказваюць палітычнае назначэнне расавай прапаганды, ажыццяўляемай агалцелымі прыслужнікамі фінансавага капітала.

## „БІЯЛАГІЧНЫ СВЕТАПОГЛЯД“ ФАШЫСТАЎ

Буржуазная навука ў мэтах тэарэтычнага асвяшчэння капіталістычнага ладу здаўна імкнулася „натуралізаваць“ грамадскі працэс. Падобнага роду спробы зводзяцца да атоесамлення прыродных і грамадскіх законамернасцей, да падпарадкавання прыроды і грамадства адным і тым-жа законам. „Натуралістычнае“ разуменне гісторыі праследуе зусім ясныя і пэўныя класавыя мэты, вычэрпваюча выкрытыя яшчэ Марксам у „Капітале“ і іншых работах. „Гаворачы, што існуючыя адносіны, г. зн. адносіны буржуазнай вытворчасці—натуральны, эканамісты хочуць гэтым сказаць, што пры гэтых адносінах вытворчасць багацця і развіцця прадукцыйных сіл адбываюцца адпаведна законам прыроды. Таму і самі названыя адносіны аказваюцца натуральнымі законамі, незалежнымі ад уплыву часу“...[1])

У гэтых словах асновапаложнікаў навуковага комунізма выразна ўскрыты тыя пабуджальныя прычыны, якія прымушаюць буржуазных вучоных, працуючых у розных навуковых галінах, з асаблівай настойлівасцю і ўпартасцю аднаўляць у самых featured рознастайных формах спробы „натуралістычнага“ вытлумачэння грамадскага жыцця. Даволі ўспомніць тут аб Мальтусе з яго універсальным і абстрактным законам насельніцтва, як главенствуючым прынцыпам усяго грамадскага жыцця, аб Герберце Спенсеру і ўсей спенсераўскай школе, не пашоўшай далей вульгарна-механістычнай аналогіі паміж грамадствам і арганізмам, аб усей плеядзе соцыяльных дарвіністаў на чале з Отто Амонам, падпарадкоўваючых грамадскае жыццё ўсёабдымнаму закону барацьбы за існаванне і натуральнага адбору; аб староннiках геаграфічнага фактара, выводзячых падобна Ратцэлю грамадскія адносіны непасрэдна з геаграфічных умоў; аб спробах падыйсці да грамадства з пазіцый „соцыяльнай энергетыкі“ Багданава або „калектыўнай рэфлексалогіі“ Бехцерава; аб соцыял-фашысцкіх фальсіфікацыях гістарычнага матэрыялізма „пад Дарвіна“—ад Вольтмана да Кауцкага.

Што яднае ўсю гэту стракатую кампанію „натуралізатараў“ грамадскага жыцця, спрабуючых звесці яго да біялагіч-

[1]) Маркс—Энгельс, Собр. соч., ИМЭЛ, т. V, стр. 373-374.

нага, геаграфічнага, энергетычнага і іншых „натуральных“ прынцыпаў?

Адказ не прадстаўляе затрудненняў: „Такая спасылка здаецца „навуковай“ і дасканала ўсыпляе абыватэля, зацямняючы галоўнае і асноўнае: раскол грамадства на непрымірыма варожыя класы“[1]).

Буржуазія ніколі можа быць не рабіла яшчэ такіх сударглівых спроб зацямніць галоўнае і асноўнае ў гістарычным працэсе, як у сучасны момант, калі свет знаходзіцца на парозе другога тура войн і рэволюцый. І таму зусім законамерна, што яна іменна цяпер з такой нестрыманасцю „натуралізуе“ ўсе з'явы грамадскага жыцця. Ідэолагі загніваючага капіталізма літаральна расшыбаюць ілбы, стараючыся даказаць, што ключ к разуменню ўсяго, што адбываецца ў прыродзе і грамадстве, дае біялогія, што „марксісцкаму соцыялагічнаму міфу“ класа і класавай барацьбы процістаяць непахісныя біялагічныя адзінствы сям'і і расы, гэтых „асноўных рухаючых фактараў“ грамадскага працэсу.

Мы тут сутыкаемся з вельмі тыповай з'явай: буржуазныя вучоныя загніваючага капіталізма вышукваюць у арсенале буржуазнай навукі старую, даўно пакрыўшуюся іржаўчынай тэарэтычную зброю мінулых дзесяцігоддзяў і стараюцца прыспасобіць яе к патрэбам капіталізма, які перажывае свой усеагульны крызіс. Вось чаму так мала арыгінальны, наскрозь эклектычны ўсе „вышукі“ вучоных апалагетаў паміраючага капіталізма. Адзінае, што іх адрознівае ад сваіх „правобразаў“—гэта большая ступень вульгарызатарства і бессаромная соцыяльная дэмагогія, якая пераплятаецца з адкрытым прыслужваннем эксплуататарам. У гэтым і заключаецца іх „навізна“.

Пісанні сучасных буржуазных „натуралізатараў“ і „біялагізатараў“ грамадскага жыцця даюць таму асоба яркія ўзоры.

Калі пералістваеш „навейшыя“ вышуканні такога сталпа фашысцкага расазнаўства, як Ганс Гюнтэр, то адчуваеш, як пад рукой у цябе шалясцяць старонкі „Арыйскага светапогляду“, „Палітычных ідэалаў“ і іншых „класічных“ твораў Гаўстона Чэмберлена... „Модныя“ разважанні Эдуарда Іста зводзяцца да паўтарэння на новым „фактычным матэрыяле“ старых довадаў Амона. Як тупыя начотчыкі цвердзяць усе гэтыя Плятэ, Ленцы, Фішэры спенсераўскія зады аб свяшчэннай непарушнасці натуральнага адбору і аб злачыннасці ўсякага супраціўлення яму. А ўся фашысцкая і фашыствуючая „навука аб народанасельніцтве“ прадстаўляе сабой ні што іншае, як своеасаблівы выварат мальтузіянства, спробу рэстаўраваць і відазмяняць у адпаведнасці з умовамі загні-

[1]) В. И. Ленин, Собр. соч., т. XIV, ч. II, изд. I, стр. 303.

вання капіталізма „глыбокую нізкасць“, як гаварыў Маркс, мальтузіянскіх ідэй...

Галоўнай задачай, якую вырашаюць сучасныя „натуралізатары“ грамадскага працэсу, з'яўляецца процістаўленне марксісцкай тэорыі класавай барацьбы тэзіса аб біялагічнай няроўнацэннасці паасобных груп і слаёў чалавецтва (ніжэй мы падрабязней укажам, як мысляцца фашыствуючымі вучонымі гэтыя слаі і групы). Мадэрнізуючы і „паглыбляючы“ довады, якія развівалі—Вольтман, абгрунтоўваючы сваю „палітычную антрапалогію“ і Шальмайер—сваю „нацыянальную біялогію“,—іх фашыствуючыя пераемнікі (Гюнтэр, Ленц, Плетус і т. д.) даказваюць, што біялагічная няроўнацэннасць паасобных груп насельніцтва з'яўляецца адпраўным пунктам для разумення ўсяго гістарычнага працэсу. Прыкрываючыся плашчом гелертэрскай фразеалогіі, яны развіваюць тую-ж філасофію грамадскага жыцця, якую без лішніх акалічнасцей ізлажыў у сваім вядомым мемарандуме „Задачы Японіі ў эпоху Сіова“ правадыр японскага ваеннафашысцкага руху генерал Аракі [1]).

У гэтым цікавым дакуменце правадыр японскіх фашыстаў апалчаецца супроць „памылковай філасофіі аб адсутнасці адрозненняў“, якой прысвячае цэлую главу свайго мемарандума.

І сапраўды: „...няма нічога з існуючага ў космасе, што не мела-б сваей мэты: і ў сонца, і ў месяца, і ў безлічы зорак, і ў зямнога шара—ва ўсіх ёсць акрэсленая мэта. Гэта-ж можна сказаць і пра наш свет: як у чалавека ёсць характэрныя для яго чалавечыя ўласцівасці і асаблівасці, так і кожная жывёла, кожная расліна мае свае ўласцівасці. Толькі там, дзе ёсць адрозненне, ствараецца годнасць... Лягавы і пудэль — сабакі. Але-ж існуе вялікае адрозненне між імі... Тое-ж самае мы маем і ў свеце чалавека. Калі тут не існуе вялікага адрознення паміж людзьмі ў адносінах знадворнага выгляду, дык усё-ж існуюць адрозненні, вызначаемыя расавай прыналежнасцю і нацыянальнасцю. У нас, у японцаў, ёсць свае ўласцівасці і свая мэта, а ў кітайцаў свае асаблівасці... Ідэя аб адсутнасці адрозненняў не можа быць намі прызнана“.

Адным словам, мудрая святая мэтазгоднасць, апетая яшчэ Генрыхам Гейне: створаны быкі для таго, каб рабіць з іх бульён, створаны аслы для таго, каб нагружаць іх кладдзю, і створаны людзі для таго, каб есці бульён і не быць падобнымі на аслоў... Пад прыкрыццём такой філасофіі лягчэй „маючым свае ўласцівасці“ японцам захватваць

[1]) Садао Араки, Задачи Японии в эпоху Сиова, приложение к книге Танина и Иогана „Военно-фашистское движение в Японии“, Партиздат, 1933, стр. 251—262.

і грабіць кітайскія землі, а маючым „свае асаблівасці“ кітайцам прымірацца са сваім лёсам... З гэтай філасофіяй зусім згодна і „сваяцкая“ Садао Аракі душа Альфрэда Розенберга: „Мы вядзем наступленне на светапогляд ліберал аў таксама, як і на марксістаў. Для нас душа не роўна душы, чалавек не роўны чалавеку. Наша мэта — сільны германскі чалавек“. Так пісаў Розенберг на старонках „Фолькішэр Бэобахтэр“ перад прыходам Гітлера к уладзе... У апраўданне розенбергаўска-аракісцкай „філасофіі няроўнацэннасці“ вядуць наступленне на навуковым фронце сотні фашыствуючых біёлагаў, соцыёлагаў, медыкаў, філосафаў, этнографаў расісцкага толку... Яны пішуць „фундаментальныя“ манаграфіі, абстаўленыя ўсей падабаючай такім выпадкам акадэмічнай апаратурай, багата забяспечаныя імяннымі і прадметнымі ўказацелямі, з усею пераканаўчасцю даказваючыя, што розніца паміж чалавекам адной расы і другой перавышае розніцу паміж чалавекам і жывёлай, што існуюць расы поўнацэнных арыстакратаў і існуюць расы „недачалавекаў“, што ўся гісторыя чалавецтва вызначаецца „ўзаемаадносінамі крыві“, што пануюць тыя, каму гэта прызначана іх „вышэйшымі ўласцівасцямі“ і законам соцыяльнага адбору, а другія бедствуюць, гінуць і выміраюць з голаду ў строгай адпаведнасці са сваімі „натуральнымі ўласцівасцямі“, са сваей біялагічнай і іншай няпоўнацэннасцю.

Так ствараецца тое, што на мове фашысцкіх тэарэтыкаў горда імянуецца „біялагічным светапоглядам“.

Дзеля абгрунтавання „біялагічнага светапогляду“ буржуазія загніваючага капіталізма гатова нават амністыраваць Чарльза Дарвіна — „старэнькага, які ўкраў у чалавецтва бога“. Вось чаму чорныя бесты, якія цкавалі Дарвіна пры жыцці, у сучасны момант не толькі арганізуюць малпавыя працэсы, але і святкуюць юбілеі геніяльнага вучонага. Ім гэта патрэбна для таго, каб абгрунтаваць свой „біялагічны светапогляд“, паказаць, што соцыялізм гэта—„утопія“, якая спрабуе адмяніць непарушныя законы барацьбы за існаванне і натуральнага адбору. Ім гэта патрэбна для таго, каб даказаць, што зусім „па Дарвіну“ эксплуатуюць і паразітуюць Марганы, Гісены і Дэтэрдынгі, што зусім „па Дарвіну“ паміраюць галоднай смерцю мільёны беспрацоўных. Ім гэта патрэбна для таго, каб, як гэта зрабіў амерыканскі біёлаг Конклін, мець магчымасць гаварыць аб „творчым сэнсе“ сучаснага крызіса, у рэзультаце якога „натуральна“ загінуць непрыспасобленыя і выжывуць найбольш каштоўныя экземпляры чалавечай пароды...

Прыхільнікамі „біялагічнага светапогляду“ пускаецца ў зварот тэорыя аб тым, што сучасны крызіс з'яўляецца рэзультатам злачыннай процідзейнасці соцыяльнаму адбору,

якая выражаецца ў клопатах грамадства аб невылячымахворых, дэфектыўных інвалідах і іншых „няпоўнацэнных“ элементах. Масам, знываючым пад ярмом эксплуатацыі, галечы і беспрацоўя, выбітым з каляіны чалавечага існавання, дэкласіруемым дробным буржуа, людзям, якіх ператвараюць у паўпераў, дэмагагічна „раз'ясняюць“, што ўсе іх бядоты абумоўлены „процінатуральнымі“ клопатамі аб адкідах чалавечага роду, аб усіх гэтых калеках і інвалідах і іншым „чалавечым баласце“, які асуджан на гібель жалезнымі законамі соцыяльнага адбору. Аб гэтым сведчыць бесстаронняя навука ў асобе ардынарных і экстраардынарных прафесароў. Таму парукай — сам вялікі Дарвін, Гальтон, Мендэль... Газетныя лісты і старонкі тоўстых часопісаў пакрываюцца крыклівымі дыяграмамі, статыстычнымі зводкамі, абуранымі артыкуламі, якія даказваюць, колькі „народных сродкаў“ непрадукцыйна і злачынна траціцца на захаванне жыцця і выхаванне тых, хто павінен знікнуць паводле непарушных законаў соцыяльнага адбору. Так спрабуе буржуазія „пераключыць“ узрастаючае абурэнне мас дэмагагічным адцягненнем іх у бок ад сапраўдных віноўнікаў іх бядот.

У якасці дакумента, які красамоўна сведчыць аб тым класавым цынізме, да якога даходзяць фашысцкія ідэолагі „біялагічнага светапогляду“, варта назваць артыкул нейкага Кіпе „Вопыт філасофіі медыцыны“, апублікаваны ў нямецкім „Клінічным штотыднёвіку“ [1]). Аўтар „даказвае“, што асноўнаю прычынай сучасных бядот з'яўляецца перанасяленне ўсей зямлі, у асаблівасці-ж яе культурных краін. Прычыны перанаселенасці не столькі ў чалавечай пладавітасці, колькі ў актыўнай барацьбе з захворваннямі і ў поспехах медыцынскай тэхнікі. Чалавечая маса прадаўжае расці, і гэта павядзе да „неабсяжных катастроф“. У падрыхтоўцы гэтых катастроф вялікая доля віны падае на ўрачоў. Прызнаючы аднолькавае права на існаванне за малацэннымі і многацэннымі асобамі, урачы звязвалі дзеянне натуральнага адбору. Паспяхова змагаючыся з эпідэміямі, урач знішчае і „добрыя бакі гэтых эпідэмій, у якасці каторых можна назваць натуральны адбор і дэцымацыю (пакаранне смерцю па жрэбію кожнага дзесятага) лішку (des Zuviels)“. Жывым выражэннем гэтага лішку з'яўляюцца „перапаўненне ўсіх прафесій і лічбы беспрацоўных“. Гэта вядзе да катастрофы, якая ўжо адчуваецца „ў ідэях сусветнай рэволюцыі і сусветнага інтэрнацыянала“. Але магчыма, што рок выступіць і ў іншай форме—у выглядзе знішчальнай вайны... Фашысцкія біёлагі б'юць у набат з поваду таго, што „гу-

[1]) Kippe, Versuch einer Philosophie der Medizin, „Klinische Wochenschrift“, 1930, № 17, S. 793.

маннасць“ вядзе да выраджэння, што свету пагражае ператварыцца ў шпіталь, дзе адзін будзе братам міласердзя другому“ [1]).

Яшчэ 60 год таму назад—12 лістапада 1874 г.—Фрыдрых Энгельс у лісце да П. Л. Лаўрова з повадуспроб пераносці дарвіністычныя прынцыпы з прыроды ў грамадства гаварыў: „Але калі вытворчасць у сваей капіталістычнай форме, як гэта адбываецца ў сучасны момант, вытварае значна большую колькасць сродкаў існавання і развіцця, чым можа спажываць капіталістычнае грамадства, бо штучна адстараняе агромную масу сапраўдных вытворцаў ад карыстання гэтымі сродкамі існавання і развіцця; калі гэтае грамадства сваім уласным законам жыцця вымушаецца пастаянна расшыраць і без гэтага ўжо празмерную вытворчасць і таму вымушана само перыядычна, кожныя дзесяць год, зніштажаць не толькі масу прадуктаў, але і прадукцыйных сіл,—то які-ж сэнс мае размова аб „барацьбе за існаванне?.. Барацьба за існаванне можа яшчэ заключацца ў тым, што вытвараючы клас адбярэ кіраўніцтва вытворчасцю і размеркаваннем ад класа, у руках якога гэта кіраўніцтва знаходзілася дагэтуль, але які не здолен ужо больш прадаўжаць яго, а гэта ўжо будзе соцыялістычная рэволюцыя“.

Не прыходзіцца гаварыць аб тым, што іменна панічная баязнь соцыялістычнай рэволюцыі прымушае цяпер буржуазію і яе тэарэтычных прыслужнікаў ігнараваць спецыфічную законамернасць грамадскіх з‘яў, фальсіфікаваць законы грамадскага жыцця „пад Дарвіна“ і вынаходзіць на аснове гэтых фальсіфікацый свой „біялагічны светапогляд“...

Падначальваючы грамадскае жыццё біялагічным законам, фашысты абвяшчаюць біялогію „навукай навук“, асновай ўсіх навуковых ведаў. Нацапіўшы на сябе гітлераўскую свастыку, уніфікаваныя біёлагі выпускаюць працы, у якіх, падобна тюбінгенскаму прафесару батанікі Эрнсту Леману, заяўляюць, што „біялогія гэта ядро нацыянал-соцыялістычнага светапогляду“ [2]). Сваю лепту ў справу распрацоўкі біялагічнага светапогляду ўносяць і папы, якія выпускаюць кнігі накшталт „Батанічная тэлеалогія, як уводзіны ў багаслоўе“ пастара Фрыдрыха Зеле.

Фашыствуючыя біёлагі адкрыта заяўляюць, што вышэйшай мэтай біялогіі павінна быць—каваць зброю для справы Адольфа Гітлера [3]). Яны асоба падкрэсліваюць, што „без ведання біялагічных даных правадыр таксама мала зможа кіраваць сваім народам, як мастак без ведання матэрыяла

---

[1]) Hans Gürther, Rassenkunde Europas, Verl. Lehmann, München, 2. Aufl., S. 199.

[2]) Ernst Lehmann, Biologie im Leben der Gegenwart, Lehmanns Verl., München, 1933.

[3]) Там-жа, стар. 220.

стварыць свой твор [1]). Таму лозунгам становіцца патрабаванне: „біялогію—на службу нацыянал-соцыялізму“. Вучоны, мастак, палітык павінны навучыцца „біялагічна мысліць“ (Der Mensch muss biologisch denken lernen) [2]).

Біялагічна мысліць гэта значыць проціпаставіць „марксісцкаму міфу“ грамадскага, класавага чалавека біятып нязменны, устойлівы, раз назаўсёды даны, спадчынна прадвызначаны.

Буржуазія загніваючага капіталізма адмаўляе ролю класавай барацьбы ў гісторыі нават у тым выглядзе, як яе ўяўлялі сабе, скажам, Гізо, Т‘еры і іншыя французскія гісторыкі пачатку XIX века. Яна варочаецца да пазіцый „ураджаных ідэй“, якія выкрывалі ўжо англійскія матэрыялісты XVII века; яе ідэолагі недарма абвінавачваюць Джона Лока ў тым, што ён сваім вучэннем аб „tabula rasa“ парушыў асноўны біялагічны прынцып — „спадчыннасць гэта лёс“ (Пфалер).

Біялагічна мысліць гэта значыць зыходзіць пры аналізе паводзін асобы выключна з яе спадчынна перадаваемых ураджаных уласцівасцей, адмаўляючы ролю асяроддзя ў азначэнні паводзін, ва ўтварэнні характару і інтэлекта.

Біялагічна мысліць гэта значыць адмаўляць якую-небудзь спецыфіку соцыяльнай законамернасці, даказваць, што расліны, жывёлы і чалавечае грамадства надпарадкаваны адным і тым-жа біялагічным законам. Леман так і фармулюе: „Нашы ўяўленні даказваюць нам на кожным кроку, што чалавек падначален тым-жа законам, што і іншыя арганізмы... Усе тыя, каторыя хочуць уясніць сабе паняцце расы... павінны даследваць расавае пытанне з пункту погляду развадзіцеля раслін ці звяроў (vom Standpunkt des Pflanzen oder Tierzüchters) і толькі пасля гэтага, на падставе здабытых такім шляхам ведаў, вывучаць чалавека“ [3])

Толькі той, хто „біялагічна мысліць“, можа весці „біялагічную барацьбу“ за існаванне (Бургдэрфер). У гэтай барацьбе рашае „біялагічная воля к перамозе“ (Штэмлер).

---

[1]) Ernst Lehmann, Biologie im Leben der Gegenwart, Lehmanns Verl., München, 1933, S. 224.

[2]) Там-жа, стар. 237.

[3]) Там-жа, стар. 213.

## ФАШЫСЦКАЕ „РАСАЗНАЎСТВА“

Воссю вярчэння ўсяго „біялагічнага светапогляду“ з'яўляецца, як вядома, катэгорыя расы.

Як-жа разумеюць гэту катэгорыю тэарэтыкі „біялагічнага светапогляду“?

Прывяду адну з найбольш разгорнутых фармулёвак: „Раса з'яўляецца паняццем натуральна-навуковай сістэматыкі. Раса, гэта група жывых істот, якая развілася ў ізаляцыі і дзякуючы натуральнаму адбору з аднаго адзінага кораня і без прымесі чужародных элементаў; гэта група, дзякуючы большасці фізічных і духоўных спадчынных адзнак, утвараючых у сваім злучэнні некаторае адзінства, а таксама дзякуючы форме свайго выяўлення звонку, істотна адрозніваецца ад іншых груп гэтага роду і заўсёды ўзнаўляе толькі сабе падобных. Раса тым самым абазначае „гармонію“, „жыццёвы стыль“ і „характар“. Раса гэта—падгрупа віду“[1]).

Вось гэта метафізічна-нязменная, раз назаўсёды даная заалагічная агульнасць, якая базуецца на спалучэнні „крыві і характараў“ і з'яўляецца з пункту погляду фашысцкіх тэарэтыкаў асноўным рухавіком усяго грамадскага жыцця. Гістарычны працэс прадстаўляе ў іх вачах нішто іншае, як рэзультат пэўных узаемаадносін і ўзаемасутычак рас. Злучнасць уласцівасцей расы і складае яе душу. Расавая душа—вось імя патаемнай і ўсёаб'ясняючай містычнай катэгорыі, вызначаючай лёс народаў.

„Мы верым у расавую душу, якая накіроўвае ўнутрана здаровую нацыю на прадвызначаны ёй шлях. Вялікае развіццё ці, вярней, глыбокая вера нашага часу заключаецца ў тым, што цяпер разглядаюць кроў і характар не як два чужародныя паняцці, а як нешта аднароднае, знаходзячае сабе толькі рознае выражэнне. Такая вера не носіць матэрыялістычнага характару, але яна і не спірытуалістычнага парадку, бо яна ўспрымае факт адзінства (крыві і характару) як пярвічны феномен у гётаўскім тлумачэнні, шукаць

[1]) Prof. Dr. E. Reche, Der Begriff „Rasse“, „Volk und Rasse“, 1933, № 7, S. 217.





асноў якога (феномена) нам не трэба. Раса з‘яўляецца такім чынам знешнім бокам душы, а душа, наадварот, з‘яўляецца ўнутраным адлюстраваннем расы... уласна кажучы няма сусветнай гісторыі, а ёсць толькі гісторыя розных рас і народаў, розных расавых душ, якія змагаюцца паміж сабой і са сваей зброяй“ (Розенберг, Міф XX века).

Аб‘яўляючы расавую душу свяшчэнным умясцілішчам таямнічых уласцівасцей чалавечай пароды і ўсю гісторыю—рэзультатам прыцяжэння і адштурхвання рас, тэарэтыкі расізма з усей энергіяй, на якую толькі здольны канкуруючыя паміж сабой нацыяналістычныя буржуа, змагаюцца адзін з адным за пяршынства „сваей“ расы, за яе вышэйшыя ўласцівасці, за яе „натуральныя перавагі“ ў адносінах да ўсіх іншых рас.

Вось як, напрыклад, жывапісуе правадыр германскіх расавікоў натуральныя доблесці паўночнай расы.

Асноўнымі ўласцівасцямі паўночнага чалавека з‘яўляецца здольнасць да разважання, праўдзівасць, актыўнасць (Tatkraft). Ён уладае сабою і таму процістаіць чужому ўплыву. Для яго характэрна пачуццё рэальнасці, якое ў злучэнні з актыўнасцю, якая можа ўзняцца да адвагі, штурхае яго на абшырныя прадпрыемствы... Ён заўсёды схілен да разважлівасці, маўклівасці, пастаянства, спакойства ў разважаннях. У ім моцна развіта пачуццё доўга. Ён патрабавальны ў адносінах да самаго сябе і да навакольных. Данае ім слова непарушна [1]).

Зусім законамерна, што, з‘яўлючыся ўмясцілішчам усіх і ўсякіх доблесцей, паўночная раса стварыла такую агромную колькасць творчых асоб, што пераважны процант выдатных людзей еўрапейскай і паўночна-амерыканскай гісторыі выяўляе пераважна паўночныя рысы... Якасці, якімі германскія расісты надзяляюць паўночную расу, асабліва ярка выступаюць пры іх супастаўленні з тымі характарыстыкамі, якія яны даюць іншым расам.

Так, паводле таго-ж Гюнтэра, адметнымі рысамі заходняй расы з‘яўляюцца: лёгкая ўзбуджальнасць, прыняцце жыцця як спектакля, у той час, як паўночны чалавек бачыць у ім абавязак; баўтлівасць, павярхоўнасць, сексуальнасць, якая спалучаецца са схільнасцю к садызму, слабая працаздольнасць, ленасць, нарэшце, цягаценне к анархізму і тайным змовам[2]).

Яшчэ горш абстаіць справа з усходняй або альпійскай расай. Чалавек гэтай расы недаверчывы, марудны, ён—мешчанін (Spiessbürger). У яго няма смеласці ні ў мышленні, ні ва ўчынках. Ён пакланяецца шылінгу. Ён схілен да ўсе-

[1]) Hans Günther, Rassenkunde Europas, 2 Aufl., S. 51.
[2]) Там-жа.

агульнай роўнасці, да дэмакратыі. Гэта тлумачыцца тым, што людзі ўсходняй расы нічым не перавышаюць сярэдняй вышыні і таму адчуваюць у адносінах да ўсякай велічыні, з якою датыкаюцца, адштурхванне, калі не ненавісць. У чалавека гэтай расы адсутнічаюць якасці правадыра і таму ён мае патрэбу ў апошнім...

Выходзячы з „установак", даваемых тэарэтычнымі правадырамі расізма, расісцкія папулярызатары даводзяць іх да свайго лагічнага, паслядоўнага завяршэння. Адзін з іх, нейкі Герман Гаух, напрыклад, праводзіць у сваей кнізе „Новыя прынцыпы навукі аб расах" такую грань паміж „паўночным" і ўсім астатнім—„непаўночным чалавецтвам".

„У чалавека непаўночнай расы корні зубоў распалажаны як у жывёлы. Чалавек паўночнай расы перажоўвае страву з закрытым ротам, людзі іншых рас жуюць як жывёла... Чырвоны колер узбуджае; ярка-пурпурныя губы чалавека паўночнай расы ўзбуджаюць любоў і жаданне цалавацца. У чалавека непаўночнай расы—шырокі рот і тоўстыя губы, якія сведчаць аб прагнай пачуццёвасці. На гэтых губах іграе не ўсмешка, а злобная ліцамерная ўхмылка. Непаўночны чалавек платаядна чмякае губамі—гэта яго характэрная рыса. Чалавек непаўночнай расы прадстаўляе сабой пераходную ступень ад чалавека да жывёлы. Ён бліжэй да малпы, чым да чалавека. Яго нельга назваць чалавекам у поўным сэнсе гэтага слова".

Расавікі „непаўночнага чалавецтва" не застаюцца, вядома, у даўгу. Для прыкладу можна назваць выступленні французскага прафесара Жорж Жэрара, які аб'яўляе германцаў крыважэрнай расай грузных і абжорлівых людзей, маючых цяжкія мазгі... На глебе канфліктаў паміж расісцкімі ідэолагамі падчас узнікаюць нават дыпламатычныя ўскладненні. І сапраўды, у той час, як японскія расавікі абвяшчаюць, што японская раса нясе ўсяму свету справядлівасць, міласэрддзе і адвагу, што яна ваплашчае вялікія ідэалы сусветнага значэння, што яна з'яўляецца „апосталам-прапаведнікам імператарскай маральнасці", у гэты час некаторыя германскія расавікі ў сваей класіфікацыі чалавецтва адносяць японцаў к „недачалавекам"... Зусім натуральна, што наследвала адпаведнае прадстаўленне японскага міністэрства замежных спраў германскаму ўраду, у рэзультаце чаго былі зроблены афіцыйныя заяўленні аб „японa-германскім сваяцтве душ" і высокіх расавых доблесцях японцаў, процідзеючых чырвонаму імперыялізму саветаў.

Уся гісторыя чалавецтва, як гэта ўстанаўляюць тэарэтызуючыя фашысты, з'яўляецца нічым іншым, як гісторыяй барацьбы рас. І гэта барацьба ажыццяўляецца па законах натуральнага адбору: у ёй перамагаюць сільныя, моцныя, арыстакратычныя расы.

Раса ператвараецца ва ўніверсальную адмычку, з дапамогай якой можна пранікнуць ва ўсе тайнікі гістарычнага працэсу, зразумець усе з'явы грамадскага жыцця, ад эканомікі да мастацтва.

Такім чынам расавы пачатак (das Rassenhafte) гэта тое жыццёвадзеючае, з чым мы сустракаемся ва ўсім, што чалавек робіць і думае, што пранізвае яго нараджэнне, яго барацьбу і адпачынак, яго даследчую працу і свята, так што мы з ім сустракаемся ва ўсім чалавечым—ці то будзе жывы чалавек сам, ці то будуць яго тварэнні" [1]).

Узброены такім „расаметрам", шаноўны расісцкі тэарэтык, прывёўшы ў дзеянне адпаведныя рычагі і стрэлкі, устанаўляе, якія расавыя прыцяжэнні і адштурхванні абумовілі даную гістарычную падзею, якая ступень расавай чыстаты праявілася ў даным нацыянальным геніі, якая ступень „чужой", „прымяшаўшайся" крыві абясцэньвае творчасць паэта і т. д. і т. д.

„Was nicht gutter Rasse ist, ist Spreu"—абвяшчае Гітлер. Гэтае палажэнне з'яўляецца адным з хадзячых лозунгаў фашызма. Ідэалагічныя зброеносцы Гітлера ў сучасны момант разаграваюць антысеміцкае варыва выжыўшага з розуму Еўгенія Дзюрынга, які ў апошнія гады свайго жыцця (1918—1921) заняўся стварэннем „тэорыі" аб тым, што яўрэйская раса інфецыравала германцаў, раманцаў і славян, і што з гэтым самым злачынным племем зямлі належыць абыходзіцца як з небяспечнымі бактэрыямі...

Гэты дзюрынгаўскі брэд з'яўляецца „залатымі словамі" сучаснага фашызма. Адзін з самых буйных ідэолагаў фашызма Розенберг устанаўляе, напрыклад, што чалавецтва падзяляецца на дзве часткі—на „Herrenrassen" і на „Untermenschenrassen". Да гэтых апошніх належаць расы каляровыя і ўсходнія (заўважу, што паводле шпенглераўскай кваліфікацыі да „каляровых" адносяцца і рускія).

Шырокае хаджэнне сярод сучасных ідэолагаў буржуазіі мае дзюрынгаўскае палажэнне аб тым, што пытанне існавання — гэта соцыяльнае пытанне другога парадку, якое адсоўваецца на задні план расавымі і нацыянальнымі пытаннямі. Шырока папулярызуецца і другі афарызм гэтага кананізаванага фашыстамі „вучонага"—паміж чалавекам аднай расы і чалавекам другой расы можа быць большая розніца, чым паміж чалавекам і жывёлай... Кананізаваны буржуазіяй гніючага капіталізма не адзін толькі да канца дэгенераваны Еўгеній Дзюрынг. Граф Гобіно, Гаустон Чэмберлен, Вольтман, Фрыдрых Ленц залічаны таксама да ліку святых фашысцкай царквы. З іх пісанняў чэрпаюць

[1]) K. F. Viergutz, „Rasse" und „Volk", „Volk und Rasse", 1933, № 2, S. 91.

поўнымі жменямі Гітлер, Розенберг, Гебельс свае „расавыя“ аргументы, свае адкравенні, што „ўсе гістарычныя сусветныя падзеі прадстаўляюць сабой толькі выражэнне інстынкту самазахавання рас у добрым і дрэнным сэнсе“ (Hitler, Mein Kampf).

Тэарэтыкі фашызма аб'яўляюць, што паняцце расы павінна быць выведзена з антрапалагічных інстытутаў і біялагічных лабараторый на „шырокую плошчу палітычнага жыцця“. Прасцей кажучы, гэта значыць, што містыфікуемы імі прынцып расы павінен стаць стрыжнем ваяўнічага нацыяналізма, як аднаго з галоўных сродкаў выратавання буржуазіі перад тварам пагражаючай ёй катастрофы. „Раса... вось слова, якое нясе ў сабе сілу стаць асновай новага светапогляду, новага сусветнага маштаба і этычнага прынцыпу“—так заяўляе на старонках „навуковага органа“ гітлераўцаў (існуе і такі) нейкі Штэнглер фон Руткоўскі[1]).

Даволі пералістаць „National-sozialistische Monatshefte“—гэты лейб-орган гітлераўскай „навуковай мыслі“, каб зразумець, якое нацыяналістычнае шаленства ідзе вакол праблемы расы... Бруно Шульц выступае з акадэмічнымі абгрунтаваннямі антрапалагічнай і біялагічнай існасці расы, дапускаючы мімаходам невядома як прапушчанае рэдактарам прызнанне, што „толькі самая нязначная частка народаў зямлі складаецца з чыстых рас“...[2]) Д-р мед. Ф. Ланг друкуе „медыцынскае даследванне“ ў стылі пісанняў славутага маніяка Шмакова, у якім апісвае асобую форму неўратычнага захворвання „Neurosis judaica“, даказваючы асобую абцяжанасць яўрэяў сляпымі, глухімі, душэўна хворымі і інш.[3]). Ахім Герке—эксперт па расаваму даследванню германскага міністэрства ўнутраных спраў—патрабуе ўступіць у згоду з сіяністамі наконт перасялення ў Палестыну ўсіх яўрэяў, якія інакш будуць „вечным ачагом большэвізма“ ў Еўропе. „Трэба прымусіць Агасфера ў апошні раз узяць у рукі посах“—патэтычна ўзывае рашучы эксперт... На сотнях старонак вядзецца ажыўленая дыскусія па пытанню аб тым, што кроў 3-га ці 4-га пакалення парушае чыстату арыйскай расы з усімі выцякаючымі адсюль законадаўчымі вынікамі...

Вось ілюстрацыі таго, як вырашаюцца з дапамогай „расаметра“ ўсякага роду палітычныя, гістарычныя, сацыялагічныя задачы.

Патрабуецца, напрыклад, падвесці „ідэалагічнае абгрунтаванне“ пад блок нямецкіх фашыстаў са шведскімі. Для

[1]) „National-sozialistische Monatshefte“, Wissenschaftliche Zeitschrift der NSDAP, Herausg. von Adolf Hitler, L. von Rutkowski, Rasse und Geist, 1933, № 35.

[2]) Там-жа, 1933, № 24, Rassenhygiene und Erbgesundheitslehre.

[3]) Там-жа, 1933, № 38, Die Belastung des Judentums mit Geistig-Ausfälligen.

гэтага неабходна ўстанавіць „расавую агульнасць“ немцаў і шведаў. І вось нейкі расісцкі тэарэтык па імені Тіло фон Трота апублікоўвае „даследванне“, у якім чорным па беламу даказвае, што носьбіткаю рыс, якія былі ўласцівы аснова-паложніку шведскай дзяржавы Густаву Ваза, з‘явілася ў новай гісторыі Прусія, а ад яе „духоўнае наследдзе Вазы“ ў сваю чаргу перайшло к руху Адольфа Гітлера. „Але вялікі непакой, які ахапіў усіх германцаў, зноў аўладаў і сучаснай Швецыяй; прагнучая маладая Швецыя свядома варочаецца да забытага гераічнага наследдзя Вазы, якое знайшло сваю ззяючую вяршыню ў асобе Густава Адольфа, які можа прэтэндаваць на месца і ў Пантэоне нямецкай гісторыі“[1]).

Другі, яшчэ больш маляўнічы прыклад.

Патрабуецца ахарактарызаваць творчасць Гётэ. Гётэ належыць да ліку тых геніяў, якія былі вылучаны маладою рэволюцыйнай буржуазіяй, і да якіх не адчувае асаблівых схільнасцей буржуазія загніваючага капіталізма, якая выраджаецца. Вось як таму ажыццяўляецца „расаметрычнае“ даследванне яго творчасці.

У Гётэ скрыжоўваецца рад „расавых момантаў“. Паўночная раса вызначыла агульныя жыццёвыя паводзіны Гётэ, яго любоў к парадку, к прыродзе, індывідуалізм, адсутнасць зайздрасці, уменне разбірацца ў навакольным. Сяродземная раса вызначыла яго ўзбуджальнасць, яго эратычна афарбаваную фантазію, няздольнасць жыць без жанчын. Дамешка мала-азіяцкай расы (продкі маці Гётэ паходзяць з Ветэраў, якое адзін час насялялі рымляне. Рымскія-ж салдаты ў часы імператараў паходзілі пераважна з Малой Азіі) тлумачыць асаблівасці мовы Гётэ, адсутнасць гумару, яго касмапалітызм... Такім чынам у Гётэ ажыццёўлен сінтэз некалькіх расавых уплываў. „Робіцца да пэўнай ступені зразумелым, што Гётэ выпадае з раду нямецкіх геніяў“[2]).

Вучоныя сталпы трэцяй імперыі пішуць даследванні, у якіх даказваюць, што Кастрычніцкая рэволюцыя—натуральны рэзультат „мангалізацыі Расіі“ і ў прыватнасці мангольскіх спадчынных уласцівасцей Леніна[3]), а сусветная вайна ўзнікла ў выніку дурной спадчыннасці Вільгельма II па матчынай лініі і „такім чынам у няўдала зробленым шлюбным выбары яго бацькі заключаецца корань усяго няшчасця“[4]).

---

[1]) Thilo von Trotha, „Volk und Rasse“, 1933, № 4, S. 152.

[2]) D-r Walther Rauschenberger, Rassenmerkmale Goethes und seiner nächsten Verwandten, „Volk und Rasse“, 1933, № 1, S. 8.

[3]) Prof. Ernst Schulze, Die Mangolisierung Russlands, Archiv für Rassen und Gesellschaftsbiologie, 20, Band, S. 52.

[4]) Lenz, Menschlieche Auslese und Rassenhygiene, S. 59.

Выходзячы ва ўсіх сваіх разважаннях аб жыцці грамадства са створанай імі містычнай і ўніверсальнай катэгорыі расы, як увасаблення і ваплашчэння „чалавечай пароды“, расісцкія тэарэтыкі аб'яўляюць важнейшай задачай, якая стаіць перад грамадствам, барацьбу за „палепшанне расы“. Яны ўнушаюць масам, што не ў класавай барацьбе, не ў змене існуючых грамадскіх адносін, не ў рэвалюцыйнай перабудове грамадства выхад з галечы, бядот і голаду. Гэты выхад у „палепшанні расы“...

## БАРАЦЬБА ФАШЫСТАЎ ЗА „ПАЛЕПШАННЕ РАСЫ“

Як-жа ажыццяўляецца гэта „палепшанне расы“? Неабходна перш за ўсё забяспечыць першародную „чыстату“ расы. Ствараючы фікцыю „чыстай расы“, расісцкія тэарэтыкі аб'яўляюць важнейшай дзяржаўнай задачай ахову гэтай містычнай „чыстаты“. Блюсці чыстату расы—значыць не дапускаць яе „загразнення“ чужароднай, чужарасавай крывёю, інакш кажучы, зрабіць немагчымым мяшаныя шлюбы, якія атручваюць чыстакроўную расу прыроджаных арыстакратаў і паноў папсаванай крывёю іншых, ніжэйстаячых рас. Для довану гэтага палажэння вучоныя сікафанты сучаснай буржуазіі выпускаюць „фундаментальныя“ манаграфіі, запаўняюць біялагічныя, медыцынскія, соцыялагічныя і, нарэшце, спецыяльна гэтай праблеме прысвечаныя часопісы даследваннямі на тэму аб тым, якія незлічоныя бядоты нясуць „расе абраных“ шлюбы з расава-чуждымі элементамі. Не прыходзіцца гаварыць аб тым, што вышэйшай праявай падобнага роду „процінацыянальных“, „антыдзяржаўных“ злачынных шлюбаў з'яўляецца сувязь „арыйца“ з „неарыйцам“. У апошнім выпадку „слова“ следам за прафесарамі пераходзіць непасрэдна да штурмавікоў, якія маюць у сваім распараджэнні ўвесь арсенал сярэдневяковых мер уздзейнасці на злачынных парушальнікаў цнатлівай расавай чыстаты. Нарэшце, ланцуг адпаведных мерапрыемстваў заканчваецца крымінальным кодэксам „трэцяй імперыі“, устанаўляючым пазбаўленне свабоды за падобнага роду „расавую здраду“...

Барацьба з „расавай здрадай“ з'яўляецца толькі адным са шматлікіх актаў, характарызуючых фашысцкае расазнаўства. „Важнейшай часткай „расазнаўства“, культывуемага Гюнтэрамі і Ленцамі, з'яўляецца барацьба з бяздзетнасцю і маласямейнасцю. Апошнія аб'яўляюцца такім-жа злачынствам, як і расавая здрада. Фашыствуючыя расазнаўцы нястомна б'юць трывогу з поваду „катастрафічнага падзення нараджаемасці“ ў Германіі, ва Францыі, у Аўстрыі, у Швецыі, у Нарвегіі, у Швейцарыі. „У 1910 г. у Германіі прыпадала на 1000 жыхароў 28 нараджэнняў, а ў 1932 г. іх прыпадае 15“, „у 1890 г. прынесла дзяржаве дзіця адна з трох замужніх

жанчын; у 1910 г.—адна з чатырох; у 1925 г.—адна з сямі; у 1930 г.— адна з васьмі". „Народ, жанчыны якога не жадаюць больш раджаць, павінен загінуць". „Гора народу, жанчыны якога дасягнулі такой ступені выраджэння, што страцілі натуральнае жаданне мець дзяцей". „Народ у небяспецы"—так на розныя лады гістэрычна выкрыкваюць усе гэтыя Гельмуты, Бургдэрферы, Штэрнбергеры, Малісоны і іншыя вестуны „нацыянальна-еўгенічнага выхавання".

Адзін з віднейшых ідэолагаў гэтага „нацыянальна-еўгенічнага" шарлатанства—дырэктар Дзяржаўнага статыстычнага кіраўніцтва Германіі, Фрыдрых Бургдэрфер, выступаў на міжнародным гістарычным кангрэсе ў Варшаве з дакладам аб „дынаміцы развіцця насельніцтва ў Еўропе ў XIX і XX стагоддзях". Фашысцкі вучоны высунуў перад кангрэсам, як „палітычны фактар першага ранга", пагрозу падзення нараджальнасці сярод германцаў і яе павелічэння сярод славян... „У 1810 г. германцы складалі 31,6 проц., раманцы—33,7 проц., славяне—34,7 проц., у 1930 г. германцы—30 проц., раманцы—24,4 проц.; славяне—45,6 проц."

Калі будзе прадаўжацца тая-ж тэндэнцыя, то ў 1960 г. германцы складуць у Еўропе 26,9 проц., раманцы—22,3 проц. і славяне—50,8 проц. Ад гэтай пагражаючай перспектывы еўрапейскае чалавецтва можа быць выратавана толькі тады, калі ўступіць на шлях „нацыянальна-еўгенічнага" бандытызма гітлераўскіх малойчыкаў. Бургдэрфер без лішніх слоў дакладваў вучоным гісторыкам аб гэтым ультыматуме, які гісторыя прад'яўляе Еўропе: або выраджэнне, або „можа настаць пара палітычнага, духоўнага, псіхічнага адраджэння, якое, напрыклад, у сучасны момант перажывае нямецкі народ і якое можа мець сваім рэзультатам і адраджэнне біялагічнае"[1]).

У барацьбе за „біялагічнае адраджэнне" італьянцаў Мусаліні робіць нацыянальнай гераіняй і ўзнагароджвае ордэнам сялянку, якая прынесла дзяржаве на працягу 10 год 9 дзяцей...

Фашысцкія тэарэтыкі ўзмоцнена распрацоўваюць сістэму мерапрыемстваў, якія заахочваюць дзетанараджэнне. Узнікаюць усялякія праекты стымулявання многасямейнасці (павелічэнне жалавання, памяншэнне налогаў) і барацьбы з бяздзетнасцю (аж да праектаў забароны сродкаў папярэджання цяжарнасці).

Нацыянальна-еўгенічнае выхаванне, якое базуецца на абстрактным, пазбаўленым гістарычных прызнакаў, атоесамляючым чалавечае грамадства з жывёльным стадам законе насельніцтва, ператвараецца ў адзін з краевугольных камен-

[1]) VII Congrés International des sciences historiques, Rèsumès des communications, Varsovie, 1933, v. II, p. 362.

няў усей выхаваўчай сістэмы буржуазных дзяржаў загніваючага капіталізма. Ва ўсей школьнай сеці гітлераўскай Германіі, ад народных школ і канчаючы вузамі, уведзена абавязковае выкладанне такіх дысцыплін, як расавая гігіена, як вучэнне аб насельніцтве, як вучэнне аб спадчыннасці.

Барацьба за „палепшанне расы", якую вядзе буржуазная дзяржава гадоў закату капіталізма, не абмяжоўваецца толькі аховай „чыстаты расы" і праблемай павелічэння дзетанараджэнняў. У цэнтры гэтай барацьбы стаіць так званае пытанне аб няпоўнацэнным патомстве. Адным з цэнтральных, калі не рашаючым „нацыянальна-еўгенічным" мерапрыемствам агалашаецца процідзеянне з'яўленню на свет спадчынна-дэфектыўных. Стэрылізацыя і кастрацыя агалашаюцца тымі цудадзейнымі сродкамі, якія раз назаўсёды пазбавяць чалавецтва ад біялагічных і інтэлектуальных адкідаў, ад людскога баласту, якія разгрузяць дзяржаўны бюджэт ад непрадукцыйнай траты „народных сродкаў", якія выведуць свет з тупіка крызісу... „Толькі шляхам падбору, абмяжоўваючага нараджальнасць, свет зможа знайсці шлях да прывядзення ў парадак сваей расстроенай эканомікі"— так агаласіў на трэцім міжнародным еўгенічным з'ездзе (1932 г.) адзін з найбольш фанатычных буржуазных еўгеністаў амерыканскі праф. Г. Ф. Осборн.

Самы ўплывовы орган англійскіх прыродазнаўцаў часопіс „Nature" у апошні час актыўна выступае за дзяржаўную стэрылізацыю, ясна фармулюючы класавыя матывы гэтага мерапрыемства. Часопіс заяўляе, што стэрылізацыя „з аднаго боку аслабляе цяжар налогаў для плацельшчыкаў, а з другога—з'яўляецца практычным крокам у папярэджанні далейшага пагоршання расы"... [1])

Часопіс патрабуе вырашэння „вялікай еўгенічнай праблемы, якая стаіць перад краінай". „Належала-б прымяніць прымусова, — заяўляе „Nature"; — тое мерапрыемства, якое Майер (дырэктар псіхіятрычнай клінікі Цурыхскага універсітэта, прапагандуючы стэрылізацыю — *С. В.*) рэкамендуе ў адносінах бедных жанчын. Грамадская думка Англіі нялёгка з гэтым згодзіцца, але калі перанасяленне і беспрацоўе будуць прадаўжацца, мы будзем да гэтага вымушаны"...[2])

Праблема стэрылізацыі да таго авалодала галовамі буржуазных вучоных, што ёю заняўся нават VII міжнародны кангрэс гісторыкаў, які засядаў у 1933 г. у Варшаве і слухаў спецыяльныя, гэтай праблеме прысвечаныя даклады фран-

---

[1]) Eugenic Sterilisation in the U. St., „Nature", Aug. 1933, p. 234.
[2]) Human Sterilisation in Switzerland, „Nature", October, 1933, p. 533.

цузскага вучонага Зово і бельгійскага вучонага Нізо. „Стэрылізацыя, ужываемая ў еўгенічных мэтах, — гаварыў у сваім дакладзе Нізо, — прадстаўляе сабой зусім новы метад. Заўжды ўзрастаючае размнажэнне дэфектыўных (tarē) усякага роду прыцягнула на працягу апошніх год увагу людзей навукі, якія бачаць у спадчыннасці адзін з асноўных фактараў пашырэння фізічных і душэўных дэфектаў. З таго часу яны заняліся вышукваннем найбольш дзейсных способаў, каб перашкодзіць узнаўленню такіх элементаў“ [1]). Дакладчык, падаўшы практыку прымянення стэрылізацыі, запэўніваў вучоных гісторыкаў, што „яе рэзультаты на сучасны дзень здаюцца здавальняючымі“.

Стэрылізацыю ўжо ажыццяўляе і яе санкцыянаваў законадаўчым шляхам рад капіталістычных дзяржаў—звыш 20 штатаў ЗША, некаторыя правінцыі Канады, Швейцарыі, Фіндляндыі, Нарвегіі, Германіі... Асноўны матыў для ажыццяўлення стэрылізацыі—барацьба за „аздараўленне расы“. Якое шырокае поле раскрываецца пры гэтым панам „аздаравіцелям“ відаць з таго, што ў ЗША лік асоб, якіх належала-б падвергнуць стэрылізацыі з прычыны небяспекі, якую яны прадстаўляюць для расы, вызначаецца лічбай у... 10 мільёнаў чалавек [2]).

Прыклад найбольш адкрытага і класава аголенага прымянення стэрылізацыі прадстаўляе сабой адпаведны германскі закон, які ўвайшоў у сілу з 1934 г. Паводле гэтага закона павінна быць абясплоднена 400.000 чалавек. Уводзячы абавязковую стэрылізацыю для 9 катэгорый насельніцтва (слабавумныя, шызафрэнікі, цыркулярны псіхоз, эпілептыкі, хварэючыя пляскаю Віта, спадчынна сляпыя, глухія, фізічныя ўроды і цяжкія алкаголікі), фашысцкі закон адкрывае найшырэйшыя магчымасці для самай утончанай і разбэшчанай класавай расправы фашыстаў са сваімі ворагамі. Даючы фашысцкім экспертам неабмежаваную магчымасць устанаўляць „псіхічную няпоўнацэннасць“, прадстаўляючы начальнікам месц зняволення права патрабаваць правядзення стэрылізацыі на іх погляд, гэты закон усім сваім астрыём накіраван супроць рабочага класа і працоўных мас.

Даволі тут указаць, што нават поўны захаплення ў адносінах стэрылізацыі і даволі кансерватыўны англійскі „Nature“ вымушан быў у спецыяльнай перадавіцы заявіць, што германскім законам аб стэрылізацыі „палітычна сільным

---

[1]) VII Congrés International des sciences historiques, M. Г. Nisot, Histoire internationale de la Sterilisation humaine, p. 356.

[2]) Popenoe, Number of persons nuding sterilisation, „Journal of heredity“, 1928, № 19, p. 405—410.

дана страшная магчымасць (a most frigthful opportunity) уціску палітычна прыгнечаных" [1]).

Не будзем ужо гаварыць пра тое, што ў аснове закона аб стэрылізацыі ляжыць ілжывая, базуючаяся на ілжэсведчаннях псеўда-вучоных фашысцкіх аўтарытэтаў прадпасылка аб тым, што псіхічнае захворванне аднаго з бацькоў абавязкова дае дэфектыўнае патомства (недарма фашыстам напамінаюць пра тое, што калі-б іх закон быў уведзены ў жыццё стагоддзем раней, то яго афярамі аказалася-б не мала бацькоў і матак, дзядоў і бабулек найбольш геніяльных вучоных, пісьменнікаў, артыстаў XIX в.)...

Усё гэта, вядома, не шкодзіць гітлераўскім спадручным з вучонага цэха разводзіць велізарнейшую спекуляцыю з повраду таго, што закон аб стэрылізацыі стварае „новую эру" ў гісторыі германскай расы і дэмагагічна бравіраваць тым, што гэты закон прынясе „нацыі" эканомію ў 20 мільярдаў марак штогод...[2])

Мы ахарактарызавалі рад асноўных установак ідэолагаў загніваючага капіталізма па пытанню аб „чыстаце расы". Яны нас ушчыльную падводзяць да ідэі, якая вянчае, так сказаць, увесь „біялагічны светапогляд" і прадстаўляе сабой лагічны вывад з гэтых папярэдніх установак.

Для таго, каб забяспечыць абсалютную „чыстату расы" і належнае развіццё „чалавечай пароды", увасобленай у даную расу, не даволі забараніць мяшаныя шлюбы, прэміяваць многадзетных і кастрыраваць пару сот тысяч „няпоўнацэнных". Усё гэта, так сказаць, праграма-мінімум, „das Sofort- Programm", як выражаецца Эрнст Бергман, але фашызм разгортвае і сваю праграму-максімум барацьбы за „расавае адраджэнне". Для гэтага трэба наогул пакончыць са „стыхіяй" дзетанараджэння і перайсці да планамернага, арганізаванага, ажыццяўляемага па ўсіх правілах расісцкай навукі „развядзення людзей"...

Польскі літаратар Спасоўскі выпусціў у 1933 г. аб'ёмістую кнігу, якая змяшчае ў сабе рэзкую крытыку капіталізма і выказвае сімпатыі краіне Советаў і справе Леніна. Але далёкі ад сапраўднага разумення марксізма-ленінізма, аўтар свае надзеі на змену грамадскага ладу звязвае з пераходам... ад стыхійнага да планамернага дзетанараджэння. „Масы,—заяўляе ён,—пачынаюць разумець, што дзякуючы панаваўшаму да нашага часу беспарадкаваму, бяспланаваму, бязладнаму спосабу размнажэння нарадзілася столькі тыпаў

---

[1]) State Policies of Eugenic Sterilisation, „Nature", August, 1933, p. 221—222.

[2]) Гл., напр., L. H. Tirola, Die wirtschaftlichen Folgen des Sterilisierungsgesetzes, „Volk und Rasse", 1933, Heft 5.

фізічна-дэгенератыўных, уродлівых, пакалечаных, хваравітых і злых, а капіталістычны лад у дадатак так маральна папсаваў іх, што твар чалавецтва выглядае надта скажона". Ратунку ад жахаў капіталістычнага ладу аўтар—тыповы дробнабуржуазны інтэлігент і эклектык—шукае на шляхах... забароны шлюбаў асобам, якія „не маюць дастатковай кваліфікацыі для нараджэння здаровага і моцнага патомства". Ён свята верыць, што ў недалёкім будучым будуць ажыццяўлёны мерапрыемствы па ўвядзенню антропатэхнікі, і „грамадства ўстановіць умовы рацыянальнага размнажэння дзяцей (płodzenia dzieci), якое асноўваецца на біялагічных, антрапалагічных і соцыялагічных даных" [1]).

Гэты прыклад паказвае, якое шырокае распаўсюджанне знаходзяць у капіталістычных краінах узмоцнена культывуемыя за апошні час буржуазіяй ідэйкі пераходу да планавага дзетанараджэння, як выхаду з крызісу...

Ідэя „чалавекаводства", якая прадстаўляе сабой удзячную тэму для пяра фельетаніста, магла ўзнікнуць толькі ў мазгу эксплуататара, з-пад ног якога знікае глеба. Толькі ідэолагі капіталістычнага закату могуць з усей прафесарскай сур'ёзнасцю пісаць вучоныя даследванні ў яго абарону.

Так, напрыклад, упамінаны ўжо мною тюбінгенскі праф. Леман у сваей кнізе „Біялогія ў жыцці сучаснасці" заяўляе, што кіруючым прынцыпам для біёлагаў павінна стаць гітлераўскае патрабаванне „бачыць мэту не ў палепшанні спосабаў развядзення сабак, коней і катоў, а ў палепшанні пароды чалавека самаго" [2]). У другім месцы той-жа Леман заяўляе, што падобна таму, як скрыжаваннем дабіваюцца палепшання сартоў пшаніцы,—трэба дабіцца таго, каб са „здаровага спадчынна-моцнага сялянства ўліўся ў народ магутны дзіцячы паток" [3]).

Неперавышаным узорам такога роду твораў з'яўляецца, напрыклад, нашумеўшая кніга праф. філасофіі Лейпцыгскага універсітэта Эрнста Бергмана „Дух пазнання і матчына права" [4]). Орган цяжкай рэйнскай індустрыі „Рэйнска-Вестфальская газета" пісала пра гэту кнігу, што яе абавязан вывучыць усякі, хто заклікан прыняць удзел у аднаўленні і выратаванні германскай бацькаўшчыны. Тым больш падстаў у нас ёсць, каб крыху падрабязней азнаёміцца з яе асноўнымі ідэямі.

Сучаснае чалавецтва знаходзіцца ў стане адчайнай барацьбы, якую вядуць паміж сабою незлічоныя „нацыяналь-

---

[1]) Wład. Spasowski, Wyzwolenie człowieka, Nakład F. Golsicka, Warszawa, 1933, ś. 291.

[2]) Ernst Lehmann, Biologie im Leben der Gegenwart, S, 222.

[3]) Там-жа, стар. 236.

[4]) Prof. D-r Ernst Bergmann, Erkenntnisgeist und Mutterrecht. Eine Soziosophie der Geschlechter, Verl. Hirt., Breslau, 1933, S. 448.

ныя і расавыя індывідуальнасці“ зямлі. Гэта барацьба, падначаленая ўсім законам натуральнага адбору, з канцом, разрушаючага рэлігію і забіваючага ілюзіі XIX в. разгарэлася ва ўсей яе біялагічнай вострасці і натуральнай аголенасці. Пераможа ў гэтай барацьбе тая раса, якая акажацца сільней і чысцей. Ад гэтага немінучага фінала чалавецтва не выратуе ніякая ліга нацый, ніякая пан-Еўропа, ніякі пацыфізм. На руінах свету ўздыме свой пераможны сцяг тая раса, якая акажацца самай сільнай, самай благароднай і самай адукаванай жывёлай на зямлі. Германія—сэрца Еўропы—пры яе сучасным стане (пісана да „нацыянальнай рэволюцыі“) не мае даных, каб аказацца гэтым народам-пераможцам. Яна разарвана брацкімі міжусоб‘ямі і вайною светапоглядаў. Пераможа таму другі народ, магчыма нават пазаеўрапейскі, які перplayer увесь культурны свет у дым і попел. Для таго, каб гэтага не здарылася, належыць стварыць пакаленне, здольнае перамагчы ў гэтай бязлітаснай вайне, якая ўжо развязваецца. Гэта пакаленне можа ўзнікнуць, калі развітацца з традыцыйнай ідэяй стыхійнага дзетанараджэння і перайсці да арганізаванага чалавекаводства (Menschenzüchtung).

Лейпцыгскі філосаф жорстка высмейвае тых прастакоў, якія ў сваей наіўнасці лічаць, што разводзіць можна толькі тульпанныя лукавіцы ці каракулевых барашкаў. Трэба разрушыць гэту ганарлівую заразумеласць, якая „наперакор Дарвіну“, карыстаецца крэдытам сярод большасці. Трэба перайсці да тых самых спосабаў развядзення людзей, якія практыкуюцца ў прымяненні да тульпанаў і барашкаў. Бо народ, які мае багата бяздзетных жанчын, старых дзеў, прастытутак і расчараваных мужападобных жанчын, знаходзіцца на краі гібелі. Бо калі маці ператвараецца падобна Ніобе ў камень, то народ не могуць выратаваць ніякі дучэ, ніякі бог. Адзіны ратунак у тым, каб жанчына вярнулася да яе натуральнага прызначэння—быць маці, каб дзяржава перайшла да штучнага развядзення людзей паводле агульных прынцыпаў зоатэхнікі. „Чалавек пры сучасным грамадскім ладзе займаўся жывёлагадоўляй, але ніколі не займаўся і не мог займацца чалавекаводствам, хоць гэта яму было быць можа больш неабходна, чым жывёле, якая яму належала,—аб гэтым сведчыць погляд на нашы турмы, вар‘яцкія дамы, на ўсю нашу культуру... Што-ж будзе тады з любоўю, спытаюць. Бог мой, што-ж адбываецца з ёю ў сучасны момант? Дзе-ж яшчэ ў наш матэрыялістычны век уступаюць у шлюб па любві?“...[1])

Так выглядае ў яго поўным завяршэнні і лагічнай паслядоўнасці „біялагічны светапогляд“ сучасных эпігонаў буржу-

[1]) Ernst Bergmann, Назв. твор., стар. 443-444.

азнай філасофіі, для якіх чалавечае грамадства з'яўляецца нічым іншым, як стадам жывёлы пэўнай пароды. Іх „скоцкая“ ідэалогія прапагандуе стварэнне такога „грамадскага ладу“, трыма кітамі якога былі-б канцэнтрацыйны лагер, божы храм і універсальны злучны пункт—для тульпанаў, барашкаў і людзей... Фашысты ўжо дабіліся некаторых поспехаў па шляху ажыццяўлення гэтага ідэала...

Толькі сляпы не ўбачыць за ўсімі гэтымі філасофіямі чалавекаводства, за ўсею гэтай невуцкай абракадабрай тэарэтыкаў „біялагічнага светапогляду“, класавага твара да смерці напалоханага ўздымаючайся рэвалюцыйнай хваляй і лавіруючага ў пошуках ратунку эксплуататара.

---

## АСНОЎНЫЯ ЎСТАНОЎКІ „РАСАВАЙ ПРАПАГАНДЫ“

Расавая прапаганда фашызма мае, як мы ўжо бачылі, некалькі асноўных установак, якія вызначаюць яе характар.

Яна праследуе, папершае, мэту „навукова“ абгрунтаваць і тым самым санкцыянаваць каланізатарска - рабаўладальніцкую палітыку імперыялістаў. Як вядома, іменна гэта заданне ў асноўным абумовіла і само ўзнікненне расізма, як ён выявіўся ў працах яго асновапаложнікаў,—Гобіно, Чэмберлена, Ляпужа. У ажыццяўленне гэтага задання расавікі даказваюць, што народнасці, якія з‘яўляюцца аб‘ектам імперыялістычнай эксплуатацыі, прадстаўляюць сабой ніжэйшыя, няздольныя паводле свайго расавага характару і культурнага развіцця расы, што гэтыя расы прадвызначаны знаходзіцца на становішчы кіруемых вышэйшымі „панскімі“ расамі. Сучасныя расолагі займаюцца ўзмоцненым мусіраваннем гэтай „тэорыі прыроджанай і расавай дзікасці“.

Расавая прапаганда фашызма праследуе, падругое, мэту „біялагічна“ абгрунтаваць ваяўнічы нацыяналізм фінансавага капітала, яго імперыялістычную агрэсіўнасць. Яна накіравана к доваду перавагі „сваей“ расы над усімі іншымі і, значыць, выцякаючай адсюль яе немінучай перамогі ў набліжаючыхся ваенных сутычках, у быстра наспяваючай вайне. Іменна гэта імкненне нараджае дэманстраваны вышэй фашысцкі брэд аб паўночнай расе, аб богам абраных арыйцах і інш. Гэта прапаганда мае яўна інтэрвенцыяніскі ў адносінах да СССР характар. Палітычны сэнс расавых тэорый, прапагандуемых гітлераўскімі спадручнымі з вучонага цэха, быў вычарпальна ўскрыт тав. Сталіным на XVII партз‘ездзе. Іх мэта—паказаць, „што вайну павінна арганізаваць „вышэйшая раса“, скажам, германская „раса“ супроць „ніжэйшай расы“, перш за ўсё—супроць славян, што толькі такая вайна можа даць выхад са становішча, бо „вышэйшая раса“ заклікана апладатвараць ніжэйшую і ўладарнічаць над ёю“ (Сталін).

Расавая прапаганда фашызма праследуе, па-трэцяе, мэту даказаць наяўнасць унутры данай дзяржавы „інарасавых“ элементаў, якія прыносяць шкоду дзяржаве, падтачваюць яе магутнасць, адмоўна ўплываюць на пануючую расу. Мы

маем тут справу з даўнім і зацяганым прыёмам спробы адцягнення мас ад класавай барацьбы. Амерыканскія расісты ў якасці такога „класавага громаадводу“ шырока выкарыстоўваюць неграў, германскія расісты—яўрэяў. У Амерыцы шырока прапагандуюцца тэорыі Гранта і Стодарта аб „прыроджаным прымітывізме“ неграў, аб іх „разумовай невыстарчальнасці“, аб адсутнасці ў іх тармажэння, аб іх паталагічнай сексуальнасці і т. д. У Германіі шарлатанскія выдумкі Ленцаў і Гюнтэраў залíваюць краіну шырокім патокам антысеміцкай навуковападобнай прапаганды. Праф. Леман у сваей кнізе „Біялогія ў жыцці сучаснасці“ з захапленнем паведамляе, што ў той час, як у пару яго юнасці школьнікі аддавалі час чытанню мастацкіх твораў Грыльпарцэра або Б'ерсона, яны цяпер паглыбляюцца ў вывучэнне расазнаўства Гюнтэра[1]). З расазнаўства праф. Гюнтэра яны даведваюцца, што яўрэяў нельга нават называць расай, бо яны прадстаўляюць сабою „расавую помесь“ другога парадку. Яны вывучаюць адрозніваючыя прызнакі гэтай „расавай помесі“ з дапамогаю схематычных чарцяжоў „яўрэйскага носа“ і строга-навуковых характарыстык яўрэйскай „круглай спіны“. Яны даведваюцца з „прац“ праф. Гюнтэра, якія з'яўляюцца навучальнымі дапаможнікамі ў сярэдняй і вышэйшай школе, што яўрэі адметны маленькім ростам, адвіслаю ніжняй губой, высунутым уперад падбародкам, адтапыранымі вушамі, што існуюць асобыя формы „яўрэйскага целаруху“, што мова яўрэяў адметна шапялявасцю (das Mauscheln), што яўрэям уласцівы асобы запах—odor judaeus,—які адрознівае іх ад усіх іншых рас, што яны, нарэшце, менш за іншых хвараюць на запаленне лёгкіх, тыф, малярыю, чуму, воспу, але затое часцей за іншых хвараюць на сэрца, рак, душэўныя захворванні і прагрэсіўны параліч... Там-жа ўстанаўляецца прыроджаная схільнасць яўрэяў да зводніцтва, сутэнёрства, гандлю жанчынамі і пашырэння парнаграфічных здымкаў... Усё гэта з бясспрэчнай навуковасцю, падмацаванае шматлікімі цытатамі, дыяграмамі, зводкамі даказваецца ў кнізе—Ганса Гюнтэра „Расазнаўства яўрэйскага народу“. Карыстаючыся ёю, студэнты вывучаюць па партрэту Стэфана Цвейга пярэдне-азіяцкі тып яўрэяў, па партрэту Генрыха Гейне—паўночна-ўсходні яўрэйскі тып, па партрэту Карла Радэка—усходні тып яўрэяў і па партрэту Мечнікава тып „поўяўрэя“ (Halbjude)... Дзікія фантазіі поўграматных царскіх чорнасоценцаў Шмаковых і Замыслоўскіх васкрасаюць у „працах“ расавікоў, якія шарлатанскі надаюць ім навукападобную форму. Для класавай характарыстыкі гэтых „прац“ не пазбаўлена цікавасці тое, што

[1]) Rassenkunde des jüdischen Volkes von. D-r Hans F. R. Günther, Lehmanns Verl., München, 1930, S. 346.

існуе, аднак, адна частка яўрэйскай „расавай помесі“,пра якую расісты гавораць у вельмі спачувальных, нават цёплых танах... Заалагічны антысеміт Гюнтэр расчулена гаворыць аб тым, што „дастойнае вырашэнне яўрэйскага пытання ляжыць у абараняемым сіянізмам аддзяленні яўрэяў ад неяўрэяў[1]). Другі вучоны пагромшчык Фрыдрых Ленц заяўляе, што ён лічыць „не немагчымым, што сіяніцкі рух, які хоча ў аснову агульнасці лёсаў пакласці агульнасць усіх яўрэяў паводле паходжання і крыві... прынясе яўрэйству ратунак“[2]). Вось сапраўды класічны ўзор класавай салідарнасці эксплуататараў, якую не можа затушаваць якая-б там ні была расіцкая балбатня...

Расавая прапаганда фашызма, пачацвертае, ставіць перад сабой задачу, якая ў апошні час паглынае ўсё больш энергіі расістаў. Гэта паказ таго, што соцыяльная дыферэнцыяцыя грамадства абумоўлена дыферэнцыяцыяй расавай, інакш кажучы, што расава-поўнацэнныя элементы законамерна з‘яўляюцца кіруючымі, пануючымі, а расава-малацэнныя, „другасортныя“ элементы настолькі-ж законамерна знаходзяцца на становішчы падначаленых, ніжэй стаячых... Адным словам, расісты стараюцца на сваім ілжэ-навуковым жаргоне васкрасіць разважанні Арыстотэля, які сцвярджаў, як вядома, што рабства аснавана на законамерным падначаленні сабе поўнацэннымі элінамі малацэнных варвараў... Гэту думку ў свой час падхапіў адзін з „асновапаложнікаў“ расізма Ляпуж, даказваўшы, што асноўны соцыяльны закон заключаецца ў падначаленні малацэнных поўнацэнным. Сучасныя Гюнтэры, Ленцы і Базлеры ўзмоцнена даказваюць, што ў верхніх „кіруючых“ слаях нямецкага народу „паўночная кроў“ захавалася ў значна большай ступені, чым у ніжэйшых слаях... Ленц, напрыклад, заяўляе, што прадстаўнікі вышэйшых слаёў адметны больш высокім ростам і што гэта акалічнасць „залежыць, безумоўна, не толькі ад лепшага харчавання ў маладым узросце, а часткова ад большага ўдзелу паўночнай расы“[3]). Большы аб‘ём галавы, больш вузкія скулы, менш высунутыя сківіцы—усе гэтыя прызнакі паўночнай расы сустракаюцца ў ніжэйшых слаёў значна радзей, чым у вышэйшых. Вышэйшыя слаі, дзякуючы сваім паўночна-расавым уласцівасцям, характарызуюцца спакойнасцю, вытрымкай, мэтаімкнёнасцю. Што-ж датычыць ніжэйшых слаёў, то яны, дзякуючы адсутнасці гэтых уласцівасцей, адметны непрадугадлівасцю і нясталасцю. „З прычыны такой душэўнай канстытуцыі, якая не можа быць рашучым чынам зменена шляхам выхавання, людзі з такой схільнасцю

---

[1]) Hans Günther, Rassenkunde Europas, S. 73.
[2]) Prof. D-r Fr. Lenz, Menschliche Auslese und Rassenhygiene, S. 143.
[3]) Там-жа, стар. 85.

пастаянна становяцца аб'ектам эксплуатацыі—ці то капіталістаў, ці дэмагогаў... Знаходзячыся пад уплывам мінуты, асляпляемыя мішурой і падкупаемыя словамі, яны сваімі паводзінамі напамінаюць паўднёвыя першабытныя расы“ ...[1])

Вось якім чынам ажыццяўляецца „расавае абгрунтаванне“ класавага панавання эксплуататараў—эксплуататары аб'яўляюцца носьбітамі ўсіх фізічных і духоўных паўночна-расавых доблесцей, эксплуатуемыя масы разглядаюцца, як інфантыльныя, поўдзікунскія, першабытна-расавыя, маючыя патрэбу ў апякуне. Апошнім „натуральна“ з'яўляецца фашызм...

Доказ біялагічнай няпоўнацэннасці „ніжэйшых слаёў“ ажыццяўляецца расістамі пры дапамозе цэлага арсенала самых рознастайных довадаў. Тут і антрапалагічныя вымярэнні, праз якія Нічэфоро даказвае, напрыклад, што аб'ём галавы 12-гадовых дзяцей маёмных бацькоў роўны 53 з палавінай сантыметрам, а немаёмных—52 з палавінай сантыметрам. Паводле Базлера ў вышэйшага класа „больш далікатная будова касцей“. Тут і довады аб разумовай адсталасці дзяцей немаёмных бацькоў. Так, напрыклад, Ленц устанаўлівае, што ў бясплатных школах на другі год застаецца ўтрая больш дзяцей, чым у школах платных. Ён-жа ўрачыста апавяшчае, што сярод абследваных вучняў бясплатных школ адпавядаючымі для пераходу ў сярэднюю школу аказалася 2,9 проц., а ў платных школах гэты процант дасягае 11,5 проц. Падобнай статыстыкай займаецца Гартнак у сваей кнізе аб натуральных граніцах адукацыі—тут і нізкі процант бедных дзяцей у школах для адароных, і пасведчанне прафесароў, што лепшымі студэнтамі аказваюцца сыны бацькоў, займаючых высокае палажэнне і т. д., і т. д. Шырока аргументуюць і тым, што „ніжэйшыя слаі“ пастаўляюць максімальны процант злачынцаў і прастытутак, васкрашаючы ламбразіянскія тэорыі „ўраджонага злачынца“, „ураджонай прастытуткі“ і т. д. Пры гэтым злачынец разглядаецца як паказальнік „расавай няпоўнацэннасці“, „расавага атавізма“ і т. д. У тыпе злачынца, сцвярджае Ленц, часта сустракаюцца рысы неандэртальскага чалавека і іншых прымітыўных рас—масіўныя сківіцы, убягаючы лоб і т. д. [2]). Гэты буйнейшы тэарэтык расізма глыбокамыслена тлумачыць злачыннасць тым, што сярод сучаснага насельніцтва рассеяны спадчынныя задаткі першабытных (раннедылювіяльных) рас і што носьбіты гэтых задаткаў лёгка ўступаюць у супярэчнасці з патрабаваннямі соцыяльнага жыцця.

---

[1]) Ленц, названы твор, стар. 93.
[2]) Там-жа.

Выконваючы заказ сваіх гаспадароў, фашыствуючыя расісты праяўляюць сваю вынаходлівасць не толькі ў доказах біялагічнай „другасортнасці“ рабочага класа, яны расава дыферэнцыруюць і сам рабочы клас з мэтай паказаць біялагічныя перавагі рабочай арыстакратыі ў адносінах да шырокіх рабочых мас. Так, напрыклад, Грундэль даказвае на старонках „Архіва расавай і грамадскай біялогіі“, што сярод рабочых маюцца дзве зусім розныя з біялагічна-спадчыннага пункту гледжання катэгорыі: інтэлігентныя, рухомыя, соцыяльна імкнучыяся ўверх рабочыя, якія складаюць цэнны касцяк прамысловага пролетарыята і безнадзейна няздольныя, тупыя, неарганізаваныя масы рабочых [1]). Гэты-ж „вынаходлівы“ аўтар даказвае, што ступень кваліфікацыі рабочага ў асноўным абумоўлена яго біяспадчыннымі задаткамі і што „духоўная пропасць“, аддзяляючая адзін ад аднаго розныя слаі рабочых эканамічна неаб'ясніма, будучы абумоўлена прычынамі біялагічнага парадку.

Не спыняюцца вучоныя фашысцкія „расаведы“ і перад тым, каб трактаваць класавую барацьбу, як барацьбу рас. З выключнай яснасцю аб гэтым гаворыць, напрыклад, Ленц, сцвярджаючы, што ў грамадзянскую вайну змагаючыяся бакі мацней адрозніваюцца ў расавых адносінах адзін ад аднаго, чым у час вайны паміж дзяржавамі“ [2]).

Як-бы не распіналіся ідэолагі загніваючага капіталізма ў доказах таго, што класы—гэта „марксісцкі міф“, што гісторыя чалавецтва—гэта „гісторыя барацьбы рас“, колькі-б яны не пісалі аб „адзінай“, аб „тотальнай“, аб „маналітнай“ расе, яны самі не прымаюць усяго гэтага ўсур'ёз. Дурманячы масы дэмагогіяй і несучы тым сваю службу фінансаваму капіталу, яны ні на секунду не забываюць аб тым, што іх праслаўтая адзіная раса складаецца з „расы“ эксплуататараў і „расы“ эксплуатуемых, што трэба тэарэтычна прыслужваць першай і тым практычна дапамагаць прыгнечанню другой „расы“... Іншы раз яны аб гэтым даволі адкрыта выказваюцца, як гэта зрабіў, напрыклад, Шпенглер у сваей апошняй кнізе „Рашаючыя гады“, наскрозь атручанай ядам ненавісці к „расе“ пролетарыята.

...„У той ці іншай ступені ўсё гэта вырадкі, людзі, у якіх замест сапраўднай расы вы можаце канстатаваць злосць і помсту. У іх галаве толькі злосныя мыслі з прычыны няўдаўшагася жыцця. Самай важнай часткай цела яны лічаць язык. Гэта падонкі вялікіх гарадоў, гэта сапраўдны плебс, гэта сапраўдныя нізы грамадства, адчу-

[1]) E. Günther — Gründel, Die Bevölkerungsproduktion in der modernen Volkswirtschaft, Archiv für Rassen und Gesellschaftbiologie, 23 Band, S. 45.

[2]) Ленц, названы твор, стар. 63.

ваючыя пастаянную ненавісць да ўсяго вялікага і дабрачыннага ў гэтым свеце“ [1]).

Плебейскай „расе“ пролетарскіх „падонкаў“ панове Шпенглеры процістаўляюць арыстакратычную „расу“ сваіх гаспадароў, у якіх „шляхетна-інтэлігенцкі твар, вузкая нага, прыгожы поступ“...

Шпенглер вельмі адкрыта сказаў тое, аб чым думаюць, але што пільна скрываюць дзесяткі іншых „расісцкіх“ тэарэтыкаў. Іх клопаты аб „чыстаце расы“ азначаюць нішто іншае, як трывогу за лёс свайго класа. І гэтай трывогі ім не ўдаецца скрыць... Адзін з кіруючых расісцкіх органаў— нямецкі часопіс „Народ і раса“ вельмі ярка перадае гэта пачуццё трывогі. Бяда не ў тым, што падае дзетанараджэнне,—заяўляе часопіс,—няшчасце ў тым, што „якраз нашы жанчыны—жанчыны поўнацэннага, культурна вядучага, соцыяльна высокастаячага грамадскага слоя... або зусім не раджаюць дзяцей, або абмяжоўваюцца нараджэннем не больш двух дзяцей“. Нізка-ж стаячыя соцыяльныя слаі пастаўляюць грамадству агромную колькасць няпоўнацэнных, дэфектыўных, дэгенератаў (ідзе „аб‘ектыўная“ статыстычная зводка аб тым, што прытулкі для слабых на розум і дапаможныя школы на 80 проц. запаўняюцца прадстаўнікамі „ніжэйшых слаёў“ пры жульніцкім ігнараванні той акалічнасці, што гэтыя „ніжэйшыя слаі“ складаюць звыш 80 проц. усяго насельніцтва і што „поўнацэнныя, кіруючыя вышэйшыя слаі“ сваіх дэгенератаў утрымліваюць зусім не ў грамадскіх прытулках для інвалідаў)... А непакоіцца сапраўды ёсць чаго: „Калі культурныя і кіруючыя слаі германскага народу не вытвараць і не выхаваюць у бліжэйшыя гады дастаткова дзяцей, то, не гледзячы на ўсе знешне-ўнутраныя палітычныя поспехі і на ўсю бачнасць культурнага бляску, мы немінуча загінем“... [2])

Тую-ж трывогу за лёс свайго класа выказаў вядомы англійскі праф. Гекслі ў час нядаўняга выступлення.

„Звярніце ўвагу на тое, што адбываецца ва ўсіх буйных краінах,—сказаў Гекслі,—тыя, якія палі найбольш нізка з прычыны недахопу сродкаў, уладаюць найбольш многалікімі сем‘ямі. Гэта—слаі найбольш бедныя і найменш адароныя. І ў той час, як іншыя слаі насельніцтва абмяжоўваюць нараджальнасць, гэты клас размнажаецца з незвычайнай хуткасцю. Трэба перашкодзіць узнаўленню няпоўнацэнных істот. З другога боку, патрэбна садзейнічаць узнаўленню ўдачных індывідуумаў“.

---

[1]) Osw. Spengler, Jahre der Entscheidung, Verl. Beck, München, 1933, S. 67.
[2]) L. G. Tirola, Die biologische Erneuerung des deutschen Volkes, „Volk und Rasse“, 1933, № 3, S. 114-15.

Так расшыфроўваюцца ўсе многалікія пісанні тэарэтычных ландскнехтаў паміраючага капіталізма, спрабуючых пад барабанны бой фашысцкага расазнаўства „біялагічна аднавіць“ клас сваіх гаспадароў і, уліўшы ў яго новую кроў, зрабіць яго больш здольным для барацьбы з пралетарыятам. Смяхотныя і нікчэмныя патугі наёмнікаў класа, гібель якога абумоўлена ўсім ходам гістарычных падзей, усімі суадносінамі сіл на сучаснай палітычнай арэне.

Насаджаючы расавы культ, ідэолагі загніваючага капіталізма, як мы ўжо гаварылі, выкарыстоўваюць цэлы арсенал аргументальных сродкаў.

Сярод іх адным з найбольш распаўсюджаных з‘яўляюцца славутыя тэсты для вызначэння шкалы разумовай адаронасці. Карыстаючыся гэтымі тэстамі, фашысцкія расаведы „строга навукова“ — устанаўляюць „аб‘ектыўныя паказальнікі“ інтэлектуальнага развіцця розных даследваемых імі груп і ўрачыста дэманструюць біялагічную і расавую няроўнацэннасць гэтых груп. Калі нават адцягнуць сваю ўвагу ад тых акалічнасцей, што стандартызаваныя тэсты з‘яўляюцца вельмі ўмоўным, штучным, далёкім ад адэкватнага адлюстравання сапраўднага інтэлектуальнага ўзроўню вымяральнікам, то ўся расісцкая спекуляцыя на тэстах не мае аніякай цэннасці: тыя адрозненні, якія фіксуюцца тэстамі адносна розных абследуемых груп, ёсць адрозненні, абумоўленыя грамадскім палажэннем гэтых груп, а не іх біярасавымі спадчыннымі прызнакамі. Фіксуемая гэтымі тэстамі адсталасць негрыцянскіх, індзейскіх і кітайскіх школьнікаў мае таксама мала агульнага з іх расавымі асаблівасцямі, як тыя выпадкі адставання ў вучобе дзяцей працоўных, наконт якіх мы ўжо аб гэтым гаварылі—„скачуць і граюць“ вучоныя фашысцкія расаведы. Калі тэсты адлюстроўвалі разумовае адставанне пэўнай групы негрыцянскіх дзяцей, то хіба не відавочна, што гэта адставанне абумоўлена социяльнымі ўмовамі іх існавання, умовамі акружаючай іх эксплуатацыі буржуазіяй „вышэйшай“ і „поўнацэннай“ расы?... Варта толькі зруйнаваць гэтыя ўмовы, каб ліквідаваць і гэтыя „ўраджоныя“, „незнішчаемыя“, „устойлівыя“ расавыя ўласцівасці. Практыка Совецкага саюза дае непахісныя таму довады. Бо і рускія чорнасоценна-вялікадзяржаўніцкія антраполагі, як з пісанай торбай, у свой час насіліся з доказамі „разумовай невыстарчальнасці“ і „расавай няпоўнацэннасці“ дзесяткаў народнасцей, якія, дзякуючы дыктатуры пролетарыята, хутка ліквідуюць сваю культурную адсталасць і выходзяць у рады перадавых будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства...

Зусім адвольна і даволі збіўчыва, як мы бачылі, падзяляючы чалавецтва на „чыстыя“ расы, расавыя шавіністы кваліфікуюць іх і надзяляюць расы ўсякімі дадатнымі і адмоў-

ными рысамі выключна ў залежнасці ад тых мэт, якія яны праследуюць. Буржуазны крытык расістаў праф. Фрыдрых Герц, які намі ўжо называўся, заўважае, што адзіны крытэрый, які расістамі кладзецца ў аснову іх расавых характарыстык, гэта пачуццё іх „сімпатый“ да той ці іншай расы. Так, напрыклад, калі справа ідзе аб арыйцах, то гавораць аб „арыйскай прагнасці да падарожжаў“, аб „арыйскім імкненні да прыгод“, але калі справа пачынае ісці аб семітах або манголах, то гэта-ж рыса ператвараецца ў „варожае культуры вандраванне“, у „валацужнае існаванне“. Па таму-ж прынцыпу гавораць аб „любві к свабодзе“ або аб „імкненні“ к анархіі, аб „пачуцці адданасці“ або „рабскіх прывычках“, аб „нацыянальнай гордасці“ або „гальскім самамненні“, аб „рэальнай палітыцы“ або „палітычным эгаізме“ і т. д., і т. д. [1]).

Гістарычная рэчаіснасць, навуковая абгрунтаванасць іх расавых тэорый менш за ўсё цікавіць фашыстаў. Ім важна толькі надаць сваей расавай прапагандзе выгляд такой абгрунтаванасці. Прытым адбываецца самае нахабнае падтасоўванне фактаў. Ярлычкі „расавага пачатку“ шчодрай рукой наклейваюцца на з'явы такога парадку, як культурная адсталасць пэўных груп насельніцтва або-ж як канстытуцыянальныя ўласцівасці арганізма.

Адным з найбольш культывуемых расістамі аргументаў псіхічнай і інтэлектуальнай рознацэннасці рас з'яўляецца довад аб спецыфічнасці расавай будовы мозга. Расісты даказваюць, што мозг чалавека „вышэйшай“ расы мае іншую марфалогію паверхні (барозны і звіліны), чым мозг чалавека „ніжэйшай“ расы. Яны даказваюць, што жывёле і людзям „ніжэйшых“ рас уласціва меншая колькасць барознаў і звілін, чым прадстаўнікам „культурных“, „вышэйшых“ рас. У мазгу прадстаўнікоў „ніжэйшых“ рас расісты ўзмоцнена адшукваюць усякага роду атавістычныя перажыткі і адзнакі.

У якасці аднаго з такіх „атавістычных“ элементаў, які расісты асабліва ахотна падкідваюць „ніжэйшым“ расам, трэба ўказаць так званую „малпавую баразну“, якая прадстаўляе мозгавую баразну поўлуннай формы, абмяжоўваючую спераду стрыярнае поле. Расісты абвяшчаюць гэту баразну спецыфічнай прыналежнасцю „ніжэйшых“ рас і на падставе гэтага „даказваюць“ блізкае сваяцтва мозга прадстаўнікоў гэтых рас з мозгам малп. З лёгкай рукі некаторых даследчыкаў (Эл. Сміт, Бродман і інш.), знайшоўшых „малпавую баразну“ ў абследваных імі груп фелахаў, неграў, яванцаў, расісты ўключылі ў „жалезны інвентар“ сваей аргументацыі

[1]) Prof. D-r. Fr. Herz, Rasse, Handwörterbuch der Soziologie, Verl. Enke, Stuttgart, 1931, S. 465.

довад ад „малпавай баразны“, як спецыфічнай адзнакі „прымітыўных рас“, мозгавая структура якіх абвяшчаецца ў асноўным супадаючай з такавой арангутангаў і шымпанзе.

Некаторыя работы нашых совецкіх вучоных за апошні час паказалі сапраўдную цану расісцкім спекуляцыям на марфалогіі паверхні мозга і ў прыватнасці на гэтай славутай малпавай баразне. Тут можна, як прыклад, указаць каштоўныя работы Ленінградскага дзяржаўнага інстытута імя Бехцерава па вывучэнню мозга. Сектар марфалогіі гэтага інстытута выпусціў спецыяльны зборнік, прысвечаны праблеме барознаў і звілін у марфалогіі мозга [1]). У зборніку апублікаваны пераканаўчыя матэрыялы ў доказ таго, што барозны і звіліны, якія сустракаюцца ў еўрапейцаў, назіраюцца ў другіх рас, што любая варыяцыя, якая сустракаецца ў адной якой-небудзь расе, можа сустрэцца і ў другой, што выдуманым з'яўляецца спецыфічна ўласцівая данай расе анатомія мозга, бо „ўжо на сёнешні дзень можна гаварыць аб такім супадзенні, што немагчыма адрозніць мозг аўстралійца, явайца і еўрапейца“ [2]).

Значная эксперыментальная работа, праробленая інстытутам па вывучэнню мозга, паказала, што „малпавая баразна“, якая расістамі абвяшчаецца атавістычным перажыткам, уласцівым толькі прымітыўным расам і сведчачым аб нізкім марфалагічным развіцці мозга, у сапраўднасці сустракаецца ў прадстаўнікоў розных рас і назіраецца ў індывідуумаў высокай разумовай адаронасці. Работнікі Ленінградскага ін-та мозга знайшлі яе ў 72% вывучаных імі мазгоў вялікарусаў, г. зн. прыкладна не ў меншым процанце, чым устаноўлена буржуазнымі вучонымі пры даследванні мазгоў фелахаў, неграў, японцаў і іншых „прымітыўных“ рас. Работы ін-та па вывучэнню мозга вельмі ярка паказалі, што „малпавая баразна“ зусім не з'яўляецца якой-небудзь спецыфічнай расавай адзнакай. Яны ўстанавілі таксама, што гэту баразну нельга разглядаць і як адзнаку ніжэйшага марфалагічнага развіцця мозга ў межах данай расы. Абследваўшы 20 мозгавых поўшар'яў разумова выдатных асоб, работнікі ін-та мозга выявілі „малпавую баразну“ на 14; яна была знойдзена на мазгах такіх адароных людзей, як Мендэлееў, Коні, акад. Бартольд і іншыя буйнейшыя вучоныя і артысты [3]).

---

[1]) Ленинградский госуд. ин-т имя В. М. Бехцерева по изучению мозга, Проблема борозд и извилин в морфологии мозга, Труды сектора морфологии, вып. 2, под ред. Л. Я. Пинес, Лнг., 1934 г.

[2]) Л. Я. Пинес, Проблема борозд и извилин мозга, Труды сектора морфології, вып. 2, под ред. проф. Л. Я. Пинес, Лнг., 1934 г.

[3]) Гл. цікавы артыкул Г. З. Левіна „О так наз. обезьяньей борозде на русских мозгах и на мозгах выдающихся людей“. Назв. зб., стар. 25—34.

Такі адзін з прыкладаў бессаромнай расісцкай спекуляцыі, шляхам шматлікіх перадзержак і фальсіфікацыі навуковых даных, шляхам абвяшчэння індывідуальных варыяцый марфалогіі мозга ўстойлівымі расавымі адзнакамі даказваючых атавістычнасць і адсталасць „прымітыўных рас"...

З расавым шавінізмам буржуазіі загніваючага капіталізма шчыльна змыкаюцца соцыял-фашысты. І ў гэтым пытанні, як і ва ўсіх іншых, II інтэрнацыянал займае антымарксісцкія, антыпралетарскія пазіцыі.

Яшчэ ў лепшыя часы II інтэрнацыянала такі выдатны тэарэтык яго, як Людвіг Вольтман, развіваў ідэі, многія з якіх увайшлі ў „жалезны інвентар" буржуазнага расазнаўства і „біялагічнага светасузірання" сучасных фашыстаў. На пазіцыях расізма стаялі і такія выдатныя дзеячы II інтэрнацыянала, як Ван-Коль. Ён у сваім дакладзе на Амстэрдамскім кангрэсе ў 1904 г., напрыклад, апраўдваў каланіяльную палітыку, патрабаваў захавання калоній пры соцыялізме, матывуючы гэта немагчымасцю прадаставіць самім сабе бяспомачныя і адсталыя расы. Уся нацыянальная палітыка II інтэрнацыянала характарызуецца моцным фашысцкім уплывам. „Белых" і „чорных", культурных і „некультурных",—гаворыць тав. Сталін,—не рашаліся ставіць на адну дошку" [1]).

Па мерыператварэння соцыялістычнага рэфармізма II інтэрнацыянала ў паліцэйскі соцыялізм, яго тэарэтыкі ў пытанні аб расах скаціліся на расісцкія пазіцыі ваяўнічага буржуазнага нацыяналізма. „Крытыка" расізма, з якой выступілі Макс Адлер і Карл Каўцкі, з'яўляецца нічым іншым, як завуаляванай змычкай з расавымі шавіністамі. Акадэмічна дыскусуючы з фашысцкімі расістамі, Адлер і Каўцкі фактычна салідарызаваліся з іх кіруючымі ўстаноўкамі.

У якасці характэрных рыс можна ўказаць, што Макс Адлер палемізуе з расавымі тэорыямі фашыстаў пры дапамозе спачувальна-цытуемых выказванняў вядомага антысавецкага інтэрвенцыяніста іезуіта Мукермана. Робячы выгляд, што ён змагаецца з фашысцкім расізмам, Адлер у сапраўднасці капітулюе перад ім, адносячы да ліку прыродных фактараў гістарычнага развіцця расавую канстытуцыю, якая „ў першую чаргу з'яўляецца фізіялагічна-абгрунтаваным, значыцца, прыродным фактам" (In erster Linie eine physiologisch fundierte, also eine Natursache) [2]). Ухіл у бок біялагізма ў Каўцкага яшчэ можна было заўважыць у рабоце „Размнажэнне і развіццё ў прыродзе

---

[1]) И. В. Сталин, Вопросы ленинизма, Партиздат, 1933, стр. 46.

[2]) Max Adler, Lehrbuch der materialistischen Geschichtsauffassung, Verl. Dietz, Berlin, 1927, Band I, S. 489.

і грамадстве". У яго кнізе „Яўрэйства і раса" біялагізм ужо акрэслена афарбаваўся ў расісцкія колеры. У рабоце „Матэрыялістычнае разуменне гісторыі" ён ужо проста працягнуў руку расістам. Наскрозь супярэчлівы, ад першага да апошняга радка эклектычны, першы раздзел трэцяй кнігі гэтай энцыклапедыі ренегацтва знешне накіроваң нібы супроць буржуазнага расізма. Па сутнасці ён прысвечан абароне пазіцый расізма. Змыкаючыся з расістамі, Кауцкі сцвярджае, што „від уплыву пэўнага асяроддзя на расу... залежыць не толькі ад гэтага асяроддзя, але і ад уроджаных уласцівасцей расавага характару" (von den Apriori des Rassencharakters). У адзін унісон з расістамі ён асабліва падкрэслівае, што „адно і тое-ж асяроддзе парознаму ўплывае на розныя перададзеныя па спадчыне ўласцівасці і значыцца на розныя расы" [1]). Ён салідарызуецца з пашляцінай заядлых заалагічных расаведаў аб уласцівых расам пахах, згаджаючыся з імі, што „натуральна не трэба адмаўляць, што некаторыя расы маюць асаблівы пах" і снабжаючы гэту нікчэмнасць не менш агіднымі расказамі аб фактах з сваей жыццёвай практыкі [2]). Прагульваючыся пад ручку з расісцкімі апалагетамі каланізатарскага рабства, Кауцкі ў процілегласць сваім-жа шматлікім фактам сведчыць, што сутнасці вучэння аб развіцці „адпавядае думка, што існуюць па прыродзе расы, духоўна ніжэй і духоўна вышэй стаячыя" [3]). Пераклікаючыся з фашыстамі, ён заяўляе, што „розныя расы ў розных адносінах розна адораны" [4]).

Кауцкі імкнецца ўсяляк скрыць сляды свайго яднання з ваяўнічымі буржуазнымі расістамі. Таму, усе яго развагі аб расе пабудаваны па прынцыпу бязлікіх агаворачак, прасякнутых сафістычнымі хітрыкамі і блудлівым віляннем. Але ўся яго тактыка і стратэгія не могуць скрыць таго рашаючага факту, што тэарэтычны правадыр II інтэрнацыянала выступае саратнікам самых нахабных прапагандыстаў расавага шавінізма.

---

[1]) Karl Kautsky, Materialistische Geschichtsauffassung, Verl. Dietz. Berlin, 1927, Band I, S. 490.

[2]) Там-жа, стар. 515.

[3]) Там-жа, стар. 518.

[4]) Там-жа, стар. 536.

## РАСАВАЯ ПРАПАГАНДА Ў ЦАРСКАЙ РАСІІ

Расійская імперыя прадстаўляла сабой многанацыянальную дзяржаву, якая склалася „ва ўмовах неліквідаванага яшчэ феадалізма, ва ўмовах слаба развітага капіталізма, калі адцёртыя на задні план нацыянальнасці не паспелі яшчэ кансалідавацца эканамічна ў цэласныя нацыі“[1]). Роля аб'яднальніка нацыянальнасцей у Расійскай імперыі была сыграна насяляўшымі цэнтр краіны вялікарусамі, якія складалі 43% насельніцтва царскай Расіі. Пануючыя класы вялікарускай нацыянальнасці ажыццяўлялі палітыку заваявання, каланіяльнай эксплуатацыі і нацыянальнага прыгнечання ў адносінах да звыш чым 100 нацыянальнасцей, уваходзячых у склад імперыі і складаючых 57% яе насельніцтва.

Памешчыкі і капіталісты царскай Расіі, ажыццяўляючы палітыку нацыянальнага прыгнечання і каланіяльнага аграблення „акраін“, імкнуліся знайсці ідэалагічнае „абгрунтаванне“ сваей нацыяналістычна-драпежніцкай палітыкі. Яны вышуквалі ўсялякія сродкі ідэалагічнага „апраўдання“ дзеянняў ваенна-феадальнага, пераплятаўшагася з капіталістычным, імперыялізма царскага ўрада. Рускі вялікадзяржаўны нацыяналізм з'яўляўся афіцыяльнай дзяржаўнай дактрынай, закліканай даказваць права вялікарускіх памешчыкаў і капіталістаў на прыгнечанне і аграбленне „інародцаў“. У гэтым быў сакравенны сэнс шматлікіх пісанняў рускіх славянафілаў тыпу Івана Аксакава, эпігонаў славянафільства тыпу Данілеўскага або Леоньц'ева, нацыянал-рэакцыянераў навейшай фармацыі накшталт Локаця, густапсовых чорнасоценцаў пароды Піхно і Меншыкавых, нацыянал-лібералаў ад Мілюковых да Пешэхонавых. З адзіным фронтам вялікадзяржаўных нацыяналістаў вялі да канца паслядоўную і бязлітасную барацьбу толькі большэвікі Расіі на чале з В. І. Леніным. Ідэалагічныя прыказчыкі рускіх капіталістаў „абгрунтоўвалі“ і абаранялі вялікадзяржаўны нацыяналізм з дапамогай самай match рознабаковай аргументацыі. Тут высоўваліся довады гістарычнага і эканамічнага парадку, пускаліся ў ход доказы ад

[1]) И. В. Сталин, Марксизм и национально-колониальный вопрос, Партиздат, М., 1934 г., стр. 10-11.

месіянскага прадназначэння Расіі, мелі хаджэнні геаграфічныя, прававыя, этычныя аргументы і т. д. і т. д. Сярод гэтага рознакаліберкага арсенала, якім карысталіся ідэолагі вялікадзяржаўнага рускага нацыяналізма, расісцкія довады займалі не апошняе месца.

Тая навуковая прадукцыя, якая выдавалася ў царскай Расіі па пытаннях гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, антрапалогіі і раду іншых дысцыплін, наскрозь прасякнута вялікадзяржаўніцкімі ўстаноўкамі. Гэтыя ўстаноўкі вельмі часта аргументаваліся довадамі расісцкага парадку.

Тая аргументацыя, якой карыстаўся, напрыклад, абараняючы свае пансдавісцкія ідэі, буйнейшы ідэолаг ваяўнічага рускага нацыяналізма Н. Я. Данілеўскі, з'яўляецца па сутнасці расісцкай. „Прыродныя ўласцівасці“, якія вызначаюць па Данілеўскаму гістарычныя лёсы народаў і іх месца на гістарычнай арэне, маюць характар таго біялагічнага і псіхалагічнага прадвызначэння, на якім грунтуюцца ўсе пабудовы расісцкіх тэарэтыкаў.

Народы, якія „прадвызначаны“ панаваць, павінны выканаць сваю гістарычную місію; народы, якія „прадвызначаны“ падначальвацца, абавязаны пакарыцца немінучаму і гістарычна-законнаму. Асноўную пружыну грамадскага жыцця, галоўны рухавік гістарычнага працэсу, трэба, па думцы Данілеўскага, шукаць „у нявыведаных глыбінях тых племянных сімпатый і антыпатый, якія складаюць як-бы гістарычны інстынкт народаў, які вядзе іх (паміма, хоць і не супроць іх волі і сазнання) да невядомай для іх мэты“[1]).

Уся кніга Данілеўскага „Россия и Европа“ (да рэчы сказаць, некаторыя фашысцкія канкурэнты Освальда Шпенглера, як Іоганн Лееерс і інш., абвінавачваюць яго ў тым, што ён спісаў з гэтай кнігі ўсю сваю прэслаўтую марфалогію гісторыі) прасякнута палкім імкненнем даказаць, што гісторыю Расіі вызначае „ўпадабіцельная сіла рускага народу, пераўтвараючая ў сваю плоць і кроў інародцаў, з якімі прыходзіць у судатыканне або стыканне...“[2])

Калі „гістарычны інстынкт“ рускага народу патрабуе ад яго „ўпадабляць“ сабе інародцаў або, выражаючыся менш філасафічна, ажыццяўляць каланіяльны грабёж „інародчых“ акраін рускім імперыялізмам, то той-ж благаславенны прыродны інстынкт дыктуе інародцам асмысліць гэта непраложнае гістарычнае патрабаванне і яму падпарадкавацца. „Такія плямёны, як, напрыклад, баскі ў Іспаніі і Францыі, кельты княства Валіскага і нашы шматлікія фінскія, татар-

[1]) Н. Я. Данилевский, Россия и Европа, СПБ, 1899 г., стр. 51-52.
[2]) Там-жа, стар. 532.

скія, самаедскія, асцяцкія і іншыя плямёны,—гаворыць Данілеўскі,—прадназначаны для таго, каб зліваецца паступова і неадчувальна з той гістарычнай народнасцю, сярод якой яны рассеяны, асіміляваецца ёю і служыць к павелічэнню markrознастайнасці яе гістарычных праяўленняў"...[1])

Данілеўскі даказвае, што большасць з парабашчоных царызмам народнасцей пранікласся сазнаннем таго, што іх гістарычная місія заключаецца ў тым, каб служыць угнаеннем для глебы, на якой вырастае новы „культурна-гістарычны" славянскі тып. Таму ім чужда якое-небудзь пачуццё нацыянальнага самасазнання. „Само сабой зразумела, што весь, карэлы, зыране, мардва, чарамісы, чувашы, таксама як асцякі, вагулічы або самаеды—не могуць складаць дзяржаў; але яны і прыцязанняў на гэта ніякіх не маюць, не маюць усведамлення гістарычнага або палітычнага характару сваей народнасці,—яго значыцца і зусім не існуе. Такое, напрыклад, становішча баскаў ва Францыі і Іспаніі"[2]).

Слабыя народнасці павінны раз на заўсёды ўсвоіць, што паглынанне іх моцнымі ажыццяўляецца „натуральным шляхам", што яно з'яўляецца рэзультатам непахісных законаў прыроды, што існуе найвялікшы гістарычны сэнс у „афяраванні ніжэйшым для вышэйшага".

Толькі найбольш цёмныя і тупыя інародцы не могуць зразумець той элементарнай ісціны, што „калі племя, якое знаходзіцца на такой яшчэ несвядомай ступені развіцця, абхватваецца другім, ужо пачаўшым свой палітычны рост, то першае паглынаецца апошнім; бо не можа-ж племя больш магутнае, спелае спыніць свой рост таму, што яму на шляху сустракаюцца гэтыя плямённыя недаросткі. Калі паміж дрэвам і яго карой пападаецца староннi прадмет—дрэва абрастае яго, уключае ў сваю масу".[3])

Можна было-б палагаць, што бард ваяўнічага рускага нацыяналізма выканаў сваю місію, так сакрушальна даказаўшы права вялікадзяржаўных каланізатараў паглынаць або знішчаць „плямённыя недаросткі", якія пападаюцца ім на шляху. Аднак толькі тут-та і пачынаюцца цяжкасці. Данілеўскі-ж выступіў са сваім абгрунтаваннем каланізатарскіх правоў царызма якраз у тую пару, калі тэндэнцыі маладога рускага імперыялізма да экспансіі на Бліжні і Дальні Ўсход натыкнуліся на вельмі чуллівае процідзеянне з боку другіх, да таго-ж больш магутных імперыялістычных драпежнікаў. Яны недвусэнсоўна пагражалі ўдарыць па царысцкай лапе, якая цягнулася да Дарданелаў, да „Святой Софіі", да Афганістана, да Карэі, да Манчжурыі, прапануючы абме-

[1]) Н. Я. Данилевский, Россия и Европа, СПБ, 1889 г., стр. 24.
[2]) Там-жа, стар. 239.
[3]) Там-жа.

жавацца ўжо раней награбленым і не совацца ў чужыя сферы ўплыву, на якія маецца і без таго дастатковая кольсасць „прасвяшчоных“ і „законных“ прэтэндэнтаў... Гэта акалічнасць выклікала, вядома, свяшчэнны гнеў філасофствуючага адваката, абараняючага „гістарычную місію“ кіруемага рускім царом славянства... У яго саркастычных словах так неперадавальна гучыць зняважанае пачуццё драпежніка, адагнанага ад дабычы другім, больш моцным драпежнікам.

„Тысячу гадоў будавацца, абліваючыся потам і крывёй, і саставіць дзяржаву ў восемдзесят мільёнаў... для таго, каб частаваць еўрапейскай цывілізацыяй пяць або шэсць мільёнаў каканскіх, бухарскіх або хівінскіх абарванцаў, ды бадай яшчэ два-тры мільёны мангольскіх вандроўнікаў...— вось тое вялікае назначэнне, тая сусветна-гістарычная роля, якая прадстаіць Расіі, як носьбіткі еўрапейскай культуры. Няма чаго казаць, завідная роля,—варта было з-за гэтага жыць, царства будаваць, дзяржаўны цяжар несці, выносіць прыгонны лёс, пятроўскую рэформу, біронаўшчыну і іншыя эксперыменты. Ужо лепш было-б, як драўляне і паляне, вяцічы і радзімічы, па стэпах і лясах скітацца“...[1])

Аднак, аднаго пачуцця абурэння і іроніі, вядома, недастаткова для таго, каб даказаць переважнае права рускіх імперыялістаў грабіць усё новых і новых „плямённых недаросткаў“. Для гэтага патрэбны больш важкія аргументы. Данілеўскі іх адшуквае ў расавых тэорыях. Перш за ўсё наш аўтар лічыць патрэбным даказаць арыйскае первародства славян, трэтыруемых, як ніжэйшая раса, іншымі прэтэндэнтамі на калоніі, да якіх працягнуў лапу рускі імперыялізм.

Данілеўскі не ведае граніц абурэнню, калі германскія расісты спрабуюць падыйсці да славян з тым мярылам, з якім ён сам падыходзіць да „інародцаў“: „Гэта фізіялагічная розніца адносіць нас да ліку ніжэйшых плямён чалавечага роду і такім чынам адхіляе ад прыцязанняў на вышэйшую ступень культурнага развіцця, як-бы асуджае на ролю службовага этнаграфічнага матэрыяла. Я разумею тут Рэтцыусава дзяленне чалавечых плямён на доўгагаловых (dolichicephali) і кароткагаловых (brachicephali). Няма чаго гаварыць, што нашы шматлікія добрапажадальнікі моцна напіраюць на гэту, нібы-та ўнізіцельную для славян розніцу“[2]).

Само сабой, што „этнаграфічным матэрыялам“ могуць быць усялякія „плямённыя недаросткі“, але ні ў якім выпадку не чыстакроўныя арыйцы-славяне.

„Культурна-гістарычныя тыпы адпавядаюць вялікім лінгвістыка-этнаграфічным сямействам або плямёнам чалавечага роду. Сем такіх плямён або сямействаў народаў

---

[1]) Н. Я. Даннилевский, Россия и Европа, СПБ, 1899, стр. 63.
[2]) Там-жа, стар. 185.

належаць да арыйскай расы... Славянскае племя складае сёмае з гэтых арыйскіх сямействаў народаў. Найбольш значная частка славян складае палітычна незалежнае цэлае—вялікае рускае царства..." [1])

Недастаткова, аднак, даказаць арыйскую прыналежнасць рускіх. Трэба даказаць іх перавагі ў адносінах да іншых арыйцаў, іх прэвасходства над іншымі арыйскімі канкурэнтамі на ролю „апекуна" і „пакравіцеля" ніжэйшых рас. Гэта неабходна і таму, што „гістарычная місія" Расіі далёка ад таго, каб заняць месца роўнай сярод раўных.

„Будучы чуждай еўрапейскаму свету па свайму ўнутранаму складу, будучы, апрача таго, занадта моцнай і магутнай, каб займаць месца аднаго з членаў еўрапейскай сям'і, быць адной з вялікіх еўрапейскіх дзяржаў,—Расія можа заняць вартае сябе і славянства месца ў гісторыі не інакш, як стаўшы главой асобай, самастойнай палітычнай сістэмы дзяржаў і служачы процівагай Еўропе ва ўсей яе агульнасці і цэласці" [2]).

Для таго, каб „размежавацца" са сваімі арыйскімі субратамі, Данілеўскі паказвае тыя расавыя ўласцівасці славян і ў асаблівасці рускіх, якія падымаюць іх невымяральна высока над усім астатнім арыйскім светам. Адразняльнай рысай пераважнай рамана-германскай частцы гэтага свету з'яўляецца г в а л т о ў н а с ц ь. Уся еўрапейская гісторыя прасякнута гвалтам. Гвалт характарызуе сабой усе важнейшыя падзеі ў жыцці Еўропы. У поўнай процілегласці з гэтай асноўнай адразняльнай расавай рысай рамана-германскага свету знаходзяцца расавыя ўласцівасці славян.

„Самы характар рускіх і наогул славян чужды гвалтоўнасці, споўнены мяккасці, пакорлівасці, пачцівасці, мае найбольшую адпаведнасць з хрысціянскім ідэалам" [3]).

Карэннай расавай рысай славян, адрозніваючай іх ад усіх іншых арыйцаў, Данілеўскі агалашае „прыродную гуманнасць". Калі рамана-германскі тып характарызуецца ў першую голаву гвалтоўнасцю, то славянскі культурна-гістарычны тып характарызуе ўласцівую яму гуманнасць. Таму гісторыя Еўропы пабудавана на гвалце, гісторыя Расіі—на чалавечнасці.

Такім чынам, носьбітка ваенна-феадальнага імперыялізма, душыцельніца бязлікіх нацыянальнасцей, царская Расія — вялікая турма народаў — абвяшчалася Данілеўскім увасабленнем „прыроднай гуманнасці" славян, выключаючы ўласцівую рамана-германскаму свету гвалтоўнасць.

---

[1]) Н. Я. Данилевский, Россия и Европа, СПБ, 1899, стр. 130.
[2]) Там-жа, стр. 437.
[3]) Там-жа, стар. 526.

„Уздвігнутая ім (рускім народам—*С. В.*) дзяржаўная пабудова не аснавана на касцях папраных народнасцей. Ён або займаў пустыні, або злучаў з сабой шляхам гістарычнай, ніколькі не гвалтоўнай асіміляцыі такія плямёны, як чудзь, весь, мера, або як сёнешнія зыране, чарамісы, мардва, якія не заключалі ў сабе ні зачаткаў гістарычнага жыцця, ні імкненняў да яго, або, нарэшце, прымаў пад свой кроў і сваю абарону такія плямёны і народы, якія, будучы акружаны ворагамі, ужо страцілі сваю нацыянальную самастойнасць, або не маглі нават захаваць яе, як армяне, грузіны..." [1])

„Можна яшчэ ўказаць, — чытаем мы ў адным месцы „России и Европы",—на чуждыя ўсякай гвалтоўнасці адносіны як рускага народу, так і самога ўраду да падуладных Расіі народаў, чуждыя да такой ступені, што нярэдка зварачаюцца ў несправядлівасць да самога карэннага рускага народу. Той-жа характар мае і ўся знешняя палітыка Расіі, таксама нярэдка ва ўшчэрб Расіі..." [2])

Уроджаная гуманнасць, сапраўдная чалавечнасць, сардэчнасць і благародства ў абыходжанні з пераможанымі—гэтыя прыродныя расавыя ўласцівасці славян прадназначаюць іх стаць носьбітамі новай сусветнай цывілізацыі. Славянскай расе належыць на гэта натуральнае права, бо што-б ні сказала будучае, ужо па аднаму таму, што да гэтага часу праяўлена славянамі і пераважна рускай галіной іх у палітычнай дзейнасці, мы маем права залічыць плямёны гэтыя да ліку найбольш адароных палітычным сэнсам сямействаў чалавечага роду" [3]).

Аднак выкананне „гістарычнай місіі", прадназначанай славянам, натыкаецца на супраціўленне варожага славянству германа-раманскага свету. Браты—арыйцы глядзяць з агіднасцю на ўсё спрадвечна-славянскае і самабытна-рускае. Між славянствам і Еўропай маецца карэнная рознь, якая грунтуецца „ў гістарычных пачатках і ў гістарычных задачах плямён". Гэтай розні нельга затушаваць, бо яна толькі павядзе да страты расавай самабытнасці рускага народу. Адстаяць-жа апошнюю можна толькі ўступіўшы ў адкрытую барацьбу з Еўропай. Толькі ў працэсе гэтай барацьбы знойдуць сваё поўнае і ўсебаковае выяўленне „прыродныя задаткі" славянства. Гэта барацьба „нясе выратавальнае адчужэнне ад таго, што ідзе ад ворагаў" [4]). Толькі ў барацьбе з тымі, хто перашкаджае ім выканаць іх гістарычнае прадназначэнне, змогуць Расія і славянства

[1]) Н. Я. Данилевский, Россия и Европа, СПБ, 1899, стр. 22.
[2]) Там-жа, стар. 202.
[3]) Там-жа, стар. [illegible]30.
[4]) Там-жа, стар. 468.

дабіцца ажыццяўлення тых вялікіх магчымасцей, якія „даны ім іх этнаграфічнай асновай, тымі асаблівасцямі, якія адрозніваюць іх у ліку іншых сямействаў вялікага арыйскага племя...“ [1])

У шматлікіх пісаннях Данілеўскага маецца шырокая „расавая“ аргументацыя права пануючай нацыі на парабашчэнне нацый падначаленых. З выключным цынізмам агітуе гэты аружаносец рускага ваенна-феадальнага імперыялізма „інародчыя“ элементы царскай імперыі прасякнуцца сазнаннем таго, што ў сілу сваіх „прыродных задаткаў“, у сілу сваіх „расавых уласцівасцей“ яны прадназначаны быць паглынёнымі вялікадзяржаўнай нацыяй.

„Калі яны па знешніх або ўнутраных прычынах не ў стане выпрацаваць самабытнай цывілізацыі, г. зн. стаць на ступень развітага культурна-гістарычнага тыпу—жывога і дзейнага органа чалавецтва, то ім нічога другога не застаецца, як распусціцца, растварыцца і абярнуцца ў этнаграфічны матэрыял, у сродак для дасягнення пастаронніх мэт,—страціць свой фармацыйны або ўтваральны прынцып і жывіць сваей працай і потам, сваей плоццю і крывёю чужы, больш благародны прывівак, і чым хутчэй гэта будзе, тым лепш“ [2]).

Такі адзін бок, у які накіроўваецца расавая аргументацыя Данілеўскага. Той-жа аргументацыяй, як мы бачылі, ён шырока карыстаецца, аспрэчваючы ў арыйскіх субратоў права выступаць у ролі паглынальніка „племянных недаросткаў“, у ролі таго „благароднага прывіўка“, які абавязаны харчаваць сваей плоццю, крывёй ніжэйшыя расы.

У асобе Данілеўскага мы маем яркага прадстаўніка ваяўнічага нацыяналізма рускіх каланізатараў, які спрабуе скарыстаць расавыя довады не толькі для абгрунтавання права вялікадзяржаўнай нацыі гвалтоўна асіміляваць, прыгнятаць і грабіць шматлікія народы, пераможаныя рускім царызмам, але і для абгрунтавання прыцязанняў рускага імперыялізма на новыя каланіяльныя захваты і грабяжы.

У якасці другога яркага прадстаўніка вялікадзяржаўнага рускага расізма можна назваць вядомага псіхіятра праф. І. А. Сікорскага, які палажыў шмат намаганняў для таго, каб „расавымі“ аргументамі падтрымаць палітыку заалагічнага нацыяналізма і самага разнузданага шавінізма, якая праводзілася самадзяржаўем. Гэтай абароне прысвечаны рад яго спецыяльных дакладаў і артыкулаў: „Черты из психологии славян“ (1895), „Характеристика трех основных человеческих рас“ (1904), „О психологических основах национализма“ (1910), „Русские и украинцы“ (1913) і інш.

---

[1]) Н. Я. Данилевский, Россия и Европа, СПБ, 1899, стр. 514.
[2]) Там-жа, стар. 130.

Сікорскі нязменна выступаў гарачым прапаведнікам асноўнага расісцкага догмата — аб біялагічнай і псіхалагічнай няроўнацэннасці рас. Пры гэтым ён у духу артадаксальнага расізма даказваў, што гістарычныя лёсы народаў знаходзяцца ў непасрэднай залежнасці ад іх біялагічных уласцівасцей, бо „гістарычным падзеям прадшэствуюць, а потым ідуць побач з імі, падзеі біялагічныя“ [1]).

Па Сікорскаму прыродныя цялесныя розніцы людзей, іх антрапалагічныя якасці вызначаюць сабой таленавітасць рас, ад якой, у сваю чаргу, залежыць і месца, займаемае народам у гістарычным жыцці. Панаванне вялікіх народаў абумоўлена не якімі-небудзь гістарычнымі прычынамі, а з'яўляецца рэзультатам заложаных у іх біялагічных пачаткаў, якія і ствараюць уласцівы гэтым народам высокапробны духоўны капітал. Уласцівасці расы высока ўстойлівы, яны не падлягаюць гістарычным зменам і захоўваюцца на працягу доўгага ланцуга вякоў, пераходзячы ад пакалення да пакалення. Вось чаму „якім намалёван старажытні яўрэй або егіпцянін на сценах егіпецкіх грабніц, такім мы знаходзім і сучаснага яўрэя і фелаха“ [2]). Расы імкнуцца не толькі да самазахавання, але і да свабоды дзеянняў. Калі яны пры гэтым натыкаюцца на перашкоды, узнікаюць войны. Вайна вырашае пытанне аб праве на нраўственную перавагу і нацыянальнае панаванне. У яе працэсе адбываецца натуральны адбор. Так, напрыклад, было з гунамі і манголамі, якія марылі пакарыць свет. „Але яны аказаліся не тымі людзьмі, не той пародай, якая патрэбна ўтвараючай прыродзе. Цяпер гэтыя грозныя ваіцелі сталі вельмі скромнымі жыхарамі Сібіры падобна таму, як страшныя некалі манголы ператварыліся ў звычайных казанскіх татар, якія прадаюць казанскае мыла і скупаюць старыя рэчы“ [3]).

Лёс народаў залежыць ад яго расавых уласцівасцей. Гэтыя ўласцівасці розны ў трох асноўных рас, на якія распадаецца чалавецтва. Найменш адароная з рас—чорная. Будова цела яе прадстаўнікоў характарызуецца найбольшай колькасцю пунктаў сутыкання з класам малп. Умяшчальнасць чэрапа і вага мозга менш, чым у іншых рас і таму іх духоўныя здольнасці менш развіты.

Негры, па Сікорскаму, разумова адсталы, паколькі ў іх слаба развіта „арбітальная мышца“, якая складае галоўнае

---

[1]) И. Сикорский, О психологических основах национализма, Киев, 1910, стр. 9.

[2]) Проф. И. А. Сикорский, Характеристика трех основных человеческих рас—черной, желтой и белой в связи с вопросами русско-японской войны Киев, 1904, стр. 3.

[3]) Там-жа, стар. 5—8.

адрозненне чалавека ад жывёлы. У іх грубы, пазбаўлены ўласцівай беламу чалавеку экспрэсіі твар і т. д.[1])

Некалькі лепш абстаіць справа з жоўтай расай. Асноўны парок жоўтай расы заключаецца ў тым, што ў яе не выпрацавалася векавая прывычка да напружанай разумовай працы і да мысліцельнай настойлівасці.

Таму жоўтыя „не стварылі ні навук, ні мастацтваў, і, не гледзячы на іх дзесяцітысячагадовую гісторыю, розум у іх не дасягнуў той вастраты і сілы напружання, якая пераходзіць у ненасытную прагнасць ведання і ў глыбокую патрэбнасць інтэлектуальнага жыцця, як гэта мы бачым у белых" [2]).

Толькі белы чалавек з'яўляецца сапраўдным Homo sapiens, бо толькі ў белай расы сіметрычна развіты розум, воля і пачуццё. Таму адзіна яна з'явілася стваральніцай навук і мастацтваў, творцам сусветнай культуры.

Аднак белая раса ў сваіх расавых уласцівасцях далёка не адзіна. Яе розныя галіны ўладаюць рознымі ўласцівасцямі. Вось якімі з гэтых уласцівасцей Сікорскі надзяляе славян і сярод іх у першую чаргу рускіх: 1) сум, 2) цярплівасць і стаічаская пакорнасць лёсу, 3) ідэалізм і чалавекалюбства, 4) верацярпімасць і прымірэнчыя адносіны да інародчых элементаў [3]). 18 гадоў пазней, звярачаючыся да расавай характарыстыкі славянства, Сікорскі пакідае гэты пералік недатыкальным, дапаўняючы яго толькі адной новай рысай: „вера ў праўду сваіх расавых ідэалаў і надзей, тая сіла і ступень веры, пры якой раса ў барацьбе гатова афяроўваць паловай свайго насельніцтва, але адстаяць свае святыні" [4]).

Не цяжка заўважыць, што праф. Сікорскі,—адзін з самых бессаромных у радзе рускіх вучоных прыслужнікаў царскага рэжыму,—надзяляў рускі народ тымі „расавымі рысамі", у якіх была зацікаўлена кучка пануючых эксплуататараў. Спекулюючы на сваім вучоным аўтарытэце, гэты дыпламаваны лакей рускіх памешчыкаў адшукваў „расавую сутнасць" рускага народу ў яго мнімай рабскай пакорлівасці пануючым, у яго нібы-та сляпым падначаленні прыгнятальнікам, непраціўленні гвалтаўнікам, гатоўнасці несці афяры для эксплуататараў. Усё гэта ўзводзілася на п'едэстал і асвяшчалася „неліцапрыемнай" навукай пад імем „расавых якасцей", „нацыянальнага характару", „рускай душы" і інш.

---

[1]) Проф. И. А. Сикорский, Характеристика трех основных человеческих рас—черной, желтой и белой, в связи с вопросами русско-японской войны, Киев, 1904, стр. 5—8.

[2]) Там-жа, стар. 3.

[3]) Проф. И. А. Сикорский, Черты и психология славян, Киев, 1895, стр. 10—14.

[4]) Проф. И. А. Сикорский, Русские и украинцы, Киев, 1913.

З асаблівым цынізмам, які мы адзначалі таксама ў Данілеўскага,—дае Сікорскі характарыстыку расавых уласцівасцей рускіх, як яны праяўляюцца ў адносінах да інародцаў.

„Наўрад ці ў іншай краіне інародчы элемент сустракае такі брацкі прыём, як у славян і ў Расіі“ [1]). Вось якімі ідылістычнымі фарбамі малюе праф. Сікорскі крывавы шлях гандлёва-капіталістычных заваяванняў рускага царызма і яго асімілятарскіх подвігаў.

„Рэлігійная і расавая цярплівасць славян ясней за ўсё сказалася ў аб'ядноўваючым і асімілюючым уплыве славян на сумежныя малакультурныя народы. Якасць гэта дала рускаму племю значэнне аднаго з самых важных распаўсюджвальнікаў культуры ў паўночнай і сярэдняй Азіі. Такую-ж ролю рускае племя адыграла ў гістарычныя і дагістарычныя часы ў Паўночнай і Ўсходняй Еўропе. Роля гэта адзначалася безумоўна мірным характарам і прывяла да глыбокага поўнага зліяння суседственных інародцаў з рускімі... Гэты складаны працэс абрусення адбыўся зусім мірным шляхам, без афяр, без войнаў, без знішчэння аднаго племя другім“ [2]).

Не складае, вядома, цяжкасці зразумець, чаму Данілеўскія і Сікорскія такой нежнай пастэллю малявалі крывавае русіфікатарства самадзяржаўя. Іх асноўнай мэтай было,—карыстаючыся „расавымі“ і іншымі аргументамі, „навукова“ асвяціць вялікадзяржаўна-каланізатарскую і заваявальную палітыку пануючых класаў царскай імперыі.

Яркай ілюстрацыяй гэтага факту з'яўляецца выступленне Сікорскага, прысвечанае руска-японскай вайне. Ён даказваў у ім, што гэта не звычайная вайна, а расавая барацьба. Японцы спрабуюць перашкодзіць, маючай глыбокія біялагічныя абгрунтаванні, асімілятарскай ролі рускага народу. І таму рускі народ абавязан паўстаць „на абарону свайго гістарычнага прызвання—уліваць свае здаровыя сокі ў плоць і кроў, у нервы і душу мангольскіх плямён, для якіх ён з'яўляецца вышэйшай духоўнай і біялагічнай сілай“ [3]).

Адначасова ўкажам тут на адну рысу, складаючую спецыфічную асаблівасць вялікадзяржаўных расістаў тыпу Данілеўскага і Сікорскага ў адрозненне ад іх сапраўды-германскіх саратнікаў. У той час, як апошнія з скуры вон лезуць для таго, каб даказаць, што ўсякае парушэнне расавай чыстаты пануючай нацыі з'яўляецца крыніцай усякіх бедстваў, вялікадзяржаўныя рускія расісты ўсяляк даказ-

---

1) Проф. Сикорский, Черты из психологии славян, стр. 13.

2) Там-жа, стар. 12.

3) Проф. Сикорский, Характеристика трех основных человеческих рас, стр. 12.

валі высокую пладатворнасць змяшэння дзяржаўнай расы з падначаленымі. Гэта разыходжанне паміж аднамычленнікамі абумоўлена розніцай умоў, у якіх яны дзейнічалі. Базлеры, Гюнтэры і Леерсы дзейнічаюць ва ўмовах аднанацыянальнай Германіі—яны спекулююць на „расавай чыстаце“, дэмагагічна абвяшчаючы прычынай шматлікіх бедстваў, якія перажывае Германія, парушэнне гэтай чыстаты расава-другасортнымі, неарыйскімі элементамі. Сікорскія выконвалі іншы соцыяльны заказ—ім прадстаяла даказаць высокую расавую карыснасць „паглынання“ вялікадзяржаўнай нацыяй шматлікіх нацыянальных меншасцей, даказаць „расавую эфектыўнасць“ гвалтоўнай асіміляцыі, якая праводзілася царызмам. Апошнюю яны чулліва-пяшчотна называлі натуральным „упадабленнем“ „фізіка-псіхічным аб'яднаннем“, „этнічнай інтэграцыяй“, „духоўным зліяннем“ і інш. аж да абвяшчэння яе „творчым таінствам прыроды“. Сікорскі з захапленнем даказваў як „нраўственныя якасці фіна і славяніна, зліўшыся ў адным народным арганізме, узаемна дапоўнілі адзін другога, і атрымаўся цэльны нраўственны вобраз, больш удасканалены ў псіхічным сэнсе, чым састаўныя часткі, з якіх ён злажыўся“ [1]); ён захапляўся тым, як надзвычайна добра рускімі распахана біялагічная ніва сібірскіх „інародцаў“ [2]).

Ён даказваў у другім месцы, што „тут адбываецца творчаскае таінства прыроды ў сапраўдным сэнсе слова. Яно прадстаўляе вышэйшую павучальнасць там, дзе не было ніякага гвалту, прымусу, пакарэння, заваявання, дзе працэс адбыўся свабодна, па натуральнаму душэўнаму руху, інстынкту і патрэбнасці, як адбываецца, напрыклад, у апошнія сто гадоў аб'яднанне буратскага народу з рускім. Узнікаючае ад гэтага натуральнага саюза здаровае, энергічнае, адаронае насельніцтва, паказвае, што прырода не памылілася ў сваім натуральным падборы і ўзяла верную ноту жыцця“...[3])

Так уміліцельна паказваў Сікорскі працэс падначалення імперыялісцкай рускай буржуазіяй нацыянальных меншасцей, якія суправаджаўся жорсткімі гвалтамі, каланіяльным грабяжом і нацыянальным бяспраўем.

Адначасова гэты „вучоны расавед“ у супольнасці ізувераўпагромшчыкаў Шмакава, Пранайціса, Замыслоўскага стварыў сваю славутую экспертызу па справе Бейліса, увянчаўшую яго шматгадовыя „вышуканні“ ў галіне расавай праблемы. Даследваўшы труп забітага зладзейскай шайкай з прытона

[1]) Проф. Сикорский. Русские и украинцы, стр. 22.

[2]) Проф. Сикорский, Характеристика трех основных человеческих рас, стр. 12.

[3]) Проф. Сикорский, Русские и украинцы, стр. 16.

Веры Чэберак хлопчыка Юшчынскага, праф. Сікорскі ўстанавіў, што „псіхалагічнай асновай тыпу такога роду забойства з‘яўляецца расавая помства або вендзета сыноў Іакава да суб‘ектаў другой расы...“

Такой была вяршына, якой дасягнула „даследчая“ мысль рускіх чорнасоценных расістаў, выконваючы заданне царскага дэпартамента паліцыі.

Сярод вялікадзяржаўных расістаў царскай Расіі асобую ўвагу прыцягвае каларытная фігура этнографа—генерала В. А. Машкова. Выпушчаная Машковым у 1907 г. у Варшаве кніга „Новая теория происхождения человека и его вырождения“ прадстаўляе сабой у асноўным вульгарызаваны пераказ расісцкіх адкравенняў Вашэ-дэ-Ляпужа і Гобіно. Па сваей заалагічнай ненавісці да ўсяго інарасавага, па салдацка-прамалінейнаму давядзенню расісцкіх прынцыпаў да іх лагічнага канца, па сваей пагардзе не толькі да „ніжэйшых рас“, але і да „ніжэйшых класаў“ выбраных рас, гэта кніга дастойна была-б заняць пачэснае месца сярод найбольш мракабесных твораў вучоных расаведаў трэцяй імперыі...

У сваіх пабудовах Машкоў зыходзіць з фантастычнай гіпотэзы аб тым, што сучаснае чалавецтва прадстаўляе сабой рэзультат помесі белага дылювіяльнага чалавека з пітэкантропам. Розныя расы характарызуюцца ступенню наяўных ім уласціваснцей першага або другога. Чым раса вышэй, тым больш у ёй захавалася рысаў, унаследваных ад дылювіяльнага чалавека; чым яна ніжэй, тым у ёй больш элементаў, запазычаных ад пітэкантропа.

Ніжэйшыя дзікарскія і поўдзікарскія расы сучаснага чалавецтва даюць таму, як устанаўляе Машкоў, неабвяргальныя доказы. У іх доўгія параўнальна з тулавам рукі, што надае ім падабенства з малпамі. Галава іх надзвычайна вялікая параўнальна з тулавам, што робіць іх падобнымі да карлікаў. Яны раўнадушны да пакутных адчуванняў. Яны не ведаюць пачуцця любві, у іх слаба развіта полавае пачуццё. Яны не праяўляюць нежнасці да жанчыны, абмяжоўваючыся перыядычнымі спарваннямі з ёй. Ім незразумела пачуццё стыдлівасці. У ніжэйшых рас—прымітыўны, нібы-та дрэмлючы розум. У іх адсутнічае не толькі пачуццё зацікаўленасці, але нават дапытлівасць. Яны непрадугледжальны, труслівы і цалкам знаходзяцца ва ўладзе стаднага пачуцця.

„У чалавека ніжэйшай расы няма ні энергіі, ні ініцыятывы, ні прадпрыймальнасці, ні пачуцця, ні радасці, ні надзеі. Нічога духоўнага для іх не існуе. Усё пакрыта цемрай ночы, таму яны бясстрастна глядзяць на ўсе з‘явы жыцця і прыроды і праяўляюць нейкае жывёльнае раўнадушша да

ўсяго на свеце, за выключэннем ежы". Ніжэйшыя расы праяўляюць вялікае падабенства да траваядных жывёлін, і падобна ім яны прывязаны да свайго кутка зямлі.

Машкоў з асаблівай энергіяй адшуквае ў ніжэйшых расах тыя рысы, у якіх зацікаўлены каланіяльныя драпежнікі і рабаўласнікі. Аказваецца, што гэтыя расы „выяўляюць рабскае падабастрасце да тых, хто сурова абыходзіцца з імі і пагарджае тых, хто абыходзіцца з імі мякка. Яны пазбаўлены ўсякай незалежнасці і не толькі не ўнікаюць рабства, але шукаюць яго" [1]).

Калі адна частка чалавецтва па сваіх расавых уласцівасцях прадстаўляе сабой уроджаных рабоў, труслівых, пакорных і родственых траваядным жывёлінам, то зусім натуральна, што другая частка чалавецтва па сваіх расавых уласцівасцях прадстаўляе сабой уроджаных рабаўласнікаў—свабодалюбівых, разумова-актыўных, надзеленых ад прыроды імкненнем да ведаў і родственых драпежным відам жывёльнага царства.

Сучасную гісторыю чалавецтва можна па Машкову асмысліць толькі зразумеўшы тое месца, якое належыць у ёй двум асноўным антрапалагічным тыпам: доліхацэфалам—высакарослым бландзінам, і брахіцэфалам—нізкарослым брунетам.

„Доўгагаловыя бландзіны адароны моцнай воляй, здольнасцю ініцыятывы і багаццем выабражэння... Доўгагаловец ужо здалёку бачыць свае інтарэсы, роўна як інтарэсы сваей нацыі і расы, якую ён адважна рыхтуе к вышэйшым планам. Ён упэўнен, што рана ці позна будзе бясспрэчным уладаром зямлі, і яго бязмежная адвага, яго магутная сіла волі і сазнанне адзінства яго расы даюць яму велізарнейшыя правы на поспех.

Між тым, брунет кароткагаловец—чалавек пасіўны, асцярожны і практычны. У яго недахват здольнасці камбінавання ідэй і наогул элементаў розуму і крытыцызму. У яго няма ініцыятывы... Доўгагаловы—індывідуаліст у гісторыі, ён выдзяляе не масы, а адзіночак. Ён не сядзіць у вуглу, а ўсюды па ўсяму зямному шару шукае лепшых умоў быту. Прагрэс з'яўляецца для яго неабходнай патрэбнасцю. Што-ж датычыць кароткагалоўца, то ён выказвае стадныя інстынкты і ў гістарычнай барацьбе траціць сваю індывідуальнасць. Замест адзінкавых асоб у кароткагалоўца выступаюць масы. Кароткагаловец гатоў лепш падвесці ўсё пад адзін узровень, чым самому ўзняцца...

... Амаль усе вялікія людзі належалі да светлавалосай доўгагаловай расы..." [2])

---

[1]) В. А. Мошков, Новая теория происхождения человека и его вырождения, Варшава, 1907, стр. 118.
[2]) Там-жа, стар. 129—131.

Вось якое, можна сказаць, сапраўды гітлераўскае сэрца білася ў грудзях гэтага нікалаеўскага генерала! Якое чулліvae супадзенне са словаблуддзем расаведаў трэцяй імперыі, абвяшчаючых усю гісторыю чалавецтва барацьбой бландзінаў з брунетамі, доўгагаловых з кароткагаловымі! Іосіфу Гебельсу належала-б абавязкова паклапаціцца перакладам і распаўсюджаннем расісцкага катэхізіса ген. Машкова... Тым больш, што ў ім маюцца „каштоўныя“ мыслі ў доказ палажэння, якое ў апошні час паглынае многа энергіі тэарэтызуючых фашыстаў. Гэта—доказ расавай няпоўнацэннасці ніжэйшых класаў у параўнанні з вышэйшымі класамі, якія з'яўляюцца носьбітамі найбольш каштоўных расавых доблесцей.

Па Машкову першымі кіруючымі класамі былі белыя дылювіяльныя людзі неалітычнага века, а першымі рабамі—пітэкантропы, г. зн. бясслоўныя істоты, якія трымаліся людзьмі ў якасці хатняй жывёлы.

Гэта акалічнасць аказала рашаючы ўплыў і на ўвесь наступны саслоўны і класавы падзел грамадства. Таму паміж сучаснымі саслоўямі „існуе розніца не толькі соцыяльная, але і антрапалагічная, г. зн. розніца ў разумовых і фізічных адносінах, якой ніякімі законамі знішчыць нельга“[1]). Саслоўныя і класавыя розніцы таксама натуральны і таксама незнішчальны, як розніца паміж поламі. Падмацоўваецца гэта становішча цэлым радам „пераканаўчых“ доказаў накшталт таго, што размах рук у вышэйшых класаў ніжэй росту, а ў рабочых перавышае рост, або што полавая спеласць наступае раней усяго ў дваранак—ва ўзросце ад 9 да 12 год, потым у жанчын духавенства і купецкага саслоўя—ад 13 да 16 год і, нарэшце, пасля ўсяго ў сялянак—ад 17 да 22 год.

Нарэшце, у тым-жа пераконвае і падрабязнае даследванне „характару і розуму ніжэйшых класаў“, якое заключаецца ў „вучонай працы“ генерала Машкова. Машкоў устанаўлівае, напрыклад, што польскі селянін ад прыроды недаверлівы і падазроны.

„Нават у тым, што робіцца для яго карысці, селянін заўсёды ўгледжвае якія-небудзь мыслі і жаданні яго эксплуатаваць. Ён мала давярае панам і ксяндзам і ўпорна не расположан к інтэлігенту і к кожнаму апранутаму ў сурдут“...[2])

Яшчэ горш абстаіць справа з другой разнавіднасцю той-жа—„ніжэйшай расы“, з беларускім селянінам, лянота і бяс-

---

[1]) В. А. Мошков, Новая теория происхождения человека и его вырождения, Варшава, 1907, стр. 163.

[2]) Там-жа, стар. 172.

печнасць якога асабліва характэрны для дзікара. Беларускі селянін міралюбівы так, як гэта ўласціва толькі дзікару. Так, напрыклад, калі магілеўскаму селяніну раяць звярнуцца ў суд за атрыманнем належнага яму доўга, ён нязменна адказвае: „Няхай яму бог аддасць“. Нарэшце, „беларускаму селяніну прыродна яшчэ адна рыса, збліжаючая яго з кітайцамі, але паходзячая па сутнасці ад слаба развітай нервовай сістэмы—гэта поўнае раўнадушша да смерці“[1]).

Данілеўскі, Сікорскі, Машкоў—кожны маладзец на свой абразец—даюць прадстаўленне аб тым, як карыстаўся рускі вялікадзяржаўны нацыяналізм расавымі тэорыямі для апраўдання і ўмацавання ўлады пануючых класаў вялікарускай нацыянальнасці над дзесяткамі нацыянальнасцей, якія падвяргаліся нястрыманай эксплуатацыі рускага імперыялізма, як гэтыя тэорыі асвятлялі палітыку найцяжэйшага соцыяльнага і нацыянальнага гнёту, што ажыццяўляўся царызмам, як яны вялі ідэалагічную падрыхтоўку новых каланіяльных захватаў і імперыялісцкіх авантур царскага ўрада.

Можна было-б побач з названымі прадстаўнікамі вялікадзяржаўнага расізма прывесці яшчэ рад імён—Ламанскага, Будзіловіча, Каяловіча і інш., але нічога новага да сказанага гэта не дабавіла б[2]).

Мы абмяжоўваемся таму трыма ахарактарызаванымі вышэй, найбольш своеасаблівымі ідэолагамі вялікадзяржаўнага расізма—іх пісанні даюць дастатковае ўяўленне, якім быў той соцыяльны заказ, выкананню якога служылі ва ўмовах царскай Расіі расавыя тэорыі.

Рускія памешчыкі і капіталісты былі кроўна зацікаўлены ў тым, каб культываваць міф аб расавай няпоўнацэннасці эксплуатаваўшыхся імі мільённых мас і аб іх уласных расавых дасканаласцях, аб ідэальным расавым эфекце „ўпадаблення“ дзяржаўнай нацыянальнасцю нацыянальных меншасцей.

Вось чаму расісцкія ідэйкі не толькі „тэарэтычна“ распрацоўваліся значным кадрам „вучоных“ гісторыкаў, археолагаў, этнографаў, але і прапагандаваліся ў школе, на старонках газет і журналаў, насаджаліся з універсітэцкіх кафедр і з трыбун Дзяржаўнай Думы, папулярызаваліся ў сотнях

[1]) В. А. Мошков, Новая теория происхождения человека и его вырождения, 1907, стар. 174.

[2]) Гл. В. И. Ламанский, Три мира азийско-европейского материка, ПТБ, 1916; проф. А. С. Будилович, Может ли Россия отдать инородцам свои окраины, СПБ, 1907; проф. Коялович, Историческая живучесть русского народа и ее культурные особенности, СПБ. 1883; А. И. Сидоров, Инородческий вопрос и идея федерализма в России, М., 1912, і інш.

выданняў — антрапалагічных, геаграфічных, краезнаўчых, этнаграфічных, у школьных падручніках[1]), атручваючы свядомасць мільёнаў нізкапробным шавіністычным ядам.

---

[1]) У гэтай сувязі будзе не лішнім прывесці некалькі такіх хадавых характарыстык, запазычаных з папулярных дарэволюцыйных выданняў. Вось узоры апісаных у гэтых выданнях „уроджаных уласцівасцей“ розных нацыянальнасцей, насяляўшых Расію.

„Маларос нерухавы, павольны, глядзіць крыху з-пад ілба... Маларос скрыты, недаверлівы, чэсны; велікарус адкравенны і даверлівы“ (Отечествоведение, Д. Семенова; Характер малороссов в сравнении с великоруссамі, стр. 19-20).

...„Мутныя вочы яго не гараць жыццёвым агнём, не служаць адзнакай смышлёнасці, не абяцаюць розуму. Маленькі чалавек гэты к таму-ж сутулават, ідзе згорблены, вялы і непаваротлівы ў рухах. Нясмеласць у поглядзе—адна з характэрных рыс яго бледнага твара, сяк-так адцененага такою рэдзенькай бародкай, што ён нават ахотней стараецца яе брыць і трымаць потым шчацінай. Гэты неахайны, загнаны і забіты маленькі чалавек сапраўдны беларус: белы колер пераважае на ім“ (С. Максимов, Белоруссы, стр. 42).

„Гэта рухавае племя вечна ў руху, вечна клапоча, поўжыцця праводзіць на вуліцы. Мізэрны, худы яўрэй то і справа, што бегае то ў той, то ў іншы бок з выглядам занятага чалавека... Любімы занятак яўрэяў—гандаль“ (Д. Семенов, Отечествоведение, стр. 564).

„Кіргіз бяспечны, лянівы, неадукаваны і з цяжкасцю бярэцца за новую справу“ (Э. Вульфсон, Киргизы, стр. 558).

„Розум у чэчэнца бойкі, але нізменны і лёгкі. Мысль яго пастаянна круціцца каля простых штодзённых прадметаў, але і гэтыя прадметы ён ахоплівае павярхоўна, не ўваходзячы ў глыбіню іх... Розуму чэчэнца амаль недаступны ўяўленні аб прадметах і ідэях узвышаных, аднасімых да так званага духоўнага свету. Памятаючы толькі аб сабе і сваіх інтарэсах, уключаючы і інтарэсы сям'і, ён да ўсяго пастаронняга адчувае інстынктыўную нядображаданасць, якая лёгка пераходзіць у гатоўнасць прычыніць крыўду і шкоду“ (Н. Семенов, Чеченцы, стр. 441-443).

„Грузіны наогул неахайны: бялізну носяць, пакуль яна не распадзецца на кавалкі, а іх верхняя вопратка, архалукі ды чохі заўсёды ласнящца“... (В. Желиховская, Грузины, стр. 477).

„Мінгрэлы недаверлівы да ісціны і праўдападоб'я, хітрыя без тонкасці і лгуны без патрэбы, не затрудняюцца абяцаць тое, чаго на справе выканаць не хочуць і не могуць, аб вернасці і аб захаванні данага слова паняцця не маюць; не саромяюцца здрады; усякі жыве для сябе, няма ні сваяцтва, ні дружбы; ад частых зносін з татарамі сэрца іх зрабілася скопішчам усіх гнусных парокаў і незразумелых, па вобразу нашых мыслей, супярэчнасцей“ (Н. Надеждин, Природа и люди на Кавказе, стр. 484-485).

„Такімі „аб'ектыўнымі“, „строга навуковымі“ характарыстыкамі "ўроджаных“ „расавых“ уласцівасцей нацыянальнасцей царскай Расіі запаўняліся шматлікія выданні.

Пры гэтым усім „дэфектыўным“, „ушыбленым“, „лянівым“, „парочным“ „злачынным“ і іншым „расава-малацэнным“ элементам шматлікіх нацыянальных меншасцей нязменна супроцьставіўся велічавы вобраз вялікадзяржаўнай нацыянальнасці.

„На поўзгнілым судне з парваным парусам пераплывае ён бурныя воды Ледавітага акіяна і б'е звера ў Новай зямлі; з цяжкай кіркай здабывае метал у нетрах рускіх гор; з простай сякерай валіць гіганцкія мачты сярод паўночных лясоў; з самадзельнаю вінтоўкай б'е звера і птушку па трушчобах палярных краін; стойма стаіць дні і годы за фабрычным варштатам і выводзіць прычудлівыя арабескі на франтоны дома сталічнага багача. З малітвай пачынае ён сваю работу, з песняй вядзе ён яе і з малітвай канчае. Такі вялікарус, гэты будаўнік рускай зямлі“... (В. Воронецкий, Великоруссы, стр. 13).

## РАСАВЫЯ ТЭОРЫІ НА СЛУЖБЕ ВЯЛІКАДЗЯРЖАЎНАГА ШАВІНІЗМА ПАСЛЯ КАСТРЫЧНІКА

Кастрычніцкая рэвалюцыя знішчыла нацыянальна-каланіяльны гнёт, які ажыццяўлялі пануючыя класы былой вялікадзяржаўнай нацыі над сотнямі нацыянальнасцей, уваходзіўшых у склад Расійскай імперыі. Гэты сусветна-гістарычнага значэння акт знішчэння нацыянальнага гнёту ў краіне нястрымнага панавання рускіх памешчыкаў і капіталістаў быў ажыццёўлен пад сцягам пралетарскага інтэрнацыяналізма, пры дружным саюзе працоўных шматлікіх нацыянальнасцей. Кастрычніцкая рэвалюцыя нанесла смяротны ўдар вялікадзяржаўнаму шавінізму ідэалогіі ваяўнічага нацыяналізма, якую культывавалі і прапагандавалі ў сваіх класавых інтарэсах вялікаруская буржуазія і яе „вучоныя“ прыхвасні. Разам з тым былі сакрушаны тыя расавыя тэорыі, якія, як мы бачылі, шырока скарыстоўваліся вялікадзяржаўнымі шавіністамі да Кастрычніка.

„Раней „прынята было“ думаць, што свет падзелен спрадвеку на ніжэйшыя і вышэйшыя расы, на чорных і белых, з якіх першыя няздольны да цывілізацыі і асуджаны быць аб'ектам эксплуатацыі, а другія з'яўляюцца адзінымі носьбітамі цывілізацыі, прызванымі эксплуатаваць першых. Цяпер гэту легенду трэба лічыць разбітай і адкінутай. Адным з важнейшых рэзультатаў Кастрычніцкай рэвалюцыі з'яўляецца той факт, што яна нанесла гэтай легендзе смяротны ўдар, паказаўшы на справе, што вызваленыя нееўрапейскія народы, уцягнутыя ў русла савецкага развіцця, здольны рушыць наперад сапраўды перадавую культуру і сапраўды перадавую цывілізацыю, нічуць не менш, чым народы еўрапейскія“ [1]).

Гэта, зразумела, не азначае, што з перамогай, якую пралетарыят пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі атрымаў у Кастрычніку 1917 года над сваімі класавымі ворагамі, вялікадзяржаўны шавінізм перастаў існаваць. Наадварот, ён быў на працягу ўсей грамадзянскай вайны ідэалагічным сцягам рускіх памешчыкаў і капіталістаў, прабаваўшых з дапамогай міжнароднай контррэвалюцыі, пад лозунгам

---

[1]) И. Сталин, Марксизм и национально-колониальный вопрос, Сборник статей и речей, Партиздат., М., 1934, стр. 189-190.

„адзінай і недзялімай“, аднавіць свае зруйнаваныя ў Кастрычніку класавыя пазіцыі. З разгромам контррэволюцыі і пераходам да аднаўленчага перыяду вялікадзяржаўны шавінізм пачынае ўзмоцнена ўзрошчвацца тымі „зменавехаўскімі“ элементамі, якія марылі, што НЭП прывядзе да спаўзання совецкай улады на шлях капіталістычнай рэстаўрацыі і дасць магчымасць панаваўшым класам вялікарускай нацыянальнасці аднавіць страчаныя імі ў Кастрычніку эксплуататарскія прывілеі. Вялікадзяржаўны шавінізм выяўляе на розных этапах рэволюцыі велізарную жывучасць і прыстасоўнасць. Тав. Сталін нястомна сігналізаваў партыі і краіне аб гэтай жывучасці вялікадзяржаўна-шавіністычнай ідэалогіі, аб яе пранікненні ў совецкія ўстановы, аб яе праяўленнях у розных частках пролетарскай дзяржавы, аб яе націску на некаторыя партыйныя праслойкі, аб тоячайся ў ёй пагрозе стварыць шчыліну ў сістэме пролетарскай дыктатуры.

Няма нічога дзіўнага, што вялікадзяржаўна-шавіністычныя элементы робяць спробы выкарыстаць у мэтах умацавання і насаджэння сваей ідэалогіі старую зброю расавых тэорый, якая несла такую вялікую службу вялікадзяржаўнаму шавінізму ў дарэволюцыйныя гады. Гэтым спробам вельмі спрыяе і тая акалічнасць, што расавыя тэорыі атрымліваюць небывала шырокае распаўсюджванне ў суседніх капіталістычных краінах, дзе яны ствараюць ядро фашысцкай ідэалогіі.

Само сабой, што вялікадзяржаўныя расісты ва ўмовах пролетарскай дыктатуры і нястомнай барацьбы партыі за паслядоўны інтэрнацыяналізм не гавораць адкравеннай мовай Сікорскіх, Машковых і іншых ідэалагічных зброеносцаў рускага чорнасоценнага нацыяналізма. На іх выступленнях ляжыць адбітак прыстасавання да знешніх умоў, іх вялікадзяржаўныя ўстаноўкі часта выкладаюцца эзопаўскай мовай, іх расісцкія аргументы часам даволі тонка завуаляваны. І ўсё-ж іх расісцкая сутнасць відавочна.

Найбольшую актыўнасць вялікадзяржаўныя расісты праявілі ў гады аднаўленчага перыяду, сканцэнтраваўшы свае намаганні пераважна на ўчастках этнаграфіі, антрапалогіі, еўгенікі.

На першым з іх я спыняцца не буду—агульная характарыстыка вялікадзяржаўнага шавінізма ў рускай этнаграфіі дана ў артыкуле тав. М. Г. Худзякова, змешчаным у зборніку ГАІМК—„Этнаграфія на службе ў класавага ворага“ [1]). Цікавячыйся чытач убачыць у ім, як моцна праявілі сябе расісцкія тэндэнцыі ў працах такіх рускіх этнографаў, як

[1]) Этнография на службе у классового врага, Сборник критических статей, Соцэкгиз—ГАИМК, Лнг, 1932.

Рудзенко,—аўтар вядомай манаграфіі аб башкірах, Залатароў, напісаўшы даследванне аб карэлах, і інш.

Я затрымаюся на іншых участках, даючых, мне думаецца, найбольш паказальны ў гэтых адносінах матэрыял.

Як вядома, фашысцкія тэарэтыкі лічаць сваей цэнтральнай задачай—проціпаставіць матэрыялістычнаму разуменню гісторыі, марксісцкай тэорыі класаў і класавай барацьбы ідэю нязменнага, устойлівага, раз на заўсёды данага, спадчынна-прадвызначанага біятыпу.

Насаджаемае па заказу Гітлера ўсякімі Леманамі, Бургдэрферамі і Штэмлерамі „біялагічнае светасузіранне" адмаўляе спецыфіку социяльнай законамернасці, імкнучыся даказаць, што расліны, жывёла і чалавечае грамадства падначалены адным і тым-жа біялагічным законам.

„Паводле перакананння сучаснага біёлага, развядзенне новай пароды або парод чалавека падначальваецца тым-жа законам спадчыннасці, як і ў другіх жывёлін... Адзіным метадам гэтага развядзення можа служыць толькі падбор вытворнікаў, а зусім не выхаванне людзей у тых або іншых умовах, або тыя ці іншыя социяльныя рэформы ці пераВароты"...[1])

Хто аўтар гэтай рэакцыйнай біялагізатарскай вульгаршчыны? Леман? Бергман? Прац'е? Або хто-небудзь другі з уніфікаваных гелертэраў гітлераўскай імперыі?

Увы! Гэта прапаведвалася ў нас, у краіне пролетарскай дыктатуры, на пятым годзе яе існавання ў праграмным артыкуле „Русского Евгенического Журнала".

„Карэктна" палемізуючы з тымі „наіўнымі фантазіямі", якія мяркуюць, што пролетарская рэволюцыя можа стварыць новыя ўмовы чалавечага развіцця, што ў социялістычным грамадстве сучаснага, ізуродаванага эксплуатацыяй, сапсаванага ўласніцкім свінствам „частковага індывідуума" зменіць свабодны гарманічна-развіты чалавек, „Русский Евгенический журнал", гэта побач з „Русским Антропологическим журналом" тэарэтычная штаб-кватэра вялікадзяржаўных расістаў, заяўляў:

„І да гэтага часу яшчэ многія социёлагі наіўна—з пункту гледжання біёлага—мяркуюць, што ўсякае паляпшэнне ў дабрабыце тых або іншых груп насельніцтва, усякае павышэнне культурнага ўзроўню іх павінна немінуча адбіцца адпаведным паляпшэннем у іх патомстве і што іменна гэта ўздзейнасць на асяроддзе і павышэнне культуры і з'яўляецца лепшым спосабам для аблагароджвання чалавечага роду. Сучасная біялогія гэты шлях адвяргае.

[1]) Н. К. Кольцов, Улучшение человеческой породы, „Русский Евгенический Журнал", т. I, вып. I, 1922, стр. 10.

Каб прадставіць сабе больш ясна способы магчымага паляпшэння чалавечай расы, разгледзім падрабязней, як паляпшаюць сучасныя біёлагі расы культурных раслін і хатніх жывёлін“...[1])

Мы высмейваем тых гітлераўскіх спадручных з вучонага цэха, якія расшыбаюць сабе ілбы, выконваючы патрабаванне „правадыра“ — „бачыць мэту не ў паляпшэнні способаў развядзення сабак, коней і катоў, а ў паляпшэнні пароды чалавека самога“. Мы ведаем і класавы сэнс прапагандуемага Леманамі і Бергманамі „чалавекаводства“ шляхам пераходу да планавага дзетанараджэння, якое базуецца на тых-жа прынцыпах, якія прымяняюцца пры развядзенні цюльпанных лукавіц або каракулевых барашкаў. Аднак, аказваецца, што нашы „айчынныя“ еўгеністы маюць усе падставы аспрэчваць „чалавекаводчыя“ лаўры фашыствуючых расістаў.

„Навука аб паляпшэнні парод жывёлы называецца зоатэхніяй,—пісаў праф. Н. К. Кальцоў,—навука аб паляпшэнні чалавечай пароды, звычайна называемая еўгенікай, можа быць названа таксама антропатэхніяй, бо яна з‘яўляецца не больш, як аддзелам зоатэхніі. Толькі з прычыны розных пабочных затрудненняў і ускладненняў метады еўгенікі некалькі адрозніваюцца ад метадаў зоатэхніі, але мы можам прадставіць сабе такія ўмовы, пры якіх чалавечая прырода магла-б быць палепшана тымі-ж способамі, якімі сучасны зоатэхнік паляпшае пароды хатняй жывёлы...“ [2])

„Русский Евгенический Журнал“ з неаслабнай энергіяй прапагандаваў, што адзіны шлях змянення аблагароджвання чалавецтва—не ў рэволюцыйнай перабудове грамадства, а ў адпаведнай арганізацыі падбору вытворнікаў. Гэты журнал узбагаціў навуку адкрыццем, што „шчаслівы тэмперамент“ з‘яўляецца прычынай адсталасці некаторых рас, „якія стаяць на нізкай стадыі культуры, і іменна дзякуючы тэмпераменту не могуць падняцца да больш высокай стадыі таму, што яны занадта задаволены сваім лёсам“ [3]).

Са старонак гэтага журнала гадамі разлівалася па краіне прапаганда соцыяльнага дарвінізма, якая па вострасці сваіх фармулёвак і ўбогасці сваіх палажэнняў не ва многім уступае аналагічнай прапагандзе фашыствуючых біёлагаў, медыкаў, філосафаў.

Класавы сэнс фашысцкай спекуляцыі на соцыяльным дарвінізме агульнавядомы—з яе дапамогай фашысты пра-

---

[1]) Н. К. Кольцов, Улучшение человеческой породы, „Русский Евгенический Журнал“, т. I, вып. I, 1922, стр. 5.

[2]) Там-жа, стар. 8.

[3]) Там-жа, стар. 15.

буюць даказаць, што існуюць расы поўнацэнных арыстакратаў і расы „недачалавекаў“, што пануюць у грамадстве тыя, каму гэта прадназначана іх „вышэйшымі ўласцівасцямі“ і законам социяльнага адбору, а другія гінуць і выміраюць у адпаведнасці са сваімі „прыроднымі ўласцівасцямі“. Агульнавядома і тая бязмежная дэмагогія, якую разводзяць фашысты, даказваючы, што сучасны крызіс з'яўляецца рэзультатам злачыннай процідзейнасці социяльнаму адбору, клопаты грамадства аб калеках, інвалідах, прэстарэлых і іншых „няпоўнацэнных“ элементах. Адсюль-жа выцякае апалогія вайне, як найвялікшаму фактару „расавай гігіены“, як працэсу „самаачышчэння роду чалавечага“ і інш. і інш.

Хіба не сугучны гэтай дэмагогіі тыя ідэі, якія распрацоўваліся „Русским Евгеническим Журналом“?

„Дзякуючы ўздыму культуры і распаўсюджанню ідэі роўнасці, барацьба за існаванне ў чалавечым грамадстве страціла сваю астрату, і дабрачынны прыродны падбор амаль спыніўся. Культурная дзяржава павінна ўзяць на сябе важную ролю прыроднага падбору і паставіць моцных і асабліва каштоўных людзей у найбольш спрыяючыя ўмовы. Неразумная дабрачыннасць прыходзіць на дапамогу слабым“ [1]).

Або другі ўзорчык таго-ж роду:

„Было-б аднабаковым лічыць вайну выключна какогенічным фактарам толькі таму, што яна знішчае людзей і іх культурныя запасы. Усякая барацьба ў арганічным свеце знішчае масамі жывыя істоты, але ў гэтай барацьбе і ў суправаджаючым яе прыродным падборы ляжыць, як паказаў Дарвін, аснова эвалюцыі... Калі-б было даказана, што ва ўсякай вайне перамагае заўсёды больш моцная, больш жыццездольная, больш каштоўная еўгенічная раса, то, з пункту гледжання еўгенікі, можна было-б і не пратэставаць супроць вайны, тым больш, што і самыя рашучыя праціўнікі вайны не адмаўляюць таго, што вайна мае і свае станоўчыя бакі...“ [2])

Дагаварваліся нашы еўгеністы і да такіх рэчаў, якія зрабілі-б гонар любому фашыстуючаму расісту:

„Высокая дзіцячая смяротнасць, такая характэрная для рускай малакультурнасці, з'яўляецца прадметам зайздрасці для многіх замежных еўгеністаў, бо яна падтрымлівае вядомы ўзровень уроджаных фізічных уласцівасцей“ [3]).

З прыведзенага ўжо відаць, з якой энергіяй насаджалі некаторыя рускія вучоныя ў гады аднаўленчага перыяду

---

[1]) Н. К. Кольцов, Улучшение человеческой породы, „Русский Евгенический Журнал“, т. I, вып. I, 1922, стр. 20.

[2]) Там-жа, стар. 22.

[3]) Н. К. Кольцов, Влияние культуры на отбор в человечестве, „Русский Евгенический Журнал, 1924, т. II, вып. I, стр. 8,

„біялагічнае светасузіранне", усім сваім астрыём накіраванае супроць светасузірання пралетарыята—дыялектычнага матэрыялізма, як яны пад прыкрыццём псеўда-навуковай фразеалогіі развівалі антынавуковыя, вульгарныя погляды на грамадскае жыццё.

У пачатку аднаўленчага перыяду, калі совецкая краіна, закончыўшы грамадзянскую вайну, пераходзіла да аднаўлення народнай гаспадаркі, вучоныя еўгеністы абвяшчалі „чарговай задачай нашага часу"—„устанавіць рознасць тыпу людзей па ўтрыманню мінеральных састаўных частак у крыві і на радзе сем'яў прасачыць як перадаюцца гэтыя асаблівасці ад бацькоў да дзяцей" [1]).

У гэтых словах быў не толькі лозунг, у іх заключалася праграма дзеянняў пэўнай праслойкі вучоных, якая з надзвычайнай актыўнасцю, затрачваючы велізарныя дзяржаўныя сродкі, „даследвала" грамадскія з'явы, класавая прырода якіх вычарпальна ўскрыта марксізмам-ленінізмам, самымі вульгарнымі спрашчэнскімі прыёмамі звядзення іх да частак крыві, да рэакцый серума, да расавай паталогіі... Класавы сэнс усіх антынавуковых маніпуляцый, як-бы старанна яны не маскіраваліся пад „дакладнае навуковае даследванне", заключаўся ў спробах абвергнуць марксісцкі погляд на гісторыю, як на барацьбу класаў і вытлумачыць яе як барацьбу рас, як рэзультат расавых узаемапрыцяжэнняў і адштурхоўванняў...

Каб не быць галаслоўным, прывяду адзін, але, мне здаецца, дастаткова пераканаўчы факт.

У якасці адной з сваіх асноўных задач маскоўскае таварыства па вывучэнню расавай паталогіі паставіла высвятленне пытання аб прычынах выраджэння „некультурных народаў" у рэзультаце іх судатыкання з еўрапейскай культурай. Група совецкіх вучоных лічыла неабходным вырашыць „дыскусійную" праблему, якую яна так фармулявала: „У вышэйшай ступені важна вырашыць пытанне, чаму адбываецца такое выміранне: ці ад таго, што расавыя асаблівасці гэтых плямён робяць іх няздольнымі да ўспрыняцця культуры, або ад таго, што гэта так званая еўрапейская культура занадта груба, занадта „некультурна" падыйшла да чуждых ёй плямён".

Не падумайце, што совецкія вучоныя з таварыства расавай паталогіі—адказу на цікавячае іх пытанне сталі шукаць у класічных работах Леніна аб імперыялізме, у пастановах Комінтэрна па нацыянальна-каланіяльнаму пытанню, у шматлікіх навуковых матэрыялах, якія даюць

---

[1]) Н. К. Кольцов, Улучшение человеческой породы, „Русский Евгенический Журнал, т. I, вып. I, 1922, стр. 12.

сапраўдную карціну і ўскрываюць прычыны вымірання каланіяльных народаў пад жорсткім ярмом каланізатарскай эксплуатацыі. Іх адказ гласіць катэгарычна і нядвухсэнсоўна: „І гэта пытанне перш за ўсё можа быць вырашана шляхам вывучэння расавых асаблівасцей паталогіі розных народаў“ [1]).

Больш канкрэтна гаворачы, нашы вучоныя лічаць неабходным: 1) падвергнуць аналізу з пункту гледжання расавай паталогіі апендыцыт; 2) вывучыць распаўсюджанне ў нацыянальных папуляцыях злаякасных пухлін, таксама маючых расавы характар; 3) разгарнуць ва ўсей шырыні праблему расавага артэрыясклероза; 4) даследваць з пункту гледжання расавых асаблівасцей інфекцыйныя хваробы, аддаўшы асобую ўвагу хваробам дзіцячым, а таксама асаблівасцям імунітэта кожнай нацыянальнасці; 5) устанавіць расавыя моманты псіхічных захворванняў і т. д. і т. д. [2])

Не падлягае сумненню, што калі-б членам таварыства па вывучэнню расавай паталогіі ўдалося давесці да канца намечаную імі праграму расавага даследвання апендыксаў і сарком, свет атрымаў-бы, нарэшце, „аўтарытэтны адказ навукі“ па пытанню аб тым, чаму выміраюць чорныя і жоўтыя ў галандскай Індзіі, на Яве, у Конго, на Тасманіі і ў сотнях другіх месц, дзе спраўляе оргіі разбойніцкая палітыка „цывілізаваных“ эксплуататараў... Расавая паталогія, якой буржуазная медыцына ў апошні час аддае асобую ўвагу, выкарыстоўвае ў класавых мэтах фінансавага капітала многія захворванні, абумоўленыя социяльна-бытавымі прычынамі для таго, каб абвясціць іх прадуктам расавых асаблівасцей пэўных груп насельніцтва. Пры гэтым гг. расавыя патолагі самым бесцарамонным чынам змешваюць індывідуальныя рознасці і канстытуцыянальныя варыяцыі з момантамі расавага парадку. Яны дэмагагічна выкарыстоўваюць індывідуальныя і канстытуцыянальныя рознасці для таго, каб даказаць наяўнасць спецыфічнай паталогіі, уласцівай данай расе і ігнаруюць тыя социяльныя ўмовы, якія парадзілі гэтыя рознасці. Яны шчодрай рукой надзяляюць народы „расава-паталагічнымі“ ўласцівасцямі на падставе таго, што пэўнае захворванне часта паражае даную групу насельніцтва, але ўтойваючы і затушоўваючы той факт, што грамадска-эканамічныя ўмовы, у якіх жыве гэта група, з'яўляюцца рашаючым фактарам распаўсюджання ў яе асяроддзі пэўнай паталагічнай з'явы, таго або іншага захворвання (туберкулёз, малярыя, сіфіліс, неўрастэнія і т. д.).

Трэба асабліва падкрэсліць той факт, што нашы вучоныя расаведы, нязменна апранаўшыяся ў тогу аб'ектыўна-

[1]) Н. К. Кольцов, Задачи и методы изучения расовой патологии, „Русский Евгенический Журнал“, 1929, т. II, вып. 2-3.
[2]) Там-жа.

бясстрасных навуковых даследчыкаў, самым бесцарамонным чынам парушалі элементарныя патрабаванні сапраўды навуковага даследвання. Яны скрозь і ўсюды на аснове некаторай колькасці эмпірычных нагляданняў устанаўлялі шырокае тэарэтычнае абагуленне, прызванае апраўдаць іх расісцкія канцэпцыі.

У якасці прыкладу тут можна было-б назваць артыкул праф. В. Г. Штэфко „Биологические реакции и их значение в систематике обезьян и человека“, апублікаваны ў „Русском Антропологическом Журнале“. Ў аснову сваіх разважанняў праф. Штэфко кладзе доследы Брука, пры якіх праводзілася імунізацыя труса крывёй прадстаўнікоў розных рас. Увесь дослед ахваціў літаральна мізэрную для навуковага даследвання колькасць аб‘ектаў: 7 галандцаў, 5 кітайцаў, 6 малайцаў, 7 яванцаў, 1 заходні яванец, 1 араб, а ўсяго 27 чалавек.

І вось сур‘ёзны вучоны, якім з‘яўляецца аўтар гэтага артыкула, лічыць для сябе магчымым на аснове падобнага доследу пастуліраваць наступнае палажэнне:

„Бялковыя целы крыві галандцаў розняцца ад тых-жа кітайцаў і малайцаў не толькі ў тым напрамку, што бялок (гаворачы наогул) галандца ахватвае ўсе разам узятыя бялковыя групы малайцаў і кітайцаў апрача толькі пэўных ім уласцівых груп бялка, або гаворачы дакладней, спалучэнняў бялковых пратаплазм малекулы“ [1]).

Але праф. Штэфко недастаткова гэтага. Ён ідзе ў сваіх заключэннях і далей, і, пагарджаючы элементарнай навуковай добрасумленнасцю, на аснове даследвання 7 галандцаў і 5 кітайцаў, устанаўляе біялагічную мяжу, аддзяляючую „вышэйшыя расы“ ад „ніжэйшых“. „Некаторыя падроды (чалавек) маюць апрача дамінантнага рэцэптара пэўныя частковыя рэцэптары, злучаныя такім чынам, што вышэйшая раса злучае ў сабе вялікую колькасць частковых рэцэптараў..., ідучых ад ніжэйшых рас, г. зн. іншымі словамі, яна ўладае ўсімі разам узятымі частковымі рэцэптарамі“ [2]).

З усяго гэтага следуе ўрачысты вывад:

„Гэтыя меркаванні, выказаныя на аснове эксперыментальных даных, прыводзяць нас да надзвычай важнага і ў вышэйшай ступені цікавага заключэння. Культурныя расы чалавецтва, як, напрыклад, еўрапейцы, маюць больш складаную будову бялковай малекулы, чым ніжэйшыя расы.

---

[1]) Штефко, В. Г., Биологические реакции и их значение в систематике обезьян и человека, стр. 89-90, „Русский Антропологический Журнал“, 1922, т. XII, кн. 1-2.

[2]) Рэцэптарамі называюцца бакавыя групы ў бялковай малекуле, пры дапамозе якіх клеткай затрымліваюцца і ўсвайваюцца толькі тыя матэрыі, якія даюць хімічныя сродкі да данай групы.

Такім чынам з біялагічнага, або, правільней, біяхімічнага пункту гледжання, яны з'яўляюцца больш складана арганізаванымі, чым другія", што і патрабавалася даказаць да вяшчай славы расавага шавінізма, апалагетам якога выступае праф. Штэфко. Усё гэта, зразумела, не навука, а чорная магія расізма. Адсюль-жа рукой падаць да праславутай „тэорыі" італьянскага расавіка-фашыста Пігіні, згодна якой гісторыя народаў — рэзультат іх расавых рознасцей, якія тлумачацца эндакрыннымі асаблівасцямі рас. Так, гатэнтоты характарызуюцца адзіпоза-генітальнай дыстрафіяй, егіпцяне еўнухаідызмам, манголы—гіпатырэадызмам. Найбольш высокая еўрапейская раса з'яўляецца найбольш гарманічнай у эндакрынных адносінах і т. д.

Нямногім больш пераканальны вывады, якія зрабіў з праведзенага ім абследвання групы беларусоў і яўрэяў, праф. В. В. Бунак. Праўда, мы тут маем справу ўжо не з 7 галандцамі, 5 кітайцамі і 1 арабам, а з цэлымі 108 яўрэямі і 158 беларусамі з Магілеўскага скуранога завода, Шклоўскай папяровай фабрыкі і Шклоўскай пажарнай каманды. Але ўсё-ж мы лічым далёкім ад навуковай пераканальнасці вывад, зроблены праф. Бунаком:

„Прыведзеныя вышэй даныя, устанаўляючыя вялікае падабенства знешніх умоў жыцця вывучаных намі яўрэяў і беларусоў, прымушаюць нас схіліцца да думкі, што адзначанае адносна слабае развіццё прадстаўляе сабой асаблівасць, характэрную для яўрэяў, як гэтакіх" [1]).

Мы-ж схіляемся да думкі, што гэта палажэнне ў асноўным з'яўляецца рэзультатам расісцкай тэндэнцыі, якая ярка праяўляецца і ў другіх артыкулах таго-ж аўтара аб канстытуцыйных тыпах чалавецтва, аб акліматызацыі чалавечых рас, як і ва ўсім змесце кіраваўшагася ім „Русского Антропологического Журнала".

Са старонак гэтага журнала доўгімі гадамі вялася адкрытая пераклічка з расісцкімі ідэолагамі Германіі, Швецыі, Фінляндыі і іншых капіталістычных краін, спачувальна каментыраваліся „працы" тэарэтыкаў расавага шавінізма, папулярызаваліся еўгенічныя мерапрыемствы фашысцкага парадку.

Некалькі прыкладаў з велізарнага ліку магчымых.

Калі шведскія буржуазныя нацыяналісты выпусцілі „Антрапалогію Швецыі", якая павінна даказаць іх арыйскую чыстату і паўночна-расавае першародства, то наш орган „совецкай навукі" з захапленнем вітаў гэту падзею:

[1]) В. В. Бунак, Материалы для сравнительной характеристики санитарной конституции евреев, „Русский Евгенический Журнал", т. II, вып. 2-3, Москва, 1924 г., стр. 150-151.

„У Швецыі... праведзена новае, яшчэ больш абшырнае, даследванне, значна паглыбляючае прадстаўленне аб паўночнай расе, даследванне, выклiканае поспехамi за апошнюю чвэрць века антрапалагiчнай метадалогii i тэорыi, якiя знайшлi сабе поўнае адлюстраванне ў гэтай новай узорнай i зусiм сучаснай капiтальнай працы. Калi мярылам культурнасцi краiны можа быць яе здольнасць да арганiзацыi i затраты вялiкiх сродкаў на масавыя даследваннi, не абяцаючыя непасрэдных i прамых рэзультатаў для эканомiкi i тэхнiкi, то Швецыя па справядлiвасцi можа прэтэндаваць на культурнае пяршынства ў Еўропе“ [1]).

А вось якую „крытычную“ ацэнку даваў совецкi журнал органу шведскiх-жа расавых шавiнiстаў „Северная раса“: „Журнал... апублiкаваў некалькi дасканалых фатаграфiй, якiя адносяцца да расавых тыпаў Еўропы са збору Вендэрэнскай лабараторыi, а таксама серыю фатаграфiй злачынцаў. Фатаграфii маюць выключную каштоўнасць; не гледзячы на папулярны характар, вялiкую цiкавасць прадстаўляе рад артыкулаў па еўгенiцы. У якасцi агляднага i iнфармацыйнага журнала орган скандынаўскiх еўгенiстаў не мае сабе роўных“ [2]).

Можна прывесцi яшчэ больш паражаючыя прыклады.

Вядома тая шалёная расавая прапаганда, якую, iмкнучыся да ўлады, развiвалi гiтлераўцы, у якасцi аднаго з важнейшых дэмагагiчных сродкаў зацямнення класавай самасвядомасцi мас. І вось, усе тыя мерапрыемствы, якiя фашысты ажыццяўлялi ў плане гэтай прапаганды, не толькi не выкрывалiся нашымi расiствуючымi антраполагамi, але сустракалi ў iх вельмi спачувальную ацэнку.

Узнiкненне такiх кiруючых ячэек фашысцкай расавай прапаганды, як „нямецкага таварыства вывучэння тыпаў крывi“, або „саюза для вывучэння германскай народнасцi i расы“, выхад такiх органаў ваяўнiчага расiзма, як „Народ i раса“, выпуск такiх „дапаможных сродкаў“ па распаўсюджанню расавай псiхапатыi, як лемански „Архiў расавых партрэтаў“—нязменна сустракалi з боку „Русского Антропологического Журнала“ дружныя водгукi: „Наша навука павiнна з вялiкiм iнтарэсам адзначыць рэзультаты гэтага павучальнага вопыту“ [3]). „У гэтым пачынаннi нямецкiх вучоных нам ёсць чаму павучыцца не толькi з боку навуковага, але i з боку грамадска-арганiзацыйнай“ [4]). „Нельга

[1]) Княжанский, Д., „Новая“ антропология Швеции и проблема северной расы, „Русский Антропологический Журнал“, 1927, т. XVI, вып. 1-2, стр. 78-79.

[2]) „Русский Антропологический Журнал“, 1927, т. XV, вып. 3-4, стр. 114.

[3]) Там-жа, стар. 113.

[4]) Там-жа, стар. 114.

не вітаць гэтага пачынання, патрэба ў якім прызнаецца ўсюды“ [1]), і т. д. і т. д.

Справа дайшла да таго, што на старонках совецкіх журналаў рэкламіраваліся вучоныя подвігі рускіх белагвардзейцаў на ніве „апалітычнай“ еўгенікі. Вось, як вітаў, напрыклад, „Русский Евгенический Журнал“ „еўгенічныя“ практыкаванні высланага з СССР вядомага ворага пролетарыята Піцірыма Сарокіна, закляймёнага Леніным як мракабеса і прыгонніка:

„Два вельмі цікавых і жыва напісаных артыкулы нашага рускага соцыёлага Сарокіна знаёмяць нас з некаторымі бакамі жыцця тых двух рознавіднасцей чалавечага грамадства, для вывучэння якіх наш Саюз прадстаўляе, не гледзячы на ўсю абшырнасць яго тэрыторыі, мала падыходзячае месца: іменна міліянераў і манархаў... Нельга не пажадаць аўтару прадаўжэння яго цікавых вышуканняў з пажаданнем распаўсюджання іх і на больш шырокія групы насельніцтва“ [2]).

Дзейнасць нашых расіствуючых антраполагаў і еўгеністаў з іх адпраўным пунктам „вышэйшых“ і „ніжэйшых“ рас насіла вялікадзяржаўніцкі характар. Яна была накіравана супроць нацыянальнай палітыкі совецкай улады, „ігнараваўшай“ устанаўляемыя „аб'ектыўнай навукай“ „натуральныя рознасці рас“. Яе сакравенны сэнс быў у доказе ўтапізма і бясплоднасці ўсіх пачынанняў пролетарскай дзяржавы, накіраваных на ліквідацыю культурнай адсталасці прыгнятаўшыхся царызмам нацыянальнасцей. „Гэта адсталасць натуральна дэтэрмініравана, яна з'яўляецца рэзультатам уроджаных і спадчынна перададзеных расавых уласцівасцей. Змагацца з ёю соцыяльнымі мерапрыемствамі—бясплодна“. Такім быў кароткі сэнс усіх доўгіх прамоў вучоных еўгеністаў аб біяхімічных перавагах „галандскага“ бялка перад „кітайскім“, аб своеасаблівым развіцці капіляраў у манголаў і аб спецыфічных расава-паталагічных уласцівасцях шкарлатыны ў узбекаў...

У якасці яркай ілюстрацыі тут можна было-б спаслацца на артыкул называўшагася ўжо вышэй праф. В. Г. Штэфко „Die Rassen konstitutionellen Beobachtungen an den Hauptcapillaren. Die Nagelfilzcapillaren und Schilddrüsse der Mongolen“, апублікаваны ў суаўтарстве з Глаголевай у „Zeitschrift für Konstitutionslehre“ за лістапад 1931 г.

Артыкул напісан на аснове матэрыялаў экспедыцыі Наркомаховы здароўя ў Бурата-Мангольскую АССР. Даныя экспедыцыі пераканалі праф. Штэфко ў тым, што

---

[1]) „Русский Антропологический Журнал“, 1927, т. XV, вып. 3—4, стр. 114.

[2]) Ю. А. Филипченко, Новости евгенической литературы, „Русский Евгенический Журнал“, т. IV, вып. II, 1926 г., стр. 98.

„ў прадстаўнікоў мангольскай расы развіццё капіляраў ідзе, відавочна, некалькі іншым шляхам і заканчваецца на значна больш ранніх фазах, чым канчатковыя фазы еўрапейскага і рускага насельніцтва“ [1]).

Гэта акалічнасць мае ў вачах праф. Штэфко асобае значэнне, паколькі „ў развіцці адпаведных капілярных структур у наяўнасці адлюстраваны канстытуцыянальныя адхіленні ў развіцці“.

Устанавіўшы, што адсталасць у развіцці структур адлюстроўвае агульнаканстытуцыянальную адсталасць, аўтар асоба падкрэслівае, што „кожная мадыфікацыя архіструктур... указвае на якую-небудзь няпоўнацэннасць псіхафізічнай асобы“. Такім чынам устанаўляецца псіхафізічная няпоўнацэннасць манголаў. Гэты вывад у далейшым яшчэ замацоўваецца ўказаннямі на сувязь паміж капілярнымі структурамі і структурай шчытавіднай жалёзы, пераконваючымі аўтара ў тым, што манголы ў адрозненне ад еўрапейцаў яшчэ не закончылі сваей біялагічнай эвалюцыі...

Але сказанага дастаткова для таго, каб пераканацца ў акрэслена вялікадзяржаўніцкім характары тых вывадаў, якія адвольна зроблены аўтарам з меўшыхся ў яго распараджэнні матэрыялаў.

Побач з мусіраваннем ідэйкі аб тым, што культурная адсталасць раду нацыянальнасцей абумоўлена іх уроджанымі біялагічнымі ўласцівасцямі, вялікадзяржаўныя расісты ўзмоцнена, хоць і ў вельмі завуаляваных формах, атакавалі совецкую нацыянальную палітыку з другога канца: совецкая ўлада, моў, „штучна“ выдзяляе з рускага народу такія яго групы, якія антрапалагічна, біялагічна, расава нічым не выдзяляюцца. Рабілася гэта звычайна ў „безабіднай“ форме „аб'ектыўна-навуковага“ канстатавання факта расавай ідэнтычнасці велікарусаў, украінцаў і беларусоў, тоесамасці іх антрапалагічных і біялагічных паказальнікаў. Вывады прадастаўляліся чытачу.

Паказальны ў гэтым разрэзе апублікаваны Е. М. Чэпуркоўскім у „Русском Антропологическом журнале“ артыкул аб антрапалагічным аналізе насельніцтва [2]). Махровае вялікадзяржаўніцтва гэтага артыкула праявілася ў тым, што для яго аўтара на сёмым годзе пролетарскай рэволюцыі, праз два амаль гады пасля стварэння Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, існуе толькі паняцце „Расія“. Чэпур-

---

[1]) Цытаты прыводжу з артыкула праф. Е. Сеппа „Новая вылазка буржуазного профессора“, надрукаванага ў журнале „Фронт науки и техники“, 1932 г., № 4-5.

[2]) Е. М. Чепурковский, О необходимости единого плана работ по антропологическому анализу населения России и желательности этнографического исследования некоторых отдельных областей, „Русский Антропологический Журнал“, т. XIII, вып. 1-2, Москва, 1924.

коўскі і разам з ім рэдакцыя шаноўнага журнала клікалі ўсіх рускіх антраполагаў сістэматызаваць расавае вывучэнне Расіі, пры гэтым у якасці першачарговых аб'ектаў яны высоўвалі побач з паветамі Разанскай, Тамбоўскай, Кастрамской і Тверской губерняў такія часткі „Расіі“, як паветы Сосніцкі, Глухаўскі і Канатопскі, як Мазырскі, Бабруйскі, Слуцкі, Ігуменскі, як Чэрнігаўскую і Менскую губерні. Што на самай справе за „большэвіцкія прадрассудкі“: РСФСР, УССР, БССР? Няхай вывучаюць усе сапраўдырускія антраполагі „адзіную і недзялімую“!..

У гэтай-жа „адзінай, недзялімай“,—так грунтоўна „даказана“ ў артыкуле Чэпуркоўскага,—„няма“ нейкіх міфічных украінцаў і беларусоў, там пражываюць толькі „тыпы рускага народу“. Навука, ад імя якой аўтарытэтна выступаюць Чэпуркоўскія, устанаўляе, што той, каго па невуцтву называюць украінцамі,—гэта ў сапраўднасці „цёмны брахіцэфал, насяляючы Маларосію“, а той, каго называюць беларусом,—гэта „светлы брахіцэфал, абітаючы водараздзелы Вялікаросіі і Палесся Беларусі“... [1]) Кіпцюры Сікорскіх і Будзіловічаў пад лайкавай пярчаткай совецкай лаяльнасці і навуковага аб'ектывізма!..

Паслядоўна ажыццяўляючы прынцыпы ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, усебакова і настойліва змагаючыся за пролетарскі інтэрнацыяналізм, кіруемая комуністычнай партыяй совецкая дзяржава ўсей практыкай свайго соцыялістычнага будаўніцтва развеяла ілжывыя вымыслы нашых дамарошчаных расістаў аб „вышэйшых“ і „ніжэйшых“ расах, аб біялагічнай прадвызначанай адсталасці рас і нацыянальнасцей і інш. і інш. Яна паказала, як пастаўленыя ва ўмовы іншага існавання, вызваленыя ад ярма каланізатараў і гнёту „ўласных“ эксплуататараў, дзесяткі нядаўна гаспадарча і культурна адсталых нацыянальнасцей ліквідуюць сваю адсталасць, выяўляюць велізарныя, закладзеныя ў іх і вякамі драмаўшыя патэнцыі, адкрываюць новыя рэзервуары актыўнай творчай энергіі, выдзяляюць са свайго асяроддзя даравітых майстроў навукі і мастацтва...

У святле гэтага значнейшага гістарычнага працэсу, зрабіўшагася магчымым толькі п р ы і д з я к у ю ч ы дыктатуры пролетарыята, становяцца відавочнымі і навуковая каштоўнасць і класавы сэнс той расавай фантастыкі, якая даволі доўгі час распаўсюджвалася ў нас нават у совецкіх умовах.

---

[1]) Е. М. Чепурковский, О необходимости единого плана работ по антропологическому анализу населения России и желательности этнографического исследования некоторых отдельных областей, „Русский Антропологический Журнал“, т. XIII, вып. 1-2, Москва, 1924, стр. 101-102.

## РАСАВЫЯ ТЭОРЫІ НА СЛУЖБЕ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛ-ДЭМАКРАТЫЗМА

Расавыя тэорыі, як мы бачылі, выкарыстоўваліся ў вялікадзяржаўніцкіх мэтах доўгі час і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. За іх ахотна хваталіся ідэолагі раней панаваўшых класаў вялікарускай нацыі, марыўшых аб рэстаўрацыі сваіх, зруйнаваных пролетарскай рэвалюцыяй класавых пазіцый. Па гэтай лініі ішла ў нас у асноўным прапаганда расісцкіх ідэй пасля Кастрычніка.

Але гэтыя тэорыі нярэдка служылі ідэалагічнай зброяй і ў руках шавіністаў раней прыгнечаных нацый, імкнучыхся да аднаўлення капіталізма, выкарыстоўваліся імі для ўмацавання мясцовага нацыяналізма. Буржуазныя нацыяналісты бачылі ў расавых тэорыях сродак прапаганды, абасобленасці ад працоўных іншых нацыянальнасцей Совецкага саюза, ізаляцыі ад агульнага працэсу соцыялістычнага будаўніцтва Саюза Советаў, падрыву пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Расавыя тэорыі служылі нацыяналістам украінскім, беларускім, грузінскім, яўрэйскім, татарскім і іншым у іх спробах абгрунтаваць сваю „самабытнасць“, даказаць сваю прыналежнасць да „выбранай“, „вышэйшай“ расы, устанавіць свае расавыя перавагі ў адносінах да вялікарусаў, адным словам, у ажыццяўленні іх асноўнай задачы—садзейнічаць зруйнаванню інтэрнацыянальнага адзінства працоўных СССР і падрыхтоўваць інтэрвенцыю міжнароднай буржуазіі ў краіну будаўніцтва соцыялізма.

Беларускія контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты—ідэолагі беларускай буржуазіі і кулацтва, якія імкнуліся адарваць БССР ад Совецкага саюза і ператварыць яе ў калонію заходне-еўрапейскага імперыялізма,—былі асабліва падкі на ўсякага роду „тэорыйкі“, якія маглі быць выкарыстаны ў інтарэсах нацыяналістычнага абасаблення і замыкання ў нацыянальнай скарлупе. Расізм займаў сярод гэтых тэорый асобае месца, прадастаўляючы шырокі прастор нацыяналістычным спекуляцыям наццэмаў на „самабытнасці“.

Буржуазныя нацыяналісты ўсяляк стараліся даказаць, што беларусы ўвасабляюць у сабе славянскі расавы тып, што іх „расавая чыстата“ вышэй гэтакай у вялікарусаў і украінцаў.

„Па сваіх фізічных уласцівасцях, як антрапалагічны тып,—гаварыў у сваіх лекцыях на курсах беларусазнаўства

Н. А. Янчук,—беларус-славянін па перавазе, у параўнанні нават з бліжэйшымі сваімі сародзічамі, вялікарусамі і маларосамі. Таму парукай—увесь пройдзены гістарычны шлях, а пацвярджэннем—навейшыя антрапалагічныя даследванні, выявіўшыя ў беларускім тыпе істотнейшыя славянскія рысы, як брахіцэфалія, г. зн. кароткагаловасць, прасцей гаворачы, круглагаловасць, і інш." [1]).

Трафарэтнае сцвярджэнне нацдэмаўскіх ідэолагаў заключалася ў тым, што беларус як ніхто іншы з славян, захаваў сваю расавую чыстату, дзякуючы таму, што жыў у глушы лясоў і балот.

„Мы ведаем,—гаворыць той-жа Янчук,—што ў той час, як вялікарускае племя, расшыраючыся на паўночны-ўсход, на працягу многіх вякоў упітвала ў сябе пакараемыя ім розныя фінскія і татарскія плямёны, а паўднёварусы, вядучы шматвяковую барацьбу за стэп на паўднёвым-усходзе, змешваліся немінуча з цюркамі ўсякага звання ад печанегаў да турак, а раўно адчувалі на сабе ўплыў яшчэ і іншых інапляменнікаў... беларускі народ, схаваны ў лясных пушчах і абаронены маладаступнымі балотамі і трасінамі, спакон вякоў захоўваў сябе чыстым ад уплыву чужой крыві" [2]).

Гэта-ж установка была пакладзена ў аснову дзейнасці кафедры антрапалогіі Інстытута беларускай культуры, кіраўнікі якой сцвярджалі, што, „вывучаючы антрапалагічныя асаблівасці беларусоў, мы абавязаны... улічыць уплыў умоў адзінотнага жыцця часткі беларусоў у глухіх кутках Палесся, дзе, можна думаць, мы знойдзем, з аднаго боку, найбольш чысты расавы тып, а з другога—уловім, магчыма, і ўплыў характару мясцовасці ў сэнсе захавання прымітыўных рыс будовы або паводзін" [3])...

Беларускія нацдэмы спрабавалі знайсці ў „расавым пачатку" асноўны фактар грамадскага працэсу, выводзіць з яго культурны ўзровень нацыі, характар ствараемых ёю ідэалагічных каштоўнасцей і т. д. і т. д. У свой час нашумеў, напрыклад, артыкул Н. Брунова аб беларускай архітэктуры XI-XII вв. У ім даказвалася, што „сапраўдны беларускі стыль" паходзіць з „племянных і яшчэ глыбей—з расавых аблівасцей беларускага народу", што стыль гэты „базуецца па псіхафізічных асаблівасцях арыйцаў" [4]).

Доказам абсалютнай расавай чыстаты беларусоў нацдэмы аддавалі выключную ўвагу. Яе ўстанаўленнем займаўся

---

[1]) Н. Янчук, Этнографический очерк Белоруссии, „Курс белоруссоведения", М, 1920, стр. 166.

[2]) Там-жа, стар. 167.

[3]) Інстытут беларускай культуры, Зборнік артыкулаў,—Этнаграфія, Антрапалогія, Псіхалогія і інш., Менск, 1928. Праф. А. К. Ленц, Матэрыялы да арганізацыі антрапалагічных даследванняў на Беларусі, стар. 64.

[4]) Там-жа, стар. 301.

тэарэтычны штаб беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі—выходзіўшы ў Коўне журнал „Крывіч". Яе пацвярджэнне з'явілася генеральным заданнем, атрыманым ад нацдэмаў кафедрай антрапалогіі Інстытута беларускай культуры. Яе абгрунтаванню былі прысвечаны работы па даследванню груп крыві, з шырокім размерам праводзіўшыяся ў Беларускай акадэміі навук, у Беларускім санітарна-бактэрыялагічным інстытуце і іншых навуковых установах. На выкананне гэтага соцыяльнага заказу нацдэмаў імі былі мабілізаваны значныя кадры антраполагаў, этнографаў, біёлагаў, медыкаў.

Асобую актыўнасць у справе распаўсюджання расісцкіх поглядаў праяўлялі нацдэмаўскія географы. У расізме яны знаходзілі сродак падмацавання свайго геаграфічнага натуралізма. Раўняючыся па „геапалітычнай" школе нямецкіх фашыстаў і яе украінскіх паследышаў—буржуазных украінскіх нацыяналістаў тыпу Рудніцкага, Герыновіча і іншых, беларускія нацдэмаўскія географы спрабавалі „прыстасаваць" агульныя ўстаноўкі германскай „геапалітыкі" да ўмоў Беларусі. Услед за фашысцкімі геапалітыкамі, яны разглядалі гістарычныя падзеі як рэзультат прыродных геаграфічных умоў, ставячы пры гэтым ва главу вугла фізіялагічныя асаблівасці беларусоў, іх расавае аблічча. Устанаўляючы „антропагеаграфічны тып" Беларусі, нацдэмаўскія географы капіравалі сваіх украінскіх субратоў, яны даказвалі „натуральную абасобленасць" тэрыторыі Беларусі ад тэрыторый, якія ляжаць на ўсходзе ад яе, і яе арганічную звязанасць з тэрыторыямі, якія ляжаць на Захадзе. Адначасова яны даказвалі, што беларусы з'яўляюцца тым іменна народам, які ў максімальнай ступені захаваў „чыстату славянскай крыві", спрадвечны „арыйскі тып" і т. д. Лідэр нацдэмаўскіх географаў, Аркадзій Смоліч, у сваім курсе геаграфіі дае наступныя кіруючыя ўстаноўкі для „геаграфічнага" абгрунтавання задач нацдэмаўскай нацыяналістычнай контррэволюцыі:

„Сярод народаў Усходняй Еўропы беларус з'яўляецца найбольш чыстым прадстаўніком славянскага тыпу. Яго ўсходні сусед — вялікарускі народ паўстаў ад змяшэння славянскіх каланістаў з манголамі-фінамі. Беларус спрадвеку сядзіць на сваёй зямлі, і гісторыя не памятае на беларускай прасторы значнейшых неславянскіх тубыльцаў... З другога боку, непрыступнасць беларускіх балот і лясоў бараніла край ад паўднёвых вандроўнікаў, і беларус не мае ў сабе турскае (гэта сама мангольскае) крыві, якая налажыла гэтакі моцны знак на тып украінца. Гэтая-ж дзікасць і непрыступнасць прыроды бараніла Беларусь і ад заходняй каланізацыі"[1]).

[1]) Аркадзій Смоліч, Кароткі курс геаграфіі Беларусі, Дзярж. Выд. Бел., 1925 г., Менск, стар. 125.

У рэзультаце гэтых „самабытных“ прыродна-геаграфічных умоў і выпрацаваўся па сцвярджэнню нацдэмаўскіх географаў „самабытны“ расавы тып беларуса. Смоліч так характарызуе гэты тып:

„Наогул беларус мае моцны, трывалы арганізм. Будова цела ў яго крыху далікатнейшая, чым у расійца. Аб‘яўляецца гэта і ў агульным яго выглядзе і асабліва ў рысах твару—тонкіх і мяккіх як ў праўдзівага еўрапейца і славяніна. Скулы ў беларуса, прыкладна не гэтак рэзка выдаюцца, як у татар ды расійцаў, мясісты нос спатыкаецца рэдка. Колер скуры ў беларуса звычайна белы. Колер вачэй і валасоў бывае розны, але паміж беларусоў, раўнуючы да іншых суседніх нацый, асабліва вялікі процант людзей з блакітнымі і шэрымі вачыма; таксама часцей у нас спатыкаюцца людзі з светлымі валасамі“[1]).

Не цяжка заўважыць, што Смоліч уключыў у „расавы індэкс“ беларуса ўсе тыя рысы, якімі расісцкія тэарэтыкі ад Гобіно да Гюнтэра надзяляюць выбраны арыйскі тып...

Даказваючы найбольшую сярод усіх славян расавую чыстату беларусоў,—выканаўцы нацдэмаўскага соцыяльнага заказу старанна выконвалі яшчэ адно заданне: яны спрабавалі ўстанавіць расавую блізасць беларусоў з заходнімі народнасцямі, у першую чаргу з палякамі, і расавую чуждасць беларусоў вялікарусам. Гэта заданне выцякала з агульных установак контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызма—на аддзяленне Беларусі ад цэнтра міжнароднай пролетарскай рэвалюцыі—Масквы, на ізаляцыю беларускіх народных мас ад „тлетворнага ўплыву вялікарускага пролетарыята, на адрыў БССР ад агульнага працэсу соцыялістычнага будаўніцтва Саюза Советаў, на збліжэнне з капіталістычным Захадам, на падначаленне буржуазнай культуры суседніх „цывілізаваных краін“ і на расчышчэнне такім чынам шляхоў для імперыялістычных інтэрвентаў.

Правадыр нацдэмаўскай контррэволюцыі, былы прэзідэнт так званай Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаў Ластоўскі, седзячы ў Коўне, даваў сваім супольнікам і аднадумцам, якія знаходзіліся у Савецкай Беларусі, генеральныя ўстаноўкі наконт таго, як трэба ім „распрацоўваць“ расавую праблему: „Найбольш чыстымі па крыві славянамі трэба лічыць Крывіцкі[2]) і Польскі народы. Чэхі безумоўна маюць у сабе значную дамешку нямецкай крыві. Што датычна баўгараў, то іх трэба лічыць за славянаў, хоць у іхніх жылах

[1]) Аркадзій Смоліч, Кароткі курс геаграфіі Беларусі, Дзярж. Выд. Бел., 1925 г., Менск, стар. 126 .

[2]) Па тэрміналогіі Ластоўскага слова „крывіч“ азначала беларус. Слова беларус яны абвяшчалі няправільным, бо яно, моў, падкрэслівае радство з вялікарусамі.

цячэ не малая дамешка мангольскай крыві. У горшым палажэнні вялікарускі народ, які кампетэнтнымі вучонымі прызнаецца нават за неславянскі, у лепшым выпадку за славянамангольскі" [1]).

З вялікай стараннасцю даказвалі наццэмаўскія „даследчыкі", што велікарусы — помесь славян з манголамі: „пакрыві-ж гэтыя манголы асталіся манголамі і не абярнуліся ў арыйцаў, яны,—выражаючыся мовай індусаў,—былі і асталіся „апачуа",—гэта значыць не арыйцамі, а „dasa", г. зн. нізшай расай, не гледзячы на хрысціянства" [2]).

Адчуваючы звярыную ненавісць да Расіі рабочых і сялян, да краіны пролетарскай дыктатуры (з вялікадзяржаўнікамі гэтыя паны на глебе агульных класавых інтарэсаў быстра знаходзілі агульную мову), наццэмы, як мы бачым, усяляк стараліся скампраметаваць расавую прыроду вялікарусаў.

Так, супрацоўнікі „Крывіча" трацілі шмат намаганняў для таго, каб пазбавіць вялікарусаў правоў славянскага першародства.

Яны даказвалі, што „славяне як у адносінах культуры і цывілізацыі, так і па свайму геаграфічнаму становішчу і блізкаму радству па крыві з балтыйцамі (літоўцамі, латышамі), а таксама, хоць і некалькі больш далёкаму радству з другімі арыйскімі народамі, адносяцца да Заходу. Другая справа вялікарусы („маскалі"): у іх не толькі ўсходняя цывілізацыя з лёгкім заходнім налётам, але няма маскаля, у жылах якога не цякла-бы мангольская кроў" [3]).

Алесь Гарун папросту абвяшчаў вялікарусаў „мангола-фінскай чалавечай помессю" (які прыгожы стыль гітлераўскіх малойчыкаў!). Наццэм Veritatis аўтарытэтна сцвярджаў, што „цяперашняя Вялікаросія—не славянскі край; аб гэтым сведчыць не толькі неславянскі тып вялікарусаў (пастаўце поплеч менчука з пензенцам і параўнайце: дзве зусім розныя расы людзей), але і неславянскія імёны рэк і азёр". „Вялікарусы,—благародна абураўся наш наццэм,—гэта мешаніна варагаў, крывічоў, украінцаў на 999/1000 фінаў і татар,—выдаюць сябе за „истинно славян" і крычаць аб сваім славянскім прызванні"... [4]) Другі „крывічанскі вучоны", д-р Чужыловіч, яшчэ да таго ўстанавіў, што „ў жылах „славянскіх" вялікарусаў цячэ... так-жа мала славянскай крыві, як у жылах кіргізаў або калмыкаў", што „з пункту гледжання антрапалогіі рожніцы паміж французамі і італьянцамі—з адной стараны і крывічамі—з другой не так вялікі, як рожніца паміж крывічамі і вялікарусамі" [5]).

---

[1]) Д-р А. Чужыловіч, Мова, народ, раса, „Крывіч", 1923, № 4.
[2]) Там-жа.
[3]) Бр. Скарыніч, Маскальшчына і Еўропа, „Крывіч", 1923 г., № 4.
[4]) Veritatis, Аб „славянстве" маскалёў, „Крывіч", 1926 г., № 1.
[5]) Д-р А. Чужыловіч, Мова, народ, раса, „Крывіч", 1923 г., № 4.

У гэтым плане ўстанаўлення глыбокай расавай розніцы паміж беларусамі і вялікарусамі, абвяшчэння першых найбольш чыстым расавым тыпам славяніна, а другіх—мангалізаваным сурагатам славянства—працавала па заданню нацдэмаў значная колькасць антраполагаў, этнографаў, географаў, медыкаў і навуковых работнікаў іншых спецыяльнасцей... Ігнаруючы рашаючыя соцыяльныя законамернасці, адвольна класіфікуючы наглядаемыя з'явы, падганяючы свае абагуленні пад пэўную нацыяналістычную тэндэнцыю, адным словам, карыстаючыся тымі-ж прыёмамі псеўда-навуковага „даследвання", якія практыкавалі ў сваей „расісцкай" дзейнасці вялікадзяржаўныя шавіністы, агенты нацдэмаў на навуковым фронце, фабрыкавалі заказаны іх гаспадарамі тавар...

Даследваўшы некаторую колькасць ураджэнцаў Беларусі пры дапамозе вывучэння аглюцынінавай рэакцыі крывяной сыроваткі, яны без лішніх акалічнасцей „устанаўлялі", што „беларусы належаць да пераходнага тыпу паміж заходнееўрапейскім і азіяцка-афрыканскім", што, „паводле нашых даных, расава-біялагічны індэкс беларусоў вышэй індэкса рускіх (1,52) і палякаў (1,66)" [1]) і т. д. і т. д.

Адначасова я-б хацеў указаць, што сералагічныя рэакцыі, і ў прыватнасці рэакцыя аглюцынацыі, якая дае магчымасць утончанага біялагічнага вывучэння відаў [2]) і мае сама па сабе навуковае медыцынскае значэнне, дае яркі ўзор выкарыстання ў класавых мэтах буйнага навуковага адкрыцця, спроб класавай спекуляцыі на навуцы.

Расісцкая спекуляцыя на гэтым навуковым адкрыцці надзвычай паказальна. Гэта спекуляцыя асабліва расцвіла ў нас у гады пераходу да рэканструкцыйнага перыяду, які характарызуецца ажыўленнем класава-варожых сіл на ўсіх участках нашага будаўніцтва. Буржуазна-нацыяналістычныя элементы, якія актывізаваліся ў гэты час, развілі ў Маскве, Ленінградзе, Харкаве, Менску, у радзе нацыянальных рэспублік і абласцей ліхаманкавую дзейнасць па вывучэнню складу крыві. Гэта вывучэнне дыктавалася далёка не навуковымі інтарэсамі, а нацыяналістычнай пагоняй за больш высокім расава-біялагічным індэксам...

У адпаведнасці з мэтамі, што стаялі перад імі, шматлікія „даследвацелі" пераўзносілі індэкс вялікарусаў, украінцаў, беларусоў, яўрэяў, грузін, узбекаў і т. д. і т. д.

Аднак, устанавіць расавую самабытнасць беларусоў, іх славянскае першародства, іх пераважныя расавыя ўласці-

[1]) Запіскі Беларускага дзяржаўнага санітарна-бактэрыялагічнага інстытута, 1926, т. I, стар. 21.

[2]) Рэакцыя гэта заключаецца ў тым, што пры змяшэнні крыві жывёлы пэўнага віду з сыроваткай жывёлы другога віду, атрымліваецца склейванне чырвоных крывяных целец першай жывёлы.

васці ў адносінах да вялікарусаў—усяго гэтага было яшчэ, зразумела, недастаткова. Нацдэмам неабходна было ўстанавіць і канкрэтны пералік „расавых доблесцей“ беларусоў, паказаць якія тыя варожыя расавыя ўласцівасці, якія ствараюць „нацыянальную душу“ беларуса.

Адзіна, чым акрэсліваюцца такога роду „індэксы расавых доблесцей“, гэта, як вядома, творчая фантазія іх аўтароў, якая прымае асабліва паграажаючы размах у тых выпадках, калі ў гэтых аўтароў адсутнічае неабходнае пачуццё юмара. Гэтымі „індэксамі“ стараюцца-жа „перакрыць“ адзін другога нацыяналістычныя буржуа ўсіх масцей, усіх рас і нацый, якія грызуцца паміж сабой. Часамі-жа фантазія становіцца асабліва бясстрымнай, прымаючы такія паталагічныя формы, якія дэманструе фашысцкая Германія з яе брэдавымі расісцкімі вымысламі.

Беларускія нацыянал-дэмакраты, усе гэтыя Ластоўскія, Цвікевічы, Доўнар-Запольскія,—нямала працы паклалі на складанне свайго нацдэмаўскага індэкса нацыянальна-расавых доблесцей беларуса. Яны ўсяляк даказвалі, што „галоўныя нацыянальныя асаблівасці беларускага народу—цяга да культуры, мяккасць і нежнасць душы“ [1]), што „наш народ любіць праўду і красату, ён спакойны, рассудзіцельны, пры гэтым цвёрды“ [2]); што, нарэшце, „беларусы беларусамі называюцца таму, што рукі ў іх былі не такія чырвоныя ад пралітай людскае крыві, як ў другіх народаў“... [3])

Уся гэта нацыяналістычная абракадабра прыпадносілася масам з тым, каб укараніць у іх свядомасць мысль аб маналітнай беларускай нацыі, адзінай у сваіх расавых дастоінствах і доблесцях, не ведаючай якіх-бы там ні было класавых дзяленняў, чуждай класавых антаганізмаў. „Смірэнамудры“, „кроткі“, „доўгацярплівы“, „богабаязнены“ беларускі народ нацдэмы проціпастаўлялі вялікарусам і іншым нацыянальнасцям савецкай дзяржавы,—„разнузданым“, „сваявольным“, „своекарысным“, на штыхах прынесшых у Беларусь „рэвалюцыйны гвалт“, у той час, як самі беларусы па сваіх „прыродных“, „уроджаных“, „расавых“ уласцівасцях такому гвалту арганічна чуждыя і варожыя... „У той час, як у Вялікаросіі большэвізія рабіла сваю паганую крывавую работу“,—пісалі ў 18 годзе правадыры беларускай контррэвалюцыі,—тут на Беларусі было куды цішэй, а тыя рэдкія эксцэсы, якія здараліся і ў нашай тэрыторыі, рабіліся па натхненню не карэнных беларусоў, а рознымі натоўпамі вялікарусаў і латышоў з фронту... Наш народ, ціхі і гуманны, не мог

[1]) „Беларускі Шлях“, 1918 г., № 39.

[2]) В. Ластоўскі, Што трэба ведаць кожнаму беларусу, „Вольная Беларусь“, 1918, № 29.

[3]) „Вольная Беларусь“, 1918, № 12.

нічога рабіць супроць такога няшчасця“ [1]). Само сабой, што такога роду „расавыя ўласцівасці“ беларусоў наццэмы ўстанаўлялі толькі ў часе акупацыі, знаходзячыся пад цёплым крылом Feldpolizei або дэфензівы. Пры совецкай ўладзе яны спрабавалі ўключыць у свой расавы індэкс і „прыроднае антыэксплуататарства“ беларусоў і іх „спрадвечную бяскласавасць“.

Але ўсё гэта, зразумела, дрэнна атрымлівалася... У сваей нястомнай барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм, партыя выкрывала ўсе нацыяналістычныя хітрыкі гэтых ідэолагаў буржуазіі і кулацтва, паказвала масам сапраўдны сэнс усіх іх спекуляцый фальшыва-нацыянальным сцягам, выяўляла класавую ролю іх „расісцкіх“ „вышуканняў“ і „тэорый“.

Нацдэмаўская прапаганда расавых тэорый была састаўной часткай іх контррэволюцыйнай ідэалогіі, яна насіла ярка выяўлены антыпролетарскі, антысовецкі характар. Расавыя тэорыі гэтыя абаронцы беларускага кулацтва і верныя прыслужнікі польскіх паноў стараліся выкарыстаць для сваей падрыўной работы ўнутры Совецкай Беларусі, у мэтах падрыхтоўкі інтэрвенцыі і адрыву Совецкай Беларусі ад СССР. Астрыё іх расавай прапаганды было накіравана супроць пролетарскай дыктатуры, шалёная ненавісць да якой штурхнула нацдэмаўскае атрэп‘е ўступіць у контррэволюцыйны блок з вялікадзяржаўнымі шавіністамі, з трацкістамі і іншымі антысовецкімі элементамі, якія аб‘ядноўваюцца на глебе барацьбы з совецкай уладай і ўмацавання пазіцый капіталізма.

Акрыленыя розенбергаўска-гітлераўскімі планамі на вайну з Совецкім саюзам і адрыву ад яго Совецкай Украіны і Беларусі, беларускія буржуазныя нацыяналісты адкрыта пераходзяць на пазіцыі фашысцкага расізма. Выходзячая ў Вільні газета „Новы шлях“—орган беларускай фашысцкай партыі Акінчыца, створаная пры дапамозе польскай дэфензівы, энергічна прапаведвае гітлераўскі фашысцкі расізм. У праграмным артыкуле гэтага органа беларускіх фашыстаў, — натхніцеляў і саратнікаў шпіёнска - правакатарскай арганізацыі „Беларускі Нацыянальны Цэнтр“, якая вяла падрыўную работу ў БССР,—гаворыцца: „Мы лічым, што апрача барацьбы класаў, якая фактычна з‘яўляецца параўнальна нязначнай з‘явай,—ёсць другія сілы, дзейнічаючыя ў процілеглым напрамку, кансалідуючыя чалавечыя масы і сапраўды даючыя напрамак гістарычным падзеям“ [2]). Якія-ж, па думцы беларускіх фашыстаў, тыя сілы, якія кіруюць гістарычнымі падзеямі? Гэта—„расавая і нацыянальная салідарнасць“ [3]).

---

[1]) Беларускі шлях, 1918, № 39.
[2]) Новы Шлях, 1934, № 2.
[3]) Там-жа.

Прапагандай „расавай“ і нацыянальнай салідарнасці беларускага народу“ і запаўняюць старонкі сваіх лістоў гэтыя жалкія агенты дэфензівы, падгалоскі гітлераўцаў, натхніцелі антысовецкіх правакатараў і шпіёнаў. Сваей расава-нацыяналістычнай прапагандай яны спадзяюцца адцягнуць працоўныя масы Заходняй Беларусі ад нацыянальна-вызваленчага руху, ад удзелу ў рэволюцыйнай барацьбе, узначальваемай комуністычнай партыяй. Усё нарастаючае абвастрэнне гэтай барацьбы служыць лепшым доказам бясплоднасці нацыянал-фашысцкай дэмагогіі Акінчыцаў і Луцкевічаў. Ваяўнічаму буржуазнаму нацыяналізму, фашысцкім нацыяналістычным і расавым тэорыям, насаджаемым наццэмамі, непахісна процістаіць рэволюцыйны інтэрнацыяналізм пролетарыята і яго комуністычнай партыі.

---

## РАСАВЫЯ ТЭОРЫІ НА СЛУЖБЕ ЯЎРЭЙСКАГА ШАВІНІЗМА

Расавая тэорыя знайшла асоба гарачы водгук і ў сэрцах буржуазных і дробна-буржуазных яўрэйскіх нацыяналістаў, старанна ўзносячых, як вядома, падзякі госпаду богу за тое, што з усіх народаў зямлі выбраў ён народ ізраільскі і паставіў яго вышэй за ўсіх.

„Расавымі“ довадамі імкнуцца абгрунтаваць „ізбранніцтва“ яўрэйскага народу тыя з іх, якія, не задавальняючыся „ізбранніцкай“ містыкай, прабуюць яе псеўда-навукова „падмацаваць“ апеляцыяй да „расавых уласцівасцей“ яўрэяў.

Партыя яўрэйскай нацыяналістычнай буржуазіі — сіяністы—з самага свайго ўзнікнення культывавала і прапагандавала расавы шавінізм. У расізме сіяністы, як і ўсякія другія нацыяналісты, бачылі сродак дэмагагічнай прапаганды ідэй „адзінай нацыі“, „адзінага нацыянальнага фронта“.

Яшчэ на зары сіянізма цяперашні „правадыр“ яўрэйскіх фашыстаў Вл. Жабацінскі разгортваў паслядоўна-расісцкую платформу: „...не ў выхаванні чалавека трэба шукаць крыніцу нацыянальнага пачуцця, а ў нечым папярэджваючым выхаванню. У чым-жа? Удумаўшыся ў гэта пытанне я тады адказаў сабе:—У крыві. І на гэтым пункце гледжання стаю і цяпер. Пачуццё нацыянальнай самабытнасці ляжыць „у крыві“ чалавека, у яго фізічным расавым тыпе, і толькі ў ім. Мы не верым у тое, што дух незалежны ад цела: мы верым, што псіхіка чалавека перш за ўсё абумоўліваецца яго фізічнай структурай... Народ выпрацоўвае свой самабытны псіхічны ўклад таму, што гэты ўклад адзін толькі адпавядае яго фізічна-расаваму тыпу і другой псіхікі на глебе гэтага тыпу і быць не магло“.[1])

З такой расісцкай платформы следвалі адпаведныя жывёльна-шавіністычныя вывады:

„Каб яўрэй, беспрымесна народжаны ад пакаленняў яўрэйскай крыві, усвоіў сабе псіхіку немца або француза— гэта таксама фізічна нямысліма, як фізічна нямысліма негру перастаць быць неграм, нават яшчэ больш нямысліма, таму што ядро псіхікі ёсць яшчэ больш неаддзялімы і невытравімы расавы прызнак, чым колер скуры, вугал твара і форма

---

[1]) Жабацінскі В., Пісьмо аб аўтанамізме, Яўрэйскае жыццё, 1904 г., чэрвень, стар. 116-117.

чэрапа... і калі ён ажэніцца на такой-жа чыстакроўнай і так-жа выхаванай яўрэйцы, то і сын іх зноў такі будзе бессвядома яўрэем да мозга касцей, і ўмелы наглядальнік заўсёды адрозніць пад яго нямецкай шэрсцю яўрэйскую скуру і я ў р э й с к а е м я с а. Духоўная асіміляцыя з людзьмі іншай крыві зусім неажыццявіма"[1]).

Не прыходзіцца гаварыць, што пад кожным словам гэтай расісцкай платформы сапраўды-яўрэйскага шавініста з радасцю падпішацца любы сапраўды-нямецкі пагромшчык, які ў гітлераўскай імперыі ізашчраецца ў пошуках „яўрэйскага мяса" пад „нямецкай шэрсцю"...

У якасці ўзора таго шавіністычнага самаўпаення яўрэйскімі расавымі доблесцямі, якімі сіяністы прабавалі дурманіць мазгі, я-бы прывёў адну брашуру, якая карысталася пэўнай папулярнасцю сярод яўрэйскай дробнай буржуазіі гарадоў і мястэчак „чарты" напярэдадні рэволюцыі 1905 года. Гэта брашура д-ра Крэцмера „Отличительные черты еврейской нации по данным антропологии, физиопсихологии и патологии евреев"[2]). Сярод тых індэксаў „расавых доблесцей", якія наперабой складаюцца ідэолагамі рознай масці нацыяналізмаў, гэтай „працы" належыць, бясспрэчна, адно з першых месц...

Крэцмер выходзіць з таго, што тып яўрэйскай расы застаўся нязменным на працягу тысячагоддзяў. Яўрэі даюць свету нябачаны ўзор расавай чыстаты, перадаючы ад пакалення да пакалення свае цялесныя і душэўныя ўласцівасці. Устанаўляючы ў якасці адной з расавых рыс яўрэяў фізічную недаразвітасць, Крэцмер абвяшчае, што „ў замяшчэнне цялеснага недаразвіцця яўрэям уласціва вялікая разумовая даравітасць. Развіццё разумовых здольнасцей і набыццё пазнанняў складаюць культ яўрэйскага народу"[3]). Услед за такім сцвярджэннем следуюць традыцыйныя для яўрэйскага нацыяналістычнага мяшчанства пералікі яўрэйскіх знамянітасцей ва ўсіх галінах чалавечай творчасці: медыцына, матэматыка, філасофія, літаратура, музыка, скульптура і інш. і інш. Але гэта яшчэ не ўсе расавыя ўласцівасці яўрэйства, сюды адносяцца таксама асоба шырокая дабрачыннасць, выключна развітае пачуццё міласэрднасці („яўрэй афяруе заўсёды і ўсюды, нікому не адмаўляючы ў яго просьбе"), умеранасць у ежы, малая злачыннасць, „добрая традыцыя супружаскай вернасці ў яўрэйскіх жанчын" і інш. і інш. Асобае месца аддае Крэцмер характарыстыцы „яўрэйскіх" і „неяўрэйскіх хвароб"...

---

[1]) Жабацінскі В., Пісьмо аб аўтанамізме, Яўрэйскае жыццё, 1904 г., чэрвень, стар. 116-117.

[2]) Д-р М. Б. Крецмер, „Отличительные черты еврейской нации по данным антропологии, физиопсихологии и антропологии евреев", Двинск, 1904.

[3]) Там-жа, стар. 19.

Расісцкі маніфест Жабацінскага і брашура Крэцмера даюць прадстаўленне аб характары расавай прапаганды яўрэйскіх буржуазных нацыяналістаў і сіяністаў. Той-жа характар яна носіць у дзесятках іншых выступленняў.

Мы не будзем таму спыняцца на ўсіх гэтых шматлікіх выданнях, пачынаючы спецыяльным даследваннем Цольшана аб спецыфічнай культурнай каштоўнасці яўрэйскай нацыі, як носьбіткі духоўнай культуры чалавецтва, [1]) канчаючы расісцкімі практыкаваннямі Пасманніка ў „Еврейской энциклопедии" [2]).

Гэтыя выступленні адрозніваюцца адно ад другога толькі ступенню нацыяналістычнай ваяўнічасці, ступенню вульгарызацыі, навукавобразнасцю выкладання, шырынёй ахопленага матэрыяла і т. д. Сутнасць-жа іх адна і тая-ж— мы бачылі яе ўжо на прыкладзе расавай прапаганды іншых нацыянальнасцей — тупы, абмежаваны натуралізм у падыходзе да грамадскага жыцця, ідэалізацыя „сваіх" расавых уласцівасцей і проціпастаўленне іх уласцівасцям „чуждых", „ніжэйстаячых" рас, прапаганда расавага і нацыянальнага „адзінства"—у процівагу барацьбе класаў.

Я затрымаюся толькі на паказе таго, як яўрэйскія нацыяналісты прабавалі адстаяць свае расісцкія пазіцыі ў совецкіх умовах, а таксама на тым, як яны рэагуюць на выкарыстанне нямецкімі фашыстамі расізма ў якасці асноўнай зброі іх звярынага антысемітызма, іх разнузданай антысеміцкай палітыкі.

Пачну з першага.

Калі прыцягацельным цэнтрам для расістаў вялікадзяржаўнага толку аказаліся ў Совецкім саюзе „Русский Евгенический Журнал" і „Русский Антропологический Журнал", то ў якасці тэарэтычнага цэнтра яўрэйскіх расістаў трэба назваць зборнікі „Вопросы биологии и патологии евреев", якія выдаваліся „Яўрэйскім гісторыка-этнаграфічным таварыствам" у 1926—30 гг.

Адмяжоўваючыся на словах ад вульгарнага расізма, абвяшчаючы, што ім чужды пункт гледжання „віталістычнай прадвызначанасці", што яны будуць „строга навукова" і „аб'ектыўна" даследваць расу і нацыю, што яны нават будуць прытрымлівацца „матэрыялістычнага падыходу"— рэдактары зборнікаў, у сапраўднасці, ператварылі іх у тэарэтычны плацдарм яўрэйскай нацыяналістычнай інтэлігенцыі. Пераважная большасць удзельнікаў зборнікаў выходзіць з нязменнага, спадчынна-ўстойлівага яўрэйскага расавага біё-тыпу, базуецца ў сваіх разважаннях на той самай

---

[1]) Д-р И. Цольшан, Расовая проблема (с теоретическим обоснованием еврейского вопроса). Пер. д-ра М. Кобылинской, изд. „Современная проблемма", М., 1914.

[2]) „Еврейская энциклопедия", изд. Брокгауз-Ефрон, статьи.

„віталістычнай прадвызначанасці“, якую рэдакцыя зборнікаў слоўна асуджала, ігнаруючы, у пагоні за „расавай спецыфікай“ социяльна-класавыя фактары, робячы са сваіх эмпірычных матэрыялаў лёгкадумныя, навукова-неабгрунтаваныя, выпадковыя і адвольныя вывады, дыктуемыя голай расісцкай тэндэнцыяй... Вывады гэтыя мелі антысовецкі характар.

Трафарэт „навуковых даследванняў“, якімі запаўняліся „Вопросы биологии и патологии евреев“, нескладаны і аднастайны.

Абследуецца пэўная, большай часткай даволі нязначная, колькасць „яўрэяў“ і „неяўрэяў“ у разрэзе пэўнага захворвання, механічна супастаўляюцца атрыманыя лічбы, і на гэтай падставе ўстанаўляецца тая або іншая расава-паталагічная законамернасць.

Абследуецца, напрыклад, у Одэсе ў 1923 г. група падросткаў рабочых. Устанаўляецца, што сыпняком хварэла 42 проц. яўрэйскіх падросткаў і 35 проц. рускіх, што сярод яўрэяў было некалькі выпадкаў халерных захворванняў, а сярод 9 рускіх іх зусім не было і т. д. Следуе „навукова-абгрунтаваны“ вывад аб тым, што „яўрэі асабліва выдзяляюцца як сваей хваравітасцю, так і агульнай недаразвітасцю арганізма“ [1]).

Карыстаючыся той-жа „навуковай“ методыкай (у 1897 г. агульны паказальнік слепаты ў насельніцтва Одэсы 9,2%, а ў яўрэяў—9,8%; у 1920 г. адпаведна 10,2% і 10,8%), другі „даследвацель“ без лішніх акалічнасцей „абагульняе“: „З гэтых лічбаў можна заключыць: 1) каэфіцыент слепаты яўрэйскага насельніцтва вышэй, чым у іншага, 2) падзенне яго з цягам часу больш маруднае і 3) ён наогул аказваецца больш устойлівым, чым у іншага насельніцтва“ [2]).

Такім-жа прыкладна шляхам пастуліруецца, што „іх (яўрэяў—С. В.) фізічная арганізацыя з'яўляецца найгоршай у параўнанні з неяўрэямі (украінцы, рускія, немцы)“ [3]), што „нязначна ўступаючы неяўрэям па захворваемасці ганарэяй, яўрэйская моладзь радзей хварэе сіфілісам (у 2,2 разы). Мяккі шанкр у яўрэяў дае нязначную захворваемасць (у 6 разоў менш, чым у неяўрэяў)“ [4]) і т. д.

Так, награмаджаючы і калекцыяніруючы спецыфічныя расава-паталагічныя ўласцівасці яўрэяў, аб'яднаючы і сістэматызуючы іх, „Вопросы биологии и патологии евреев“

[1]) Патлахан М., Фізічны стан падросткаў-рабочых у 1923 г. „Вопросы биологии и патологии евреев“, зб. I, стар. 193.

[2]) Шмульян Л. П., Слепота среди евреев Одесщины, „Вопросы биологии и патологии евреев“, сб. I, стр. 163.

[3]) А. М. Габинский, Материалы к сравнительной характеристике физического развития еврейского населения Украины, „Вопросы биологии и патологии евреев“, сб. III, вып. II, стр. 105.

[4]) М. Э. Веркович, К вопросу о распространении венерических болезней среди городской еврейской молодежи, там-же, сб. II, стр. 97.

стваралі стандарт „віталістычна-прадвызначанага“, нязменнага, спадчынна-ўстойлівага расавага яўрэйскага біё-тыпу. Над доказамі „спецыфічнай рэзістэнтнасці яўрэйскай расы ў адносінах да туберкулёза“ „імуна-біялагічнай спецыфікі“ яўрэйскай расы і т. д., нямала папрацавалі нашы аўтары...

У пошуках расавай яўрэйскай самабытнасці яны даходзілі нават да прадастаўлення яўрэйскай расе манаполіі на некаторыя хваробы, як напрыклад, сямейна-амавратычная... ідыётыя або хвароба Тау-Salhs'a. Зарэгістраваныя ў медыцыне выпадкі паражэння гэтай хваробай неяўрэяў разглядаліся яе сумніцельныя па карціне хваробы, або-ж абгрунтаваныя на недастатковым анамнестычным расследванні, не ўлавіўшым яўрэйскага паходжання хворага...[1])

Для замацавання сваіх расісцкіх пазіцый, супрацоўнікі гэтага нацыяналістычнага выдання шырока прыбягалі да дапамогі таго „эластычнага“ сродка, які, як мы ведаем, у руках расавікоў і нацыяналістаў нязменна дае патрэбныя ім рэзультаты,—г. зн. даследванні крывяных груп. Пры гэтым усяляк падкрэслівалася „адкрытае“ праф. Рубашкіным на старонках гэтага-ж выдання ўласцівае быццам яўрэям „імкненне да захавання сваей уласнай расавай сералагічнай асаблівасці, якая выяўляецца ва ўтрыманні больш высокага паказальніка, чым акружаючая народнасць“.[2])

Пры знаёмстве з „Вопросами биологии и патологии евреев“ спачатку здзіўляе тая акалічнасць, што яны ў такім багацці ўзнагароджваюць яўрэйскую расу фізічнай дэфектыўнасцю і ўсякага роду паталагічнымі з'явамі. Але хутка робіцца зразумелым, што гэта ажыццяўляецца ў плане класічнай формулы д-ра Крэцмера, якую мы прыводзілі: „у замяшчэнне цялеснага недаразвіцця яўрэям уласціва вялікая разумовая развітасць“. На старонках зборнікаў гэта „формула“ набывае менш каравы выгляд, яе стараюцца зрабіць больш сучаснай, „навука - падобнай“ размовамі аб дысгармоніі паміж саматычнай і нервова-псіхічнай сферай яўрэяў і т. д. Але змест яе цалкам захоўваецца: „Цела—мізэрнае, з драблымі, вялымі мышцамі, са зменены недаяданнем, рахітам і іншымі авітамінозамі або рознымі дыятэзамі, косным шкілетам, з выбітай з законнай роўнавагі вегетатыўнай нервовай сістэмай, цела—прыкаванае, парабашчонае гето, чартой аседласці, каменным горадам або ярмом яўрэйскага мястэчка—і дух—вольны, няіставы, неўгамонны, які вечна хвалюецца, мечацца, які вечна шукае, вечна імкнецца і часта ўзносіцца ў высь—вось правобраз яўрэй-

[1]) Л. Я. Рохлин и Р. Х. Рохлина, Семейно-амавротическая идиотия—болезни Тау-Salhs'a, „Вопросы биологии и патологии евреев“, сб. II, стр. 39—51.

[2]) Проф. П. Рубашкин, Группы крови вантропологии, там-же, стр. 21.

скага народу“ [1]). Такімі нацыяналістычнымі адкравеннямі „ўзбагачалі“ сусветную навуку некаторыя совецкія дацэнты ў пошуках „расавага спецыфікума“ яўрэяў.

Мы далей думаем не прадаўжаць прагулкі па гэтых расісцкіх садах. Праўда, у іх можна было знайсці яшчэ нямала шавіністычных кветак і ягадак. Чаго варта, напрыклад, гэтакае ізрачэнне —яўрэйскі паэт Бялік гаворыць, што „яўрэйская кроў заўсёды была змазачным маслам у калясе рускай гісторыі“. Ён пераўмяншае—не ў калясе рускай гісторыі, а гісторыі ўсяго чалавецтва“ [2]). Або-ж такі паклёпніцкі наскок на становішча яўрэйскіх працоўных мас у Совецкім саюзе:

„... Яўрэйская маса аказалася па-за новай эканомікай Совецкай Расіі, яна аказалася пры паўнаце грамадзянскіх правоў—эканамічна бездапаможнай у ладзе класавай, працоўнай, вытворчай Расіі. Асноўная яўрэйская маса, пазбаўленая эканамічнай, матэрыяльнай базы, аказалася у становішчы „беспрацоўнай“. Яўрэйская маса ўступіла ў фазу хранічнага галадання з усімі выцякаючымі з гэтага вынікамі біялагічнага і паталагічнага характару“ [3]). І пісалася гэта тады, калі совецкі ўрад, ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, дабіўся ўжо велізарных поспехаў у справе ўцягнення працоўных яўрэйскіх мас у прадукцыйную працу, іх прыабшчэння да земляробства, іх фізічнага аздараўлення, ў справе развіцця яўрэйскай пролетарскай культуры!...

Нацыяналістычная фізіяномія і класавае аблічча яўрэйскіх расістаў—родных братоў расістаў вялікарускіх, украінскіх, беларускіх і іншых, нам дастаткова ясна.

Для больш поўнай характарыстыкі расісцкіх пазіцый яўрэйскіх нацыяналістаў не будзе лішнім азнаёміцца яшчэ з тым, як яны абаранялі гэтыя пазіцыі перад тварам бурна растучай расісцкай прапаганды германскіх фашыстаў, зрабіўшых яе асноўнай зброяй свайго звярынага антысемітызма.

Яўрэйскія расісты мелі ў Германіі свой тэарэтычны орган „Ose-Rundschau“, да рэчы сказаць публікаваўшы ў значнай ступені тыя-ж артыкулы, якія друкаваліся ў „Сборниках биологии и патологии евреев“, з той толькі розніцай, што ў іх захоўваліся найбольш шавіністычныя „перлы“, якія рэдакцыя „зборнікаў“, відавочна, не лічыла мэтазгодным дэманстраваць ва ўмовах пролетарскай дыктатуры.

„Ose-Rundschau“ не лічыў патрэбным чым-небудзь рэагаваць на шалёную фашысцкую прапаганду гітлераўцаў,

---

[1]) Приват-доцент В. М. Коган-Ясный, Патология эндокринной системы у евреев, там-же, сб. III, вып. I, стр. 5.

[2]) Там-жа.

[3]) Вопросы биологии и патологии, сб. 1, (О задачах „научных сборников“ „Вопросы биологии и патологии евреев“, сб. 1, стр. 4).

абвяшчаўшых яўрэяў „недачалавекамі“, расавай помессю другога парадку“, „паразітамі на целе чалавецтва“, прыдаваўшых сваім „расаведчым працам“ навука-падобную форму дзікім вымыслам царскіх чорнасоценцаў і пагромшчыкаў... Яўрэйскія расісты адказвалі на гэта толькі тым, што ўзмоцнена распрацоўвалі на старонках „Ose-Rundschau“ расавыя доблесці яўрэяў, карыстаючыся тымі-ж традыцыйнымі прыёмамі, якія, як мы бачылі, шырока прымянялі „Вопросы биологии и патологии“. Разам з тым яны аднаўлялі на сваіх старонках усе найбольш тыповыя рысы расісцкай прапаганды фашыстаў, з той толькі розніцай, што аднасімае Гюнтэрамі і Ленцамі да германцаў, яны адносяць да яўрэяў. Яны з большай актыўнасцю насаджаюць „біялагічнае светасузіранне“, у духу вульгарнага натуралізма падыходзяць да грамадскіх з'яў, нястомна б'юць трывогу з поваду змяншэння шлюбнасці сярод яўрэяў, падзення нараджаемасці сярод іх, вышукваюць спосабы ажыццяўлення „яўрэйскай дэмаграфічнай палітыкі“, рысуюць тыя жахі, якія пасцігнуць „нямецкае яўрэйства“, калі яно быстра і рашуча не ажыццявіць разумную расавую „яўрэйскую палітыку народанасялення“ і т. д. У той час, як фашысты абвяшчаюць прычынай „выраджэння нямецкага народу“ забруджанне яго расавай чыстаты яўрэямі, дэмагагічна крычаць аб тым, што змешаныя шлюбы з яўрэямі прывялі „нямецкае чалавецтва“ на край гібелі і т. д., яўрэйскія расіствуючыя нацыяналісты б'юць ім чалом іх-жа дабром. Яны з вялікай запальчывасцю даказваюць, што яўрэйскі народ выраджаецца ў рэзультаце таго, што ён парушае сваю векавую расавую чыстату, дапускаючы шлюбы з немцамі, што змяншэнне шлюбнасці і падзенне нараджаемасці сярод яўрэяў з'яўляюцца рэзультатам дрэннага ўплыву на іх немцаў, што неабходна вызваленне з пад гэтага ўплыву і т. д. і т. д. Расісцкая аргументацыя Гюнтэраў, Ленцаў і Базлераў аднаўляецца па свайму Каральнікам, Бірнбаумам, Тэйльгаберам і іншымі „тэарэтыкамі“ яўрэйскага расізма. Адбываецца толькі „пераадрасоўка“ папрокаў, абвінавацца і абвінавачваемы мяняюць месцы.

Найбольш ярка гэта акалічнасць выявілася ў вядомай кнізе Фрытц Кана „Die Juden als Rasse und Kulturvolk“, прэтэндуючай, так сказаць, быць генеральным звядзеннем рахункаў яўрэйскіх нацыяналістаў з германскімі расіствуючымі антысемітамі [1]).

Кніга Кана мае старонкі, дасціпна і зло крытыкуючыя маніякальныя ідэі фашысцкіх расістаў аб арыйскім ізбранніцтве германцаў, аб паўночнай расе, як аб тварцы ўсіх

[1]) Fritz Cahn, Die Juden als Rasse und Kulturvolk, Berlin, 1930.

сусветных культурных каштоўнасцей, выкрываючыя навуковую неабгрунтаванасць іх расавых прэтэнзій і т. д.

Але дзейнічаючы па залатому правілу буржуазных нацыяналістаў—„зло гэта, калі бліжні крадзе маю жонку, а дабро гэта, калі я краду жонку бліжняга свайго“—Фрытц Кан спявае расавым доблесцям яўрэйскага народу панегірыкі, складзеныя ў духу тых, якія ён высмейваў, гаворачы аб фашысцкіх антысемітах...

Ён падрабязна даказвае, што „дакласічныя культуры сяродземнаморскіх краін: эгейская—Грэцыі, этруская—Італіі, іберыйская—Іспаніі, карфагенская—у Афрыцы былі семітычнымі культурамі або вырасшымі на глебе семітычнай каланізацыі“ [1]). Ён устанаўляе, што яўрэі—адзіны з культурных народаў старажытнасці, які ўтрымаў да нашых дзён сваю „спецыфічную своеасаблівасць“ [2]). Ён сцвярджае, што яўрэі ствараюць не ведаючае гістарычных аналогій „антрапалагічна-культуралагічнае адзінства“, дастойнае найменавання расы ў вышэйшым гістарычным сэнсе гэтага слова [3]). З энергіяй усякага расавага пурыста ён выступае супроць таго, каб з чыстай яўрэйскай расай блыталі ўсякага роду празеліцкія народнасці накшталт іеменскіх або каўказскіх яўрэяў, якія з'яўляюцца толькі расава-няпоўнацэннымі яўрэйскімі іеменамі, яўрэйскімі каўказцамі і т. д. Яўрэй уладае сваімі чыста-расавымі ўласцівасцямі ўне залежнасці ад таго „ці шэствуе ён у цыліндры па лонданскай біржы, або ходзіць у кафтане па польскаму базару, ці едзе ён у прэрыях Аргентыны на сваім кані, або пад сонцам Афрыкі на вярблюдзе“ [4]). Гэтыя ўласцівасці вызначаюцца яго спецыфічнымі антрапалагічнымі задаткамі.

Кан выступае рашучым праціўнікам ідэі роўнацэннасці рас[5]). Ён не можа прызнаць яўрэйскую расу роўнацэннай іншым, бо гэта раса, даўшая свету „постулат этычнага манатэізма“, бо гэта раса, прынёсшая свету біблію, якая на працягу тысячагоддзяў з'яўляецца невычарпальнай крыніцай духоўнага бальзама для народных мас. Яўрэйскі нацыяналіст наладжвае арыйскім антысемітам „допыт з прыстрасцем“. Ён дапытвае іх, што яны могуць супроцьпаставіць гэтаму тварэнню яўрэйскага нацыянальнага генія... Платона, якога з 50.000 немцаў чытае 3 чалавекі і разумее 1? Канта, чыя „Крытыка чыстага розуму“ застаецца для народу містэрыяй? Хіба ўся германская літаратура ад песні Гільдэрбранда да Заратустры аказала на нямецкі народ, на

---

[1]) Fritz Cahn, Die Juden als Rasse und Kulturvolk, Berlin, 1930, S. 104.
[2]) Там-жа, стар. 146.
[3]) Там-жа, стар. 162.
[4]) Там-жа, стар. 163.
[5]) Там-жа стар. 209.

яго арыйскі дух уплыў, хоць аддалена нагадваючы той, які на яго мела гэта яўрэйская кніга? [1])

Яўрэйскі расавы і нацыянальны геній—гэта не геній розуму, вока або рукі, як гэта мае месца ў другіх народаў. Яўрэйскі геній —гэта геній душы, геній сэрца. Яўрэйства тройчы явіла яго свету. Упершыню гэта было каля $3^1/_2$ тысяч год назад у вобразе „першага абвяшчальніка чалавечых правоў у гісторыі чалавецтва"—Майсея. Другі раз—каля 2000 год назад—у вобразе велізарнейшага прадстаўніка „этычнага манатэізма пракракаў"—Ісуса Хрыста. І, нарэшце звязда Віфлеема паўторна ўзышла над светам з-за дахаў Іудзеі—у вобразе Карла Маркса...[2]) Геніяльныя прадстаўнікі гэтай спецыфічна яўрэйскай адаронасці—фігуры пракракаў і апосталаў, з чыіх радоў, як найвышэйшае ўвасабленне яўрэйскай сутнасці і волі, падымаецца тып вызваліцеля, які яўрэйскі народ тройчы падараваў чалавецтву, у трох эпохах яго гісторыі: Майсей, Хрыстос, Маркс...[3])

Вось узоры той „крытыкі", якую яўрэйскія буржуазныя нацыяналісты разгортваюць у сваіх схватках з расавым антысемітызмам. Гэта крытыка, як мы бачым, не выходзіць за межы нацыяналістычных лаянак і нацыяналістычнай грызні, якая толькі і магчыма пры адзінай класавай глебе, на якой знаходзяцца абодва бакі. Аб тым, якімі кур'ёзамі суправаджаецца часамі гэта перабранка, паказвае той факт, што ў пошуках аргументаў буржуазны яўрэйскі нацыяналіст рашаецца і на такі „адчайны крок", як уключэнне ў лік аб'ектаў сваей нацыянальнай гордасці і імя асновапаложніка навуковага комунізма... Прылічваючы Маркса да „ліку святых" яўрэйскага нацыяналізма, паны імкнуцца затушаваць яго рэволюцыйную ролю для справы сусветнага пролетарыята.

Побач з тымі прыёмамі палемікі з расавымі вымысламі фашыстаў, з якімі мы азнаёміліся па кнізе Кана і якія характарызуюць у асноўным пазіцыі яўрэйскіх нацыяналістаў, трэба адзначыць, што частка з іх прыбягае і да іншых прыёмаў палемікі. Яны сцвярджаюць, што наогул няма ніякай адзінай яўрэйскай расы, што яўрэйская нацыя складаецца з раду рас і што таму рысы, характарызуючыя адну яўрэйскую расу, не маюць адносін да другой яўрэйскай расы. Так, напрыклад паступае Саламон Чартковер—аўтар артыкула „З даследванняў расавай праблемы яўрэяў", надрукаванага ў № 6 „Яўрэйскага штомесячніка" за 1934 г.[4]), які выдаецца ў Польшчы.

---

[1]) Fritz Cahn, Die Juden als Rasse und Kulturvolk, Berlin, 1930, S. 171.
[2]) Там-жа, стар. 184—200.
[3]) Там-жа, стар. 203.
[4]) Solomon Czortkower, Z badań nad problemami rasowemi żydów, Miesięcznik Żydowski, 1934, № 6, st. 543.

Чартковер сцвярджае, што сучаснае яўрэйства характарызуецца прыналежнасцю да пяці розных рас (усходняй, сярэдземнаморскай, армянскай, паўночнай, лапландскай) і налічвае ў сваім асяроддзі дзесяць антрапалагічных тыпаў[1]). Такім чынам расавая структура адных груп яўрэяў рэзка адрозніваецца ад другіх груп. „Літоўскія яўрэі, да якіх з XVII века набліжаюцца чэшскія, адрозніваюцца ад варшаўскіх яўрэяў; абедзве гэтыя групы адрозніваюцца ад львоўскіх яўрэяў, студэнтаў універсітэта. Дзіўнай антрапалагічнай фармацыяй адзначаюцца амерыканскія яўрэі, студэнты з Гецінгена і т. д., і т. д.“[2])

Адмаўленне некаторымі яўрэйскімі нацыяналістамі адзінасці яўрэйскай расы, вядома, нічога агульнага не мае з прызнаннем класавага расслаення яўрэяў—яго сэнс у сцверджанні таго, што калі частка яўрэяў уладае адмоўнымі расавымі ўласцівасцямі, то не трэба пашыраць гэтых уласцівасцей на ўсіх яўрэяў, бо яўрэй, моў, яўрэю розь у расавых адносінах... Гэта толькі грызня ўнутры лагера буржуазных нацыяналістаў. Аб тым, якія яна часамі прымае формы, паказвае цікавае паведамленне, змешчанае ў польска-яўрэйскім друку ў канцы лістапада 1934 г. аб тым, што „на працягу некалькіх тыдняў у Сефардзійскай прэсе ў Салоніках вядзецца жорсткая дыскусія на тэму: „Сефардзім і ашкіназім“[3]). Частка сефардзійскіх публіцыстаў,—піша яўрэйская буржуазная газета „Haint“,—знайшла цяперашні час найбольш зручным для ўзняцця спрэчкі: якія яўрэі лепш—„сефардзійскія ці германскія“.

Былі ўжо выказаны з гэтага поваду розныя думкі. Але артыкул сефардзійскага публіцыста, які з'явіўся гэтымі днямі ў Салоніках у газеце „Аксіон“, зрабіў моцнае ўражанне і выклікаў пратэсты грамадскасці. Аўтар гэтага артыкула Самуіл Седзі Галейві ў сваім захапленні сефардзійскім нацыяналізмам, гаворыць наступнае: „Ашкіназім—арыйцы, а мы—лацінцы, мы належым, значыцца, не толькі к двум розным народам, але і к двум процілеглым расам“. І гэты новаспечаны расавы тэарэтык у сваіх далейшых вымыслах прыходзіць да заключэння, што ашкіназім і сефардзім таксама адрозніваюцца па сваей унутраной сутнасці—псіхалогіі, маралі. Сефардзімы стаяць непамерна вышэй ашкіназімаў па маралі і этыцы; яны нраўственныя, чэсныя, энергічныя і т. д.

---

[1]) Solomon Czortkower, Z badań nad problemami rasowemy żydów, Miesięcznik Żydowski, 1934, № 6, st. 542.

[2]) Там-жа, стар. 546.

[3]) Сефардзімы — патомкі яўрэяў, выгнаных з Іспаніі і Партугаліі, гэтым-жа імем абазначаюць яўрэяў алжырскіх, мароканскіх, турэцкіх, балгарскіх, грэчаскіх. Ашканазім—яўрэі германскія, польскія, румынскія, рускія і інш.

У той-жа час, як ашкіназім прадстаўляе сабою прамую процілегласць [1]).

Такія „эпізоды“ нацыяналістычнай грызні расістаў, якія адлюстроўваюць барацьбу буржуазных нацыяналістаў за ўплыў на масы.

Побач з расізмам вялікадзяржаўніцкім, мы на прыкладзе беларускага і яўрэйскага нацыяналізмаў азнаёміліся з тым, як буржуазныя нацыяналісты раней прыгнечаных нацый карыстаюцца расавымі тэорыямі ў сваіх мэтах...

Гэта знаёмства можна было прадоўжыць і на прыкладзе іншых нацыянальнасцей. Але ў гэтым няма патрэбы. Аргументацыя, методыка, прыёмы, тэндэнцыі тут трафарэтны і аднастайны да крайнасці...

У вывадах толькі замяняюцца назвы: „... месца таджыкаў, значыцца, паміж альпійцамі і паўночнымі еўрапейцамі (пад апошнімі, відавочна, трэба падразумеваць тут тып шатландцаў). Калі лічыць магчымым па дыяметру чэрапа меркаваць аб ёмкасці чэрапа, то з усіх груп таджыкі займаюць самае выгаднае становішча: ёмкасць іх чэрапа павінна быць больш, чым у якога-небудзь іншага народу“...[2])

Або:

„... Сваны па групавой характарыстыцы займаюць асобае становішча сярод іншых каўказскіх народаў, паколькі аб гэтым можна меркаваць па параўнаўча малой колькасці даследванняў. Біялагічны расавы індэкс сванаў прыблізна ровен індэксу англічан і ламбардцаў“[3]).

Тыя-ж нязменныя псеўда-навуковыя прадпасылкі, тая-ж нацыяналістычная кічлівасць сваей расавай адборнасцю, тая-ж пагоня за „знатнымі сваякамі“ з „вышэйшых рас“.

Карціна нам ужо даволі знаёмая і даволі павучальная...

---

[1]) Газета „Haint“ № 26), Варшава, 22/XI-1934 г.

[2]) Цимерман С., „К антропологии таджиков“, Русский антропологический журнал, 1927, т. XV, вып. 3-4.

[3]) Федотова А. М., Групповая характеристика сванов (Русский антропологический журнал, 1930, т. XIX, вып. 1-2).

## ЗМАГАЦЦА З РАСАВЫМІ ТЭОРЫЯМІ

Расавыя тэорыі прадстаўляюць сабою, як мы ў гэтым маглі пераканацца, магутны дэмагагічны сродак у руках эксплуатататарскіх класаў капіталістычных краін, прыбягаючых для стрымання сваей расхістанай улады да фашысцкіх метадаў адкрытай тэрарыстычнай дыктатуры, камбінуемай з нястрыманай соцыяльнай дэмагогіяй.

Гэтыя тэорыі служылі таксама сваю службу класавstatic варожым элементам у іх барацьбе з пролетарскай дыктатурай. З дапамогай гэтых тэорый прабавалі памешчыкі і капіталісты царскай Расіі „асвяціць“ вялікадзяржаўніцкую палітыку рускага ваенна-феадальнага імперыялізма, санкцыянаваць каланіяльныя грабяжы і захваты, практыкуемыя і праектуемыя царызмам, апраўдаць палітыку гвалтоўнай асіміляцыі і жорсткага нацыянальнага прыгнечання пануючымі класамі вялікарускай нацыянальнасці соцень нацыянальнасцей, уваходзіўшых у склад Расійскай імперыі.

Астаткі і паследышы гэтых класаў, на-галаву разбітыя пролетарыятам у Кастрычніку, разгромленыя ў грамадзянскай вайне, прабуючы аднавіць тыя пазіцыі панавання, якіх іх пазбавіла Кастрычніцкая рэволюцыя, усялякімі спосабамі прабавалі насадзіць вялікадзяржаўны шавінізм, узрадзіць нацыянальную варожасць, падарваць такім чынам інтэрнацыянальнае адзінства працоўных. Расавыя тэорыі аказаліся ў іх руках сродкам навукападобнага „абгрунтавання“ і папулярызацыі сваіх вялікадзяржаўніцкіх прыцязанняў, свайго імкнення да рэстаўрацыі страчаных прывілеяў. Але расавыя тэорыі аказаліся настолькі „эластычнымі“, у такой ступені ўладаючымі ўласцівасцямі прыстасавальнасці, што іх не бясплодна „прыстасоўвалі“ да сваіх класавых мэтаў і астаткі пануючых класаў, прыгнятаўшыхся царызмам нацыянальнасцей. Мы бачылі, як расісцкія ідэі служылі службу ідэалогіі нацыянальнай замкнутасці, ізаляцыі ад інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва народаў, стварыўшых Совецкі саюз, адрыву ад краіны пролетарскай дыктатуры, стварэння дробных буржуазных дзяржаў, пастаўленых у каланіяльную залежнасць ад заходне-еўрапейскага імперыялізма.

Такім чынам у нас ёсць усе падставы лічыць расавыя тэорыі, якія па слову тав. Сталіна таксама далёкі ад праўды,

як неба ад зямлі, важнейшай ідэалагічнай зброяй у руках эксплуататарскіх класаў, насаджаючых у процівагу пролетарскаму інтэрнацыяналізму свой буржуазны нацыяналізм.

Выкрыццё вульгарна-біялагічнай метафізікі расавых шавіністаў і іх дапаможнікаў з'яўляецца адной з важных задач нашай барацьбы на ідэалагічным фронце. Гэта задача патрабуе нашай увагі, паколькі паняцце расы становіцца важнейшай зброяй ваяўнічага нацыяналізма сучаснай буржуазіі. Буржуазія загніваючага капіталізма прабуе выкарыстаць некаторыя прыродна-навуковыя факты для таго, каб фальсіфікуючы іх і механічна пераносячы іх у грамадскае жыццё стварыць містыку расы,—містыку, якой у справе адурманьвання мас і зацямнення іх класавай свядомасці адводзіцца роля занепадаючай рэлігіі.

Раса, містычны культ якой ствараецца фашыстамі, прадстаўляе сабой нязменную, устойлівую, раз і назаўсёды даную супольнасць. Мы ведаем і даказваем, што гэта метафізічная сутнасць ёсць рэзультат антынавуковых, шарлатанскіх выдумак некаторых буржуазных тэарэтыкаў.

Марксізм-ленінізм не адмаўляе існавання рас. Было-б спрашчэнствам „лявацкае“ адмаўленне ў асяроддзі чалавецтва расавых розніц, на факт якіх не раз указвалі асновапалажнікі навуковага комунізма, а таксама Ленін і Сталін. Вядома, што Маркс адносіць расу да ліку тых прыродных фактараў, якія ўплываюць на развіццё грамадскай вытворчасці. „Калі мы адцягнем увагу ад большай або меншай ступені развіцця грамадскай вытворчасці,—гаворыць Маркс у „Капітале“, — то прадукцыйнасть працы акажацца звязанай з прыроднымі ўмовамі. Гэтыя апошнія могуць быць цалкам зведзены (Sind alle zurückführbar) да прыроды самога чалавека, да яго расы і т. д. і да акружаючай яго прыроды“[1]). Такім чынам мы маем пэўнае ўказанне Маркса, што раса з'яўляецца праяўленнем прыроды чалавека і прадстаўляе сабой адну з натуральных умоў развіцця грамадскай вытворчасці. У трэцім томе „Капітала“ Маркс падкрэсліваў значэнне, у ліку іншых, і гэтай умовы грамадскага развіцця. Ён гаворыць: „Адна і тая-ж аднолькавая па галоўных умовах гаспадарчая аснова можа, дзякуючы розным эмпірычным акалічнасцям, прыродным умовам, расавым асаблівасцям, гістарычным уплывам, дзейнічаючым звонку, праяўляцца ў бязлікіх зменах і пераходах, якія можна ўразумець толькі праз аналіз даных акалічаасцей“[2]). Наконт гэтага ёсць і надзвычайна важнае ўказанне Энгельса ў яго вядомым пісьме да Штаркенберга ад 25-га студзеня 1894 г. „Мы

---

[1]) Karl Marx, Das Kapital, Zehnte Aufl., Meissners Verl., Erster Band, S. 476.

[2]) Das Kapital, Dritter Band, S. 259.

лічым,—піша Энгельс у сваім пісьме,—што „эканамічныя ўмовы абумоўліваюць у апошнім ліку гістарычнае развіццё. Але раса з'яўляецца сама эканамічным фактарам". Мы бачым, што асновапаложнікі навуковага комунізма ніколькі не ігнаравалі факта расавых адрозненняў чалавецтва і ролі расы ў развіцці гаспадарчага жыцця. Але марксісцкі падыход да расы—гэта падыход дыялектыка-матэрыялістычны, канкрэтна-гістарычны. Раса прадстаўляе сабой праяўленне чалавечай прыроды, але ўздзейнічаючы на знешнюю прыроду, чалавек таксама змяняе і сваю ўласную прыроду. Заўсёды змяняючыся, спосаб вытворчасці змяняе і самога грамадскага чалавека. Новыя грамадскія адносіны нараджаюць новыя ўласцівасці чалавека. Адносіны-ж гэтыя мяняюцца з развіццём прадукцыйных сіл.

Месца пасіўнай і біялагічнай прыстасавальнасці к прыродзе, ажыццяўляемай усімі жывёламі, у чалавека займае прыстасавальнасць актыўная і тэхналагічная. Таму, калі жывёльная раса, дапасоўваючыся да акружаючага і ўстойлівага прыроднага асяроддзя, прадстаўляе сабой адносна пастаянную велічыню, то прынцыповае, якаснае адрозненне ад яе чалавечай расы ў тым, што апошняя з'яўляецца велічынёй зменнай, развіццё якой з тых часоў, як чалавек вышаў з першабытнага стану, калі ён па вядомаму слову Маркса хадзіў „на помачах" у прыроды, вызначаецца грамадскімі адносінамі...

Такім чынам раса, якую фашысты паказваюць, як нейкую гістарычна-ўстойлівую, нязменную, статычную катэгорыю, у сапраўднасці прадстаўляе сабой зменлівую супольнасць, дынаміка змен якой абумоўлена развіццём грамадскіх адносін. Гэтага факта будзе досыць для таго, каб разбурыць увесь будынак фашысцкага расазнаўства, бо, іменна, па спадчыне перадаваемая расавая ўстойлівасць з'яўляецца краевугольным камнем гэтага будынка.

Маркс-Энгельс указваюць, што „першая прадпасылка чалавечай гісторыі—гэта натуральнае існаванне жывых чалавечых індывідумаў. Першы канкрэтны факт, які павінен быць устаноўлен,—гэта цялесная арганізацыя гэтых індывідумаў і абумоўленыя ёю іх адносіны да астатняй прыроды"[1]).

Раса прадстаўляе сабой натуральна створаную супольнасць людзей, уладаючых радам спадчынна-перадаваемых уласцівасцей цялеснай арганізацыі. У гэтым сэнсе маецца прынцыповая розніца паміж расай і такой гістарычнай катэгорыяй, як нацыя. Вось чаму тав. Сталін у сваей рабоце „Марксізм і нацыянальнае пытанне" асабліва падкрэсліў,

---

[1]) Marx-Engels, Gesamtausgabe, Erste Abteilung, Band 5, Die Deutsche Ideologie, S. 10.

што „нацыя—не расавая і не племенная, а гістарычна склаўшаяся супольнасць людзей". Але аб расе, якая з'яўляецца натуральна ўзнікшай катэгорыяй, можна смела сказаць словамі тав. Сталіна, накіраванымі к паняццю нацыянальнага характару, што гэта катэгорыя „не ёсць нешта раз назаўсёды данае, а змяняецца разам з умовамі жыцця". З развіццём грамадскіх адносін, з узнікненнем класаў і ператварэннем гісторыі чалавечага грамадства ў гісторыю класавай барацьбы расавыя ўласцівасці выступаюць як велічыня, падпарадкаваная прынцыпу спецыфічнай грамадскай законамернасці. Унутраная законамернасць грамадскіх адносін з'яўляецца сілай, якая вызначае ўсё гістарычнае развіццё. У дыялектычным адзінстве прыроды і грамадства вядучая роля належыць грамадству, грамадскаму жыццю, грамадскім законамернасцям. Ажыццяўляецца тое, што Маркс—Энгельс у „Немецкой идеологии" называюць пераўтварэннем прыроды ходам гісторыі (geschichtliche Modifizierung der Natur)[1]. У цікавячай нас цяпер галіне гэта азначае, што прыродныя расавыя ўласцівасці пэўных чалавечых груп не могуць растлумачыць гістарычнага развіцця гэтых груп. Калі раса прадстаўляе сабой устойлівую супольнасць фізічных і духоўных, спадчынна-перадаваемых уласцівасцей, якой не паказваюць буржуазныя расісты, то чым тлумачацца змены, характарызуючыя гістарычны лёс данай расы, чым можа быць вытлумачана ўся дынаміка яе гістарычнага развіцця? Фашысцкія расаведы не маюць магчымасці даць на гэта пытанне іншага адказу, чым трафарэтнага, пазбаўленага ўсякага рэальнага зместа адказу іх непасрэдных папярэднікаў— „гэта тлумачыцца ўласцівасцямі рас". Але гэты адказ настолькі-ж пераконваючы і навукова-абгрунтаваны, як скажам, спасыланне на волю боскую...

Сцвярджаць, што гістарычны працэс развіваецца без усякай залежнасці ад характару грамадскай працы, што ён не залежыць ад стану прадукцыйных сіл, ад вытворчых адносін, што складаюцца на іх аснове, што ён не абумоўлен ходам класавай барацьбы, а расавымі ўласцівасцямі, матэрыялізаванымі ў крыві і сперме рас,—гэта значыць быць невукам або машэнікам. Сярод фашысцкіх расаведаў маецца дастатковая колькасць і тых, і іншых. Нярэдка-ж яны спалучаюць у сабе гэтыя абедзве ніколькі не расавыя „ўласцівасці"...

Яны бяссільны хоць як-небудзь адказаць на простае і яснае пытанне: калі данай расе „ўроджаны" фізічныя і духоўныя ўласцівасці, што прадвызначаюць увесь гістарычны лёс, то як-жа тлумачыць, што расы, якія абвяшчаюцца вамі „натуральна-нядздольнымі" да аўладання куль-

[1]) Marx—Engels, Die Deutsche Ideologie, S. 20.

турай, „па прыродзе малацэннымі“ і г. д., што гэтыя расы на пэўных ступенях гістарычнага развіцця стваралі велізарную і каштоўную цывілізацыю, чаго не могуць скрыць, скажам, адносна „жоўтай“ або „чорнай“ расы вашы-ж класавыя пабрацімцы, буржуазныя гісторыкі?..

Замест адказу фашысцкія расісты спрабуюць спекуляваць на створанай імі метафізічнай фікцыі „чыстай расы“. Наколькі містычна і неўлавіма гэта „чыстая раса“ паказвае той факт, што расісты не маюць магчымасці стварыць колькі-небудзь агульнапрынятай нават у іх асяроддзі сістэматыкі і класіфікацыі рас. І таму поглядаў аб колькасці „чыстых рас“ бадай столькі-ж, колькі буржуазных вучоных, выказваючых гэтыя думкі. Так, паводле Кюв'е, існуюць тры расы; па Сент Ілеру—чатыры; па Брынтону і Блюменбаху—пяць; па Эрэнрэйху—сем; па Гекелю—дванаццаць; па Дэмулену—шаснаццаць; па Дэнікеру—трыццаць і т. д. і т. д.[1])

Гістарычнае развіццё чалавецтва абумовіла самае шырокае змешванне розных расавых тыпаў. Масавае скрыжаванне рас у працэсе іх гаспадарчых суадносін, у працэсе войн, у працэсе ўсё ўзмацняючайся інтэрнацыяналізацыі сусветных сувязей ператварыла паняцце „чыстай расы“ ў фікцыю. Гэтага не могуць адмаўляць нават і тыя буржуазныя вучоныя, якія не рызыкуюць выступаць у ролі свядомых шарлатанаў. Нават і яны вымушаны прызнаць, што „чыстыя расы“ даўно ўжо не з'яўляюцца рэальна існуючай катэгорыяй. Гэта—катэгорыя містычная, ілюзія выключнага значэння якой для ўсяго гістарычнага працэсу свядома насаджаецца ў інтарэсах фінансавага капітала яго тэарэтычнымі прыслужнікамі.

Тэарэтычная прымітыўнасць расізма, яго навуковае ўбоства, узаемныя ізаблічэнні расістаў і іх нацыяналістычныя лаянкі, іх шытая белымі ніткамі дэмагогія—усё гэта значна аблягчае задачу крытыкі. Выкрываць тут у большасці выпадкаў азначае дэманстраваць. Тут прыходзіцца не столькі даказваць, колькі паказваць.

Марксізм-ленінізм не адмаўляе, як мы ўжо гаварылі, расавых розніц у асяроддзі чалавецтва. Мы толькі выкрываем тое злоўжыванне, якое з гэтага факта робяць буржуазныя нацыяналісты, даказваем яго найглыбейшую антынавуковасць і ўскрываем яго класавыя карэнні.

Мы выкрываем вульгарную метафізіку расавых шавіністаў, негрунтоўнасць іх спроб механічна перанесці ў грамадскае жыццё біялагічныя законамернасці, іх сціранне граней паміж з'явамі прыроды і грамадства. Мы выкры-

[1]) D-r W. Scheidt, Algemeine Rassenkunde, Lehman's Verl., München, 1925, S. 72. u ff.

ваем негрунтоўнасць расісцкіх вучэнняў аб „чыстаце расы“ аб яе нязменных, стабільных спадчынна-кансервуемых уласцівасцях, аб рэзкім і ўстойлівым размежаванні рас.

Мы паказваем, што імкненне растлумачыць гістарычны працэс, як рэзультат расавых прыцяжэнняў і адштурхванняў, як прадукт расавых уласцівасцей, — з'яўляецца антынавуковай, супярэчачай сапраўднасці, шарлатанскай спробай падмяніць тэорыю класавай барацьбы містыкай „крыві і спермы“. Мы, нарэшце, устанаўляем, што тая дэмагагічная шуміха, якую расісцкія тэарэтыкі ўзнімаюць вакол „расавай асновы чалавечай гісторыі“, з'яўляецца спекуляцыяй на фікцыі, якую яны свядома насаджваюць у інтарэсах капітала, у мэтах аблягчэння яго барацьбы з усё больш грозна ўзнімаючайся пролетарскай рэволюцыяй у краінах, дзе буржуазія яшчэ ўтрымлівае ўладу, і барацьбы з пролетарскай дыктатурай там, дзе ўлада ўжо вырвана з яе рук.

Гэтыя паны спрабуюць дэмагагічна „падмяніць“ аб'ектыўныя гістарычныя законы, якія нясуць гібель буржуазіі, паказваюць неабходнасць пролетарскай рэволюцыі і замены капіталістычнага ладу соцыялістычным, чорнай магіяй фашысцкага расазнаўства. Расісцкія мракабесы спрабуюць унушыць масам, што духоўная цэннасць чалавека залежыць ад афарбоўкі яго скуры, ад колера яго вачэй, формы валос, даўжыні чэрапа, косазуб'я, праматы сківіц, вузасці твара і т. д. Яны распінаюцца на старонках друку, на універсітэцкіх кафедрах, ва ўсіх „ідэалагічных“ клааках крывавай гітлераўскай імперыі, адурманьваючы масы псеўданавуковай „слоўнасцю“ ўсялякіх даліхацэфалій, прагнатызмаў, чэрапных індэксаў і інш. „жупелаў“, якія павінны ўнушыць масам павагу і трэпет перад фашысцкай расавай магіяй, „адкрываючай“ тайныя пружыны грамадскага жыцця. Фашысты спрабуюць унушыць мільёнам рамеснікаў, дробных крамнікаў, служачых, чыноўнікаў, гарадской і вясковай дробнай буржуазіі, адсталым слаям пролетарыята, што яны з'яўляюцца ў моц колера сваіх валасоў і формы чэрапа „абранай расай“, што яны прадстаўляюць сабой „вышэйшую пароду“, закліканую тварыць гісторыю і панаваць над светам... Пэўнай частцы з гэтых мільёнаў, якіх фашысты робяць аб'ектам сваей бессаромнай расісцкай дэмагогіі, падобнага роду „адкравенні“ вельмі імпаніруюць... Людзям, якія згібаюцца пад цяжкім ярмом капіталістычнай эксплуатацыі, імпаніруе мянушка „насіцеляў света“, „поўнацэнных“, „расава-абраных“, „лепшых“, якімі іх багата адараюць фашысцкія дэмагогі. Апошнія аўтарытэтна ўстанаўляюць, што для кіраўнічай ролі ў грамадстве не патрэбны ні адукацыя, ні веды, ні ўпартая разумовая праца, ні іншыя праявы „разбэшчваючага розуму“. Для гэтага патрэбны толькі светлыя валасы, блакітныя вочы

і „чыста-арыйская душа“, бо, як гаворыць „сам“ Гітлер, „не ў інтэлектуальных дараваннях знаходзіцца прычына культурна-будоўных і творчых здольнасцей арыйца“ [1]).

Як-бы ні стараліся фашысты замаскаваць класавыя мэты усей сваей дэмагогіі, у тым ліку і яе важнейшага элемента—расавай прапаганды,—ім гэтага зрабіць не ўдаецца. Шыла ў мяшку не ўдаецца ўтаіць... Яно асабліва яўственна выглядае ў „вернаподданіцкіх“ разважаннях, прысягнуўшых на вернасць Гітлеру акадэмічных вучоных, пасяпваючых за крывавай калясніцай фашысцкіх дыктатараў. Адзін з такіх вернаподданных філосафаў праф. Гесенскага універсітэта Аўгуст Месер, так характарызуе светапогляд Гітлера: „Гітлер успрыймае прыроду антрапамарфічна, паколькі ён прыпісвае ёй поўную сэнса волю — узвысіць шляхам барацьбы цэннасць рас, і самую цэнную расу зрабіць панамі зямлі“ [2]).

Нятрудна зразумець, шляхам якой барацьбы Гітлер збіраецца „ўзвысіць цэннасць рас“. Гэта шлях—новай сусветнай бойкі, якая падрыхтоўваецца германскім імперыялізмам і ў асноўным накіравана супроць СССР.

Нятрудна зразумець, якую іменна расу марыць Гітлер зрабіць „панам зямлі“. Гэта—„раса“ эксплуататараў і драпежнікаў усіх афарбовак скуры і ўсіх форм чэрапа, заказ якіх выконваюць фашысты.

Але ўлада гэтай „расы“ асуджана на гібель неўмалімым ходам развіцця вытворчых адносін, усім працэсам класавай барацьбы. Гэтай гібелі не затрымаць гнусным наймітам фінансавага капітала, якія спрабуюць атруціць масы расісцкай бацылай. Набліжаюцца тэрміны апошняга тура войн і рэвалюцый, у якім пралетарыят пад сцягамі Комінтэрна і пад кіраўніцтвам яго правадыра т. Сталіна канчаткова расправіцца з уладай капіталістычных драпежнікаў і на той частцы зямлі, дзе яны яшчэ спраўляюць свае оргіі.

Але яшчэ доўгія гады пасля канчатковай перамогі сусветнай пралетарскай рэвалюцыі пісанні фашысцкіх „расазнаўцаў“ будуць заставацца злавесным помнікам таго культурнага адзічання, да якога дакацілася буржуазія, завяршаючы свой гістарычны шлях.

Толькі стратай рэвалюцыйнай класавай і партыйнай пільнасці, якая мела месца на асобных участках нашага ідэалагічнага фронта, толькі панаваннем на іх злачыннага апартуністычнага благадушша можна вытлумачыць, што гэтыя наскрозь варожыя пралетарыяту тэорыйкі даволі доўгі час прапагандаваліся і ва ўмовах Совецкага саюза, не знаходзячы адпору і выкрыцця.

---

[1]) Mein Kampf, Volksautgale, S. 326.

[2]) Prof. August Messer, die Philosofhie der Gegenuart. Quelle und Meyer Verl. Leipzig, 1934, S. 119.

Гэта—адзін з тых шматлікіх фактаў, якія напамінаюць аб неабходнасці павышэння рэвалюцыйнай пільнасці на ўсіх участках ідэалагічнага фронту. Трэба няўсыпна памятаць, што няма таго злачынства, на якое не пайшоў-бы класавы вораг, асабліва адчуваючы набліжаючуюся немінучую сваю гібель. Дзейнасць подлай зіноўеўска-трацкісцкай групы паказвае, што няма шчыліны, у якую ён не пралез-бы. Ідэалагічны фронт прадастаўляе асабліва многа магчымасцей для ўсякіх ухішчрэнняў, уловак і манеўраў класавага ворага. Таму тут асабліва трэба памятаць і выконваць сталінскі наказ аб рэвалюцыйнай пільнасці.

---

# ЗМЕСТ



---





Адказны карэктар Р. Тараноўская
Тэхнічны рэдактар В. Свірыдаў

Здана ў вытворчасць 27-V 1935 г.
Падпісана да друку 11-VIII 1935 г.

Фармат паперы 615×940 мм. Друк. аркушоў 6¼. Заказ № 1408.
Упаўнаважаны Галоўлітбела № Д--744. Тыраж 2.000 экз.

Друкарня Беларускай Акадэміі Навук.